Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 39 (4634) 30 верасня 2011 г.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

## Перад дажынкамі

*У жніўны дзень*
*зямля спявае*
*І весялей душы маёй.*
*Сінее далеч палявая.*
*Аблокі снежныя над ёй.*

*Слабее спёка,*
*свежы вецер,*
*Гуляюць дзеці каля хат,*
*І мне здалося,*
*што на свеце*
*Няма ні бомбаў,*
*ні гармат.*

*Гарачы дзень*
*у спелым жыце*
*Звідна камбайнамі гудзе.*
*Не патрывожце,*
*не зганіце*
*Буслоў у тлумнай*
*чарадзе!*

*Трава пажухлая на доле.*
*Звініць крынічка*
*з-пад вярбы.*
*Спявае бор, спявае поле,*
*І ў песні той*
*няма жальбы.*

*Буслам скажу я:*
*“Да спаткання!”*
*На ржышча прыйдзе*
*востры плуг.*
*Трывогі, роздум,*
*спадзяванні*
*Жыцця паўторыць*
*новы круг.*



**Жыццё чалавека творчага — мудрагелісты, бясконцы і невытлумачальны працэс. Марная спроба падзяліць яго на публічнае і асабістае, пазначыць выразную рысу між працай і адпачынкам, адмежаваць вечны рух неўміручай душы ад зямных мітрэнгаў і забыцця... Аляксандра Клімава, Актрыса Божаю ласкай, пэўна, усе 24 гадзіны ў суткі жыла Тэатрам. І, па высокім рахунку, зусім не мае значэння, што цяпер побач з імем Аляксандры Іванаўны стаяць дзве даты: “1921 — 2005”. Яна не пакідае тэатр. Яна і сёння жыве ў тэатры: як яго добры дух, яго камертон, вялікая легенда і кумір некалькіх пакаленняў калег, вучняў, прыхільнікаў.**

# Яна стварала таямніцу

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Кастуся Дробава і Аляксандра Дзмітрыева**

Росквіт, слава, яркая сцэнічная, актыўная грамадска-культурная і педагагічная дзейнасць Аляксандры Клімавай звязаныя з Мінскам. Больш як 80 роляў галоўных гераінь сыграла яна ў тэатры імя М. Горкага, больш як 30 персанажаў увасобіла ў кіно. Старонкі гісторыі айчыннага сцэнічнага мастацтва расквецілі яе такія розныя ролі: невытлумачальная чэхаўская Ранеўская; працятыя тонкім токам эмоцый ці апанаваныя інфернальнай жарсцю шэкспіраўскія Марыя Сцюарт, Ледзі Макбет і Клеапатра. Феномен Жанчыны, які даследавала яна, — гэта і Гітэль Моска (“Двое на арэлях” У. Гібсана), і Патрык Кемпбел (“Мілы хлус” Д. Кілці), і Жанчына са шматпакутнай беларускай вёскі (“Вяртанне ў Хатынь” паводле А. Адамовіча), і прынцэса Касманаполіс (“Салодкагалосая птушка юнацтва” Т. Уільямса), і фру Альвінг (“Здані” Г. Ібсена), і такая кранальная “багемная бабулька”, былая балерына Роза Аляксандраўна Песачынская (“Рэтра” А. Галіна)...

Доўгае і яркае сцэнічнае жыццё Аляксандры Клімавай пачыналася далёка ад Беларусі. Воляю лёсу яна з’явілася тут ужо даволі вядомай у тэатральным асяроддзі і паспяховай актрысай, якую запрасілі ў тагачасны Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР імя М. Горкага на ролю Камісара ў спектаклі “Аптымістычная трагедыя”. Было гэта ў 1956-м. Бліскучы мінскі дэбют вызначыў далейшы творчы шлях новай зоркі, якая з’явілася на нашым тэатральным небасхіле. І яшчэ ёсць сярод нас людзі, якія памятаюць узыход (ці ўзыходжанне!) гэтай зоркі: яе Камісара ў “Аптымістычнай трагедыі”, Нілу Сніжко ў “Барабаншчыцы”, Рашэль у “Васе Жалязновай”, Ларысу Агудалаву ў “Беспасажніцы”... Ёсць і маладзейшыя, што хадзілі адмыслова “на Клімаву”, якая ўражвала тонкасцю псіхаэмацыянальнай палітры ў кожным спектаклі. Многія захапляліся яе віртуознай ігрой у бліскучым дуэце з Расціславам Янкоўскім (Этэль, п’еса С. Томпсана “Ля залатога возера”). Не хавалі слёз на монаспектаклі актрысы “Мой тэатр”: гэты твор напісаў для Аляксандры Іванаўны яе сын, акцёр горкаўскай сцэны і літаратар Андрэй Душачкін. Тая новая шчымлівая роля сталася для яе апошняй...



Тэатральны крытык Барыс Бур’ян заўважыў аднойчы, што ў розных сваіх ролях Аляксандра Клімава не люстравала, не выяўляла, не ўвасабляла, а менавіта — даследавала феномен жанчыны. Магу дадаць, што пры гэтым актрыса-псіхолаг не толькі разгадвала таямніцы жаночай душы, але і стварала новыя.

Сёння ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага нямала прыгожых даравітых актрыс. Гэта сучасныя, добра адукаваныя нашы суайчынніцы. Але — няхай не крыўдуюць яны — у іх няма і, напэўна (такая рэальнасць), ужо не будзе той асаблівай школы высокіх традыцый, перанятых Аляксандрай Клімавай ад пакалення вялікіх рускіх актрыс памежжа XIX — XX стагоддзяў. Напэўна, пра гэта будуць гаварыць і ўдзельнікі вечара памяці Аляксандры Іванаўны, які адбудзецца 3 кастрычніка на Малой сцэне яе роднага тэатра.

*“1 кастрычніка з дня нараджэння народнай артысткі СССР Аляксандры Клімавай спаўняецца 90 гадоў. Яе малая радзіма — сяло Затаболаўка Кустанайскай вобласці (Расія). Дзяцінства прайшло ў Магнітагорску: тут скончыла сярэднюю і музычную школы, пачала працаваць на металургічным заводзе. У 1942-м паспяхова дэбютавала ў Магнітагорскім драматычным тэатры імя А. Пушкіна. Стаўшы студэнткай маскоўскай вучэльні імя М. Шчэпкіна (клас знакамітай Веры Пашэннай), удзельнічала ў спектаклях Малога тэатра. Скончыўшы навучанне, атрымала дыплом з адзнакай і... запрашэнне ў Адэскі рускі драматычны тэатр імя А. Іванова. Там сярод іншых роляў сыграла Веру ў “Абрыве” паводле І. Ганчарова, Сондру ў “Амерыканскай трагедыі” Т. Драйзера, Катарыну ва “Утаймаванні свавольніцы” У. Шэкспіра. Затым А. Клімава працавала ў славутых рускіх драматычных тэатрах Кіева і Харкава, дзе працавала над вобразамі гераінь У. Шэкспіра, А. Талстога, М. Лермантава, К. Гальдоні...*

***На здымках:** народная артыстка СССР Аляксандра Клімава; актрыса ў ролі Розы Аляксандраўны Песачынскай (спектакль “Рэтра” паводле п’есы Аляксандра Галіна).*

## Пункцірам

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў галоўнага рэдактара газеты "Советская Белоруссия" Паўла Якубовіча с 65-годдзем, высока ацаніўшы творчы талент і арганізатарскія здольнасці юбіляра.

Экспертны Савет па прэміях назваў кандыдатуры лаўрэатаў на прэмію за 2011—2012 гг. Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. На гэты раз замест звычайных трох вылучаны два: народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі і расійскі паэт Глеб Гарбоўскі.

Шырокае святкаванне стагоддзя з дня нараджэння паэта Максіма Танка плануецца ў Беларусі ў 2012 годзе. Пастановай Саўміна зацверджаны план юбілейных мерапрыемстваў: шэраг экспазіцый і выставак у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры; выданне кнігі ўспамінаў пра Максіма Танка ў серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі"; тэматычныя канцэртныя праграмы; рэспубліканскі паэтычны конкурс.

У Вільнюсе прайшоў VI Міжнародны фестываль традыцыйнай музыкі і фальклору "Пакроўскія званы". Фестываль арганізаваны Цэнтрам фальклору і этнаграфіі нацыянальных меншасцей Літвы і Школай славянскай традыцыйнай музыкі. Акрамя літоўскага фальклору было прадстаўлена народнае мастацтва Беларусі, Расіі, Украіны, Латвіі, Польшчы, Сербіі, Іспаніі. Беларускі фальклор публіцы дэманстравалі група дударскай музыкі і этнічных спеваў з Мінска "Ветах", "Сталбунскія вячоркі" з вёскі Сталбун Веткаўскага раёна, ансамблі беларускай дыяспары "Світанак" і "Юрай".

Беларусь у трэці раз прымае Манхэтэнскі фестываль кароткаметражнага кіно. І ўпершыню ён праходзіць у Віцебску. Форум увайшоў у Кнігу рэкордаў Гінэса як самы буйны глядацкі фестываль у свеце. Сёлета на конкурсе прадстаўлены 10 стужак рэжысёраў з дзевяці краін далёкага замежжа. Хаця айчынных фільмаў у праграме фестывалю няма, віцябляне з задавальненнем прымаюць удзел у праглядзе і галасаванні.

Учора на сцэне Палаца культуры прафсаюзаў прайшоў гала-канцэрт Рэспубліканскага фестывалю песні работнікаў сістэмы адукацыі "Песня застаецца з чалавекам". Ён быў прысвечаны 90-годдзю галіновага прафсаюза і Дню Настаўніка і адбыўся ў дзень стварэння самастойнага Беларускага прафесійнага саюза работнікаў адукацыі і навукі.

Згодна з рэйтынгам вядомага брытанскага агенцтва QS Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт упершыню ўвайшоў у ТОП-700 лепшых універсітэтаў свету. Прычым, знаходзіцца ён на 9-м месцы сярод ВНУ Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Лепшай ВНУ свету прызнаны Кембрыджскі ўніверсітэт. Сярод універсітэтаў краін СНД рэйтынгам, больш высокім, чым у БДУ, могуць пахваліцца толькі МДУ імя М. В. Ламаносава, Санкт-Пецярбургскі і Новарасійскі ўніверсітэты.

**Падрыхтавала Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Да Шамякіна, у Карму

**Юзэфа ВОЎК**

**У вёску Карма Добрушскага раёна, на малую радзіму Івана Шамякіна, каб ушанаваць памяць пра таленавітага пісьменніка, завіталі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец і дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў. У імпрэзе, што праходзіла на фоне помніка-бюста І. Шамякіну, узялі ўдзел прадстаўнікі Гомельскага аблвыканкама, Добрушскага райвыканкама, работнікі бібліятэк, настаўнікі, вучні.**



Так, госці з Мінска прадставілі фотавыстаўку, што асвятляе асноўныя моманты жыцця І. Шамякіна, перадалі ў Карманскую сельскую, а таксама Добрушскую раённую бібліятэкі камплекты кніг аўтараў-сяброў СПБ. Асабліва ж важкім для кармянцаў выданнем стаўся двухтомнік твораў Івана Шамякіна (Мінск, Харвест, 2009), што пабачыў свет у серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі" — своеасаблівая выдатная анталогія яго творчага шляху.

— Гэтая акцыя ўшанавання для нас вельмі важная, — зазначыў Уладзімір Пракапцоў. — Яна значная і для мяне асабіста, бо Іван Пятровіч — мой зямляк, выдатная асоба, што зрабіла значны ўклад у развіццё культуры і літаратурнай спадчыны рэспублікі. Мы бачылі, што імпрэза сталася сапраўдным святам для мясцовых жыхароў, тых, хто памятае Шамякіна як асобу, і школьнікаў, якія знаёмяцца з Іванам Пятровічам праз яго творы.

***На здымку: Уладзімір Пракапцоў і Мікалай Чаргінец падчас адкрыцця фотавыстаўкі.***

## Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



**Дзмітрый Мікалаевіч НОВІКАЎ**
**паэт**

Нарадзіўся 21 верасня 1954 года ў в. Нясцёркі Вілейскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у розных газетах і часопісах. Аўтар паэтычнага зборніка "Обнажённая душа" (1999), кнігі вершаў для дзяцей "Сашенькины песенки" (2000) і іншых кніг, выдадзеных у Беларусі і Расіі.



**Арнольд Уладзіміравіч ДЫБЧА**
**паэт, драматург**

Нарадзіўся 22 снежня 1939 года ў г. Узда Мінскай вобласці. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Працаваў рэжысёрам музычных праграм Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі. Друкуецца ў розных тэматычных зборніках, літаратурна-мастацкіх выданнях, газетах. Яго п'есы пастаўлены шэрагам беларускіх тэатраў.

## Дажынкі

# Маладзечна вітае гаспадароў зямлі

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

**"Дажынкі" — культавае свята нашых продкаў — сёння трансфармавалася па сутнасці ў прафесійнае свята працаўнікоў палёў. Але адзначаем мы "Дажынкі" ўсёй краінай, таму што пераацаніць заслугу "гаспадароў зямлі" — хлебаробаў — немагчыма.**

Рэспубліканскі фестываль-кірмаш "Дажынкі-2011" праходзіць у Маладзечне. Ён — юбілейны, пятнаццаты па ліку, і таму арганізатары яго заявілі пра сваё жаданне стварыць непаўторнае і яркае відовішча, различанае ажно на тры дні. Першы дзень святкавання адзначаецца марш-парадам з прадстаўнікамі ўсіх рэгіёнаў, пятнаццаці сталіц "Дажынак". Запланавана і яшчэ адно шэсце, маладзёжнае. Бо Маладзечна — горад моладзі. У шэсці гэтым на другі дзень прымуць удзел маладыя сем'і з калясамі, спартсмены, музыканты, байкеры. Сто танцавальных пар будуць уяўляць хлебнае поле. Публіка зможа палюбавацца на "Дажынкавы вянок", аценіць створаныя для свята калекцыі адзення з прыродных матэрыялаў, якія прадставяць самыя прыгожыя дзяўчаты. Усе віды рамёстваў, што толькі існуюць сёння ў Беларусі, прапануюць увазе гасцей народныя майстры. Для Горада майстроў, які заняў 500 квадратных метраў на цэнтральнай плошчы, зманціраваны спецыяльныя павільёны — падворкі кавалёў, вышывальшчыц, керамістаў, ткачых, лозаплецельшчыкаў. Працуюць у святочным горадзе таксама выстаўкі хлеба, мёда, гарбаты.

Незабыўным мерапрыемствам сёлетніх "Дажынак" павінна стаць пасадка алеі гісторыі фестывалю ў гарадскім парку. Пятнаццаць дрэў будуць сімвалізаваць сталіцы свята.

Канцэрты ў Маладзечне праходзяць адначасова на васьмі пляцоўках, у тым ліку маладзёжных і дзіцячых. А галоўная з іх — шыкоўны Маладзечанскі амфітэатр, пабудаваны спецыяльна да мерапрыемства. Першы канцэрт з удзелам зорак беларускай эстрады тут ладзіць Міністэрства культуры. Падрыхтавалі канцэртную праграму таксама шматлікія самадзейныя калектывы Мінскай вобласці.

У межах фестывалю абвешчана Ноч сімфанічнай музыкі, якая завершыць праграму першага дня. Музыканты будуць радаваць прыхільнікаў класікі ва ўнутраным дворыку музычнага вучылішча імя М. Кл. Агінскага. Сімфанічны аркестр музычнага вучылішча дасць канцэрт і на другі дзень свята — на галоўнай сцэне "Дажынак".

Сталіца свята Маладзечна трымае жывую сувязь з усімі рэгіёнамі краіны. На цэнтральнай плошчы ўсталяваны вялікі экран для прагядзення тэлемоста з іншымі абласцямі Беларусі.

Ладзіць рэспубліканскія "Дажынкі" кожны год у розных рэгіёнах, бачна па ўсім, — традыцыя сапраўды добрая. Акрамя таго, што ў атмасферу вялікага святкавання атрымоўвае магчымасць акунуцца ўсё большая колькасць суайчыннікаў, дык яшчэ і раённыя цэнтры нашыя харашэюць. Так, падчас падрыхтоўкі да "Дажынак-2011" у Маладзечне быў добраўпарадкаваны парк культуры і адпачынку, горад упрыгожылі скульптурныя кампазіцыі. Акрамя новапабудаванага амфітэатра з'явіўся Дом культуры ў в. Чысць Маладзечанскага раёна. Капітальна адрамантаваны яшчэ 13 аб'ектаў культуры.

## Памяць

# Воін, паэт, патрыёт

**Літаратурны вечар памяці Рыгора Сакалоўскага пад назвай "Ганарымся табою — воін, паэт, патрыёт!" прайшоў у Рэспубліканскім Доме ДТСААФ.**

Успомніць Рыгора Васільевіча прыйшлі родныя і сябры паэта, прадстаўнікі цэнтральнага савета ДТСААФ, Беларускага саюза журналістаў, ваеннага інфармацыйнага агенцтва Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь "Ваяр", літаратурнага аб'яднання ДТСААФ, Студыі ваенных пісьменнікаў, Беларускага саюза афіцэраў, члены маладзёжнага клуба "Патрыёт".

Вечар памяці адкрыў намеснік старшыні цэнтральнага савета ДТСААФ палкоўнік запасу Уладзімір Сераштан, які, праходзячы службу ў цэнтральным апараце Міністэрства абароны РБ, шмат гадоў добра ведаў галоўнага рэдактара "Во славу Родины" Рыгора Сакалоўскага.

Вершы з кнігі Сакалоўскага "Афганское рэха" прачытаў удзельнік баявых дзеянняў у Афганістане, старшыня Мінскай гарадской арганізацыі ветэранаў вайны ў Афганістане "Памяць", палкоўнік у адстаўцы Уладзімір Шокаў. Ён уручыў удаве паэта медаль "За заслугі" Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане, якім узнагароджаны воін-інтэрнацыяналіст Р. Сакалоўскі пасмяротна.

**Прэс-служба ДТСААФ**

## Прэзентацыі



# Фотаздымкі з гісторыяй

**У Доме культуры г. Слуцка прайшла прэзентацыя кнігі "Слуцк. Падарожжа ў часе", выдадзенай рэдакцыйна-выдавецкай установай "Літаратура і Мастацтва".**

**Дар'я ШОЦІК**

У гэты дзень у Дом культуры завіталі дырэктар Слуцкага краязнаўчага музея, складальнік і аўтар уступнага артыкула Наталля Серык, дырэктар адкрытага акцыянернага таварыства "Слуцкі цукровa-рафінадны камбінат" Мікалай Пруднік, фотамайстар Уладзімір Суцягін, намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Ала Корбут, дырэктар гімназіі № 1 г. Слуцка Уладзімір Яблачкін, краязнаўца Ігар Ціткоўскі ды іншыя.

Наталля Серык заўважыла, што фотадакументы, зробленыя ў пачатку мінулага стагоддзя, у ваенны час, пасля вайны, а таксама фотаздымкі 2011 года, змешчаныя ў альбоме, спрыяюць выхаванню нашай духоўнасці. Такі фотаальбом будзе добрай дапамогай для вучняў і настаўнікаў на ўроках, факультатывах па гісторыі.

У выданні выкарыстаны гістарычныя фотаздымкі і паштоўкі з архіваў Слуцкага і Капыльскага краязнаўчых музеяў, Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, Цэнтра па рэгенерацыі гісторыка-культурных ландшафтаў і тэрыторый, Беларускага тэлеграфнага агенцтва (БелТА), Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотадакументаў, Расійскага этнаграфічнага музея (г. Санкт-Пецярбург), бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта, Інстытута мастацтваў Польскай акадэміі навук, Казловіцкага народнага хору, а таксама з асабістых архіваў.

***На здымку: Наталля Серык на прэзентацыі выдання.***

Літабсягі

# Спачатку было слова

**У выдавецтве "Пачатковая школа" ўбачыла свет кніга Валянціны Стэльмах "Беларусь у асобах". Пад яе вокладкай чытач знойдзе 50 інтэрв'ю з вядомымі людзьмі, якімі па праве можа ганарыцца наша краіна.**



Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

У 2002 годзе на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё распачаўся аўтарскі праект журналісткі Валянціны Стэльмах — публіцыстычная перадача "Галерэя. Партрэты сучаснікаў". Гасцямі студыі сталі больш як 350 асоб — сваўтасці, імёны якіх не сыходзяць з газетных старонак: дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў, вучоныя, спартсмены, мастакі, спевакі, музыканты, кампазітары, скульптары, архітэктары, пісьменнікі, акцёры і нашы сучаснікі, якія кожны дзень шчыруюць на карысць краіны і з'яўляюцца добрым прыкладам грамадскага служэння: рабочыя, вяскоўцы, выратавальнікі, таксісты, лётчыкі, кветкаводы, бібліятэкары… Творчы падыход, уменне адчуваць слова, а таксама высокі прафесіяналізм дазволілі Валянціне Стэльмах раскрыць слухачам унікальнасць кожнага суразмоўцы, стварыць сапраўдную партрэтную галерэю нашых суайчыннікаў. У 2005 годзе праект быў адзначаны прэміяй Беларускага саюза журналістаў на конкурсе "Залатое пяро" за лепшую журналісцкую работу.

Потым, як піша ў прадмове дырэктар выдавецтва "Пачатковая школа" Наталля Ваніна, склалася "на адным подыху" гэта кніга. У яе ўвайшлі пяцьдзясят партрэтаў, аздобленых унікальнымі фотаздымкамі — сучаснымі і з сямейных архіваў герояў. Сярод герояў кнігі і тыя, чые фотаздымкі ўпрыгожваюць вокладку: народная артыстка Беларусі спявачка Наталля Гайда, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь Аляксандр Анісімаў, дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску Таццяна Шэляговіч, выдатнік друку Соф'я Жыбулеўская, Герой Беларусі Міхаіл Высоцкі і Мікалай Нельга, кавалер ордэна Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны І ступені, медаля "За доблесную працу ў гады Вялікай Айчыннай вайны" і іншых узнагарод, які перасягнуў стогадовы рубеж.

Лёс кожнага з герояў гэтай кнігі — нібы люстэрка, у якім адбіваюцца значныя падзеі жыцця Беларусі ад пасляваенных да апошніх гадоў. Выпрабаванні, якія выпалі кожнаму з іх, яны вытрымалі з годнасцю. Бо галоўнае, што яднае ўсіх гэтых людзей, — любоў да Радзімы.

Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

# Сезон сюрпрызаў

**Музычны фестываль, які носіць імя айчыннага кампазітара-класіка і педагога, народнага артыста БССР Мікалая Чуркіна, адбыўся пры канцы мінулага тыдня ў Мсціславе. Гэтая традыцыйная імпрэза расквеціла святочную атмасферу Дня горада, з чым спалучылася і правядзенне мясцовых "Дажынак". А яшчэ фестываль "Мсціслаў-2011" папоўніў летапіс музычна-асветніцкага руху, які пры канцы мінулага стагоддзя разгарнуў у гістарычных асяродках розных рэгіёнаў краіны Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь.**

Можна сказаць, з першых сваіх творчых крокаў гэты заслужаны калектыў пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі, прафесара Міхаіла Фінберга імкнецца праз шматжанравую канцэртную, фестывальную дзейнасць папулярызаваць лепшыя ўзоры камерна-інструментальнай, джазавай, харавой і эстраднай песеннай класікі, адраджаць забытыя старонкі айчыннай музычнай спадчыны, прапагандаваць праз песню роднае слова, адукоўваць публіку, выхоўваць у глыбінцы новае пакаленне слухачоў. А між іншым, першыя творчыя крокі знакаміты аркестр зрабіў амаль чвэрць стагоддзя таму. Такім чынам, яго цяперашні сезон — юбілейны. Маэстра Фінберг, як вядома, не прыхільнік пампезных святкаванняў, таму 25-годдзе аркестра будзе адзначана ўласцівай кожнаму сезону напружанай працай над шматлікімі творчымі праектамі, развіццём фестывальнай і гастрольнай дзейнасці, новымі канцэртнымі праграмамі ў сталіцы і за мяжой. Пры канцы жніўня вялікі калектыў на чале са сваім мастацкім кіраўніком здзейсніў надзвычай значную працу па арганізацыі і правядзенні Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2011" (у тым ліку і рэспубліканскага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні). Да Дня беларускага пісьменства правёў свята камернай і духоўнай музыкі "Тураў-2011" (такая традыцыя існуе тут з 2005 года). У дзень, калі Навагрудак адзначаў гістарычную падзею — 500-годдзе атрымання магдэбургскага права, Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі падараваў гораду адмысловую канцэртную праграму, складзеную са старажытнай беларускай музыкі...

Новымі манаграфічнымі праектамі музыканты пад кіраўніцтвам М. Фінберга адзначаць юбілеі Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Рыгора Шырмы, Льва Абелійвіча. Разам з аркестрам адсвяткуюць свае прыгожыя даты кампазітары Дзмітрый Смольскі, Эдуард Зарыцкі. Рыхтуецца нямала прэм'ер-сюрпрызаў і для традыцыйных фестывальных праектаў, якія набылі папулярнасць у публіцы.



***На здымку: музыканты знакамітага аркестра.***

Повязі

Ідрак МІРЗАЛІЗАДЭ

# Бязмежжа персідскай паэзіі

**Вечар памяці сусветна вядомага, аднаго з самых яскравых паэтаў Ірана Мухаммада Хусейна Шахрыяра нядаўна ўпершыню прайшоў у Беларусі.**
**18 верасня — дзень смерці паэта — у Іране лічыцца таксама і Днём персідскай паэзіі і літаратуры, што яшчэ раз падкрэслівае веліч яго таленту.**
**У невялікай камернай зале Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта сабраліся аматары персідскай паэзіі, каб паслухаць вершы і дакрануцца да надзвычай філасофскай і лірычнай паэзіі вялікага Шахрыяра.**

Да прысутных звярнуўся Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь Сейед Абдолла Хосейні, які выказаў захапленне паэзіяй вялікага суайчынніка і, даючы ёй поўную характарыстыку, у поўнай ступені акрэсліваючы вытокі і перадумовы яе папулярнасці, між іншым адзначыў і асаблівае стаўленне аўтара да гісторыі, іншых народаў. Так, галоўная тэорыя Шахрыяра — гэта тэорыя цывілізацыі, заснаванай на маральнасці. Такое паважлівае стаўленне поўным чынам сказалася і на складзе тых, хто прыйшоў на вечар памяці — зала на самой справе была шматнацыянальнай. Падчас імпрэзы таксама выступіў Пасол Азербайджана ў Беларусі Ісфандыяр Вагабзадэ.

На вечары гучала паэзія Шахрыяра на яго роднай персідскай мове, выконваліся песні, напісаныя на яго вершы. А беларускі паэт Міхась Башлакоў прапанаваў прысутным пераклад аднаго з вершаў персідскага паэта на беларускую мову, што асабліва ўразіла замежных гасцей. І, паверце, на беларускай мове Шахрыяр гучыць не менш пранікнёна і прыгожа! Уручаючы памятны падарунак Міхасю Башлакову, Пасол Ірана, высока ацэньваючы важкі ўклад такіх сустрэч у развіццё культурных сувязей паміж дзвюма дзяржавамі, выказаў спадзяванне, што вечары памяці стануць традыцыйнымі і будуць праходзіць не толькі ў Беларусі: "Спадзяюся, што недалёкі той час, калі мы ўжо ў Іране арганізуем урачысты вечар памяці Янкі Купалы і іншых беларускіх песняроў".



***На здымку: Пасол Ірана ў Беларусі Сейед Абдолла Хосейні і паэт Міхась Башлакоў.***

З-пад пяра

Спектакль "Чароўныя падарункі" паводле п'есы Віталя Вольскага "Дзед і Жораў", якім Беларускі дзяржаўны тэатр лялек адкрыў новы, 74-ы, сезон, з'яўляецца класікай нацыянальнай драматургіі. Аднак гледачоў чакаюць у гэтым сезоне і новыя пастаноўкі. Рэжысёрам Аляксандрам Янушкевічам і мастаком Валерыем Рачкоўскім быў падрыхтаваны спектакль для дзяцей "Асцярожна, свіння". Дарослым будзе прадстаўлена пастаноўка "Шоўк". Завершыцца тэатральны сезон Беларускім міжнародным фестывалем тэатраў лялек, які пройдзе ў маі 2012 года.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашае ўзяць удзел у акцыі "Настаўніца першая мая…", якая адбудзецца ў рамках культурна-адукацыйнага праекта "Музейная пошта". Акцыя дае магчымасць напісаць шчыры ліст сваёй першай настаўніцы ці любімаму настаўніку старшых класаў. Музей дапаможа ў пошуку адрасата. Для правядзення акцыі 2011 год і свята ўсіх настаўнікаў абраны невыпадкова. Сёлета музей адзначае 155-годдзе з дня нараджэння першай настаўніцы Янкі Купалы Алімпіяды Сонцавай, якая выкладала ў Сенненскай школе і першая заўважыла здольнасці маленькага Яся.

**Вольга ПАРХІМОВІЧ**

Літаратурная вечарына "Рвецца дух мой на свабоду…", прысвечаная 100-годдзю вызвалення Якуба Коласа з мінскай турмы, прайшла ў музеі класіка. Падчас яе наведвальнікі даведаліся, напрыклад, што за кратамі Якуб Колас адгадаваў бараду, каб хаваць туды нож. А яшчэ пра тое, што зняволеным "Валадаркі", у тым ліку і Кастусю Міцкевічу, дазвалялася мець грошы, самім купляць харчы, гатаваць ежу. На вечарыне гучалі вершы, напісаныя паэтам у зняволенні. Іх чытаў малодшы сын Коласа Міхась Міцкевіч. У імпрэзе ўдзельнічалі таксама вучні гімназіі № 4 г. Мінска.

**Ірына КАРЭЛІНА**

У Адэсе прайшоў IX Міжнародны фестываль яўрэйскай музыкі, у якім узялі ўдзел музычныя калектывы з Ізраіля, Латвіі, Літвы, Украіны, Расіі, Татарстана. Беларусь прадстаўляў ансамбль "Тхія" (Адраджэнне) з Бабруйска. Яго выступленне атрымала высокую адзнаку кіраўніцтва фестывалю, якое выказала музычнаму калектыву падзяку за значны ўнёсак у развіццё яўрэйскай культуры. "Тхія" — адзін з самых яркіх яўрэйскіх музычных праектаў у Беларусі. Музыканты чатыры разы запар станавіліся пераможцамі Гала-канцэртаў "Ханукальныя агні" ў Мінску, тройчы — лаўрэатамі Міжнароднага фестывалю нацыянальных культур у Гродне. Яны — уладальнікі Гран-пры І Міжнароднага фестывалю "Яўрэйскі кірмаш" і лаўрэаты міжнароднага фестывалю народнай творчасці "Вянок дружбы".

**Вольга АСОКІНА**

У межах візіту афіцыйнай дэлегацыі КНР на чале са старшынёй Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў У Банго ў Рэспубліку Беларусь Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта наведала спадарыня Сюй Лінь, кіраўнік Дзяржаўнай канцылярыі КНР па міжнародным распаўсюджванні кітайскай мовы. Падчас брыфінгу з удзелам беларускіх і кітайскіх супрацоўнікаў інстытута Сюй Лінь акрэсліла кірункі далейшага развіцця ўстановы: моўная падрыхтоўка студэнтаў, выкладчыкаў ВНУ, правядзенне культуралагічных мерапрыемстваў і лекцый, інфармацыйная падтрымка праектаў, звязаных з Кітаем.

**Вераніка ЛАЗОЎСКАЯ**

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# «Толькі чуйнаму сэрцу адкрыць сакрэт»

## *Пра кнігу «Стэпавы прастор» і не толькі*

**Не-не дый успомняцца добрыя старыя часы, калі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" штогод выходзіла шмат перакладных кніг, у тым ліку і ў серыях. Сярод іх папулярнасцю карысталася бібліятэчка "Паэзія народаў СССР". Збіраючы яе чарговыя кніжачкі, з радасцю перачытваў і томік Абая.**

Калі ж пазнаёміўся з гістарычным раманам-эпапеяй другога волата казахскага прыгожага пісьменства Мухтара Аўэзава "Шлях Абая", адзначанага Ленінскай прэміяй. Адразу ж захацелася пазнаёміцца і з творчасцю таго, пра каго так пранікнёна расказаў М. Аўэзаў. Тады я і заказаў у тагачаснай Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна кнігу Абая "Собрания сочинений в одном томе", выдадзеную ў Маскве. Аднак у душы жыло спадзяванне, што калі-небудзь творчасць выдатнага казахскага паэта будзе прадстаўлена па-беларуску паўней.

Маё жаданне спраўдзілася праз шмат-шмат гадоў, калі подступы для ажыццяўлення гэтага былі зроблены ў адным з нумароў "Полымя", у якім падборку вершаў Абая пераклаў Мікола Мятліцкі.

Казахская прымаўка гаворыць: "Песня раскрывае прыгажосць душы". Творчасць жа Абая раскрывае прыгажосць душы ўсяго казахскага народа. У сувязі з гэтым успамінаецца і яшчэ адна казахская прымаўка: "Чалавек — апора чалавеку". У дачыненні да Абая смела можна сцвярджаць, што ён апора ўсёй нацыі. Абай быў перакананы: "Ты, чалавек, — цаглінка светабудовы, // Знайдзі сваё месца ў гэтым будынку // І дастойна займі яго". Асобнага ж чалавека ён заўсёды ўспрымаў як частку нацыі.

Аднак, калі чытаў тую падборку Абая, радасць напаўняла мяне і з іншай прычыны. М. Мятліцкі, па-майстэрску валодаючы словам, здолеў спасцігнуць сам дух творчасці таго, пра каго пераклаў. Больш за тое, успрыняў стыхію стэпавага народа як сваю родную, а таму блізкую яму. З гэтай прычыны вершы Абая, не страціўшы сваёй першароднасці, набылі і новае гучанне: Абай, застаючыся казахам, у чымсьці, ледзь улоўным, ператвараўся і ў беларуса.

Куды ў большай ступені адчуваеш гэта, калі знаёмішся з кнігай выбраных вершаў Абая "Стэпавы прастор", выдадзенай РВУ "Літаратура і Мастацтва" дзякуючы фінансавай падтрымцы Пасольства Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь. Зразумела, перакладчык таксама М. Мятліцкі. Ён здолеў той палымянскай падборкай Абая не проста навесці пераправу на рацэ сяброўства, што лучыць нашы народы — казахскі і беларускі, — а і заклаў асновы будучага моста, што і стаў трывалым дзякуючы кнізе "Стэпавы прастор".

> *"Абай і Купала... Яны абодва геніі сваіх нацыянальных літаратур і абодва, зразумела, іх класікі. Самае вызначальнае тое, што, як Купала на ўвесь свет засведчыў, што ёсць такі народ — беларусы, гэтаксама заявіў Абай — рашуча, на поўны голас: жывуць на зямлі казахі, і з імі нельга не лічыцца.*

Да месца сказаць колькі слоў пра самога генія казахскага народа. Радзіма Абая — Чынгізскія горы, што знаходзяцца на тэрыторыі цяперашняй Сяміпалацінскай вобласці Рэспублікі Казахстан. Бацька будучага асветніка, гуманіста, пісьменніка Кунанбай Ускенбаеў, багаты феадал, хацеў, каб і сын пайшоў ягоным шляхам. Ды сам Ібрагім (так яго звалі тады) пра іншае жыццё марыў. З юных гадоў ён




клопатна дбаў пра лёс народны, яму хацелася лепшай долі для галодных і абяздоленых. Прагнуў для народа асветы. Таму шмат чытаў, узяўся за вывучэнне арабскай, персідскай і іншых усходніх моў.

Гэта не перашкодзіла Абаю вывучыць і рускую мову, наведваючы рускую школу. Сасланыя ў Казахстан рэвалюцыянеры пазнаёмілі яго з творчасцю Пушкіна, Лермантава, Крылова, якія сталі ягонымі любімымі паэтамі. Дарэчы, пераклады іх твораў, выкананыя Абаем, па сённяшні дзень лепшыя ў казахскай літаратуры. Вабіла Абая і творчасць Льва Талстога, працы Бялінскага. Не ў меншай ступені яго цікавілі паэты і вучоныя Усходу: Авіцэна, Наваі, Нізамі. Пазней Абай увайшоў у свет мудрасці Арыстоцеля, Платона, Сакрата.

Уласнымі ж вершамі прамаўляць ён пачаў вельмі рана. Менавіта прамаўляць, бо свае першыя творы спачатку не пісаў, а, завучыўшы іх на памяць, дэкламаваў знаёмым. Творы гэтыя іх настолькі ўражвалі, што пачалі перадавацца з вуснаў у вусны. Асобныя, больш познія, захаваліся дзякуючы запісам Мурсеіта Бекіна. Шкада, што не ўсе, бо нават першыя з тых вершаў, якія былі напісаны, а яны датуюцца канцом 1870-х гадоў, сведчаць пра высокае майстэрства. Значыць, з усёй верагоднасцю можна сцвярджаць, што і тое ранняе, якое не дайшло да нас, было належнага ўзроўню, бо нішто з нічога не з'яўляецца, а адбываецца заканамерны працэс самаўдасканалення.

Стаўшы заснавальнікам новай казахскай пісьмовай літаратуры, Абай уласным прыкладам паказаў, як і пра што трэба пісаць. Будучы непераўзыдзеным майстрам верша, ён уводзіў у творчы ўжытак формы і жанры, у засваенні якіх стаў першапраходцам. У прыватнасці, дзякуючы Абаю ў казахскай паэзіі з'явіліся шасці- і васьмірадкоўі. На жаль, сваёй першай кнігі пры жыцці ён не дачакаўся. Дый пайшоў з жыцця рана, пражыўшы па сутнасці столькі, колькі і пясняр беларускага народа Янка Купала.

Але Абай і Купала не толькі, правільней, не столькі ў гэтым, вобразна кажучы, блізнюкі-браты. Ёсць еднасць больш істотная, больш важная. Яны абодва геніі сваіх нацыянальных літаратур і абодва, зразумела, іх класікі. Самае вызначальнае тое, што, як Купала на ўвесь свет засведчыў, што ёсць такі народ — беларусы, гэтаксама заявіў Абай — рашуча, на поўны голас: жывуць на зямлі казахі, і з імі нельга не лічыцца. Абай заклікаў сваіх суродзічаў прачнуцца ад векавога сну, пазбавіцца нематы, хоць не мог не бачыць, што пакуль ягоныя спадзяванні ў нечым яшчэ марныя. Толькі адступаць не збіраўся:

> *"Мастакоўскае крэда было выказана Абаем у адным з твораў:*
> *Вершаў я не пішу*
> *для пацех пустых,*
> *Каб паболей сабраць*
> *небыліц былых,*
> *Я пішу, каб радком*
> *хоць чаму вучыць..."*

О казахі мае!
Мой бедны народ!
Жорсткім вусам
няголеным прыкрыты рот.
Кроў — на правай шчацэ,
а на левай — тлушч...
Дзе ж тут праўда?
Твой розум маўчыць шмат год.

Не паганы, —
чуцён славы добрай зык.
Шчыры гойнай душой,
не малы на лік.
Ты не хочаш парады мае пачуць,
Рэжа ўсіх без разбору
твой серп-язык.

Не ўладарыш адно
над сабой самім.
Мы трывожымся днём
і кашмары снім.
Ганарысты падчас,
а то з крыўдай глядзіш,
Пастаянны ты
ў непастаянстве адным.

Усялякі нікчэмны і хіжы зброд
Так знявечыў душу тваю, мой народ.
Дзе надзея на выпраўленне тваё,
Калі долі сваёй не каштуеш плод?

Вершы Абая пераўвасоблены М. Мятліцкім з такім дакладным пранікненнем у сутнасць сказанага, што няма ніякага сумнення наконт таго, што прамаўляе не проста сам Абай, а менавіта Абай-казах. Настолькі навідавоку дух ягонай паэзіі. Гэтаксама адчуваецца і паветра яго роднай зямлі. Гэта датычыць у аднолькавай ступені як твораў, у якіх гучаць публіцыстычныя матывы, відавочны грамадзянскі пафас — а іх у Абая шмат, — так і лірычных. Дарэчы, вершы для перакладу падабраны найбольш значныя, якія дазваляюць лепш адчуць творчую індывідуальнасць Абая, зразумець, наколькі яркая і непаўторная яго асоба.

Прынамсі, гэта датычыць цыкла, прысвечанага паравінам года. Вершы "Вясна", "Лета", "Восень", "Зіма" для свайго часу сталі новымі ў казахскай літаратуры. Кожны з іх — такі ўсплёск вобразнасці (я не агаварыўся, менавіта ўсплёск), што адразу з'яўляецца адчуванне і тваёй асабістай прысутнасці ў свеце казахскай прыроды. Ты — частка яе, а яна, прырода, — не менш значная частка цябе самога.

Аднак пры мастакоўскай значнасці любога з гэтых твораў верш "Зіма" — усё ж найлепшы, ён можа зрабіць гонар любой літаратуры нават сёння. Напісаў жа яго Абай яшчэ ў 1888 годзе. Пішучы сваю "Зіму", Абай глядзеў у перспектыву. Ён інтуітыўна адчуваў, прадугадваў, як павінна развівацца паэзія далей, каб не толькі не страціць свайго чытача, а і пераконваць яго, што колькі часу ні мінецца, а сапраўдная літаратура будзе жыць.

Услухаемся ў музыку гэтых вобразаў Абая-Мятліцкага. Так, Абая-Мятліцкага, бо ў вершы "Зіма", калі яго ўспрымаць як беларускамоўны твор, паўстаюць два аўтары — паэт і перакладчык, раўназначныя сваім талентам, уменнем ствараць такія аб'ёмныя паэтычныя вобразы, якімі нельга не захапляцца:

*У апрацінах белых,*
*з сівой барадой,*
*Ад нямоты сляпы,*
*з ледзяною душой,*
*Зледзянелы увесь*
*і суровы на від,*
*Дзе ні ступіць —*
*пасее страх спудлівы свой.*
*Подых — стылы мароз,*
*сівер люты і снег,*
*Сват стары,*
*цэлы свет забярэ ў непакой.*

Мастакоўскае крэда было выказана Абаем у адным з твораў: "Вершаў я не пішу для пацех пустых, // Каб паболей сабраць небыліц былых, // Я пішу, каб радком хоць чаму вучыць..." Праўда была на ягоным баку і тады, калі сцвярджаў: "Верхагляду радкоў маіх не ацаніць, // Толькі чуйнаму сэрцу адкрыць сакрэт".

Як вялікі Пушкін "памятник себе воздвиг нерукотворный", так зрабіў гэта і вялікі Абай. Ён меў усе падставы сказаць:

*Прах мой сатлее,*
*ды сам я не знікну, о не,*
*Хоць і вачэй маіх*
*сонца ўзыход не кране,*
*Хай развітанню*
*з цялеснаю існасцю быць,*
*Толькі душа мая*
*ў зорныя высі памкне.*

Перагарнуўшы апошнюю старонку гэтага гожага томіка, аформленага так, быццам увачавідкі бачыш перад сабой краявід Казахстана (гэта пастараўся ўжо мастак А. Званароў), доўга не хочацца адкладваць яго. Але не толькі таму, што, знаходзячыся ў палоне паэзіі Абая, быццам адчуваеш ягоную прысутнасць. Па іншай прычыне таксама. Чаму б добрую справу па прапагандзе творчасці класіка казахскай літаратуры сярод беларускіх чытачоў не прадоўжыць. Так і напрошваецца з'яўленне новых кніг Абая.

Было б проста цудоўна, калі б па-беларуску загучалі ягоныя паэмы. У гэтым жа кірунку набыткі Абая таксама надзіва важкія і выніковыя. У паэмах "Масгуд" і "Сказанне пра Азіма" ён, адштурхнуўшыся ад сюжэтаў класічнай усходняй літаратуры, па сутнасці стварыў новыя арыгінальныя творы, у якіх відавочная яго прысутнасць у тым часе, пра які расказвае, адчуваецца сам дух паэзіі Абая.

Не лішне было б перакласці і яго празаічныя "Павучанні". Гэта сапраўдныя ўрокі, якія дае майстра тым, хто хоча жыць годна, жадае лепш ведаць свой край, яго багатую даўніну. Пра што б ні пісаў Абай, ён прамаўляе лаканічна, але за гэтай лаканічнасцю — мудрасць, глыбіня думкі.

У гэткім самым афармленні, што і папярэдні, гэтыя томікі стануць добрым падарункам для тых, хто цікавіцца творчасцю найвялікшага сына братняга нам народа. А верыцца ў працяг згаданага выдавецкага праекта таму, што на прэзентацыі кнігі "Стэпавы прастор" у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі быў уражаны, як грунтоўна, з якім глыбокім веданнем гаварыў пра творчасць Абая Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Анатоль Смірноў. Было відавочна, што прамаўляў ён не толькі як афіцыйны прадстаўнік сваёй краіны ў нашай краіне. Гэта выступаў чалавек, які сам любіць літаратуру і, у прыватнасці, паэзію.

Такіх людзей прыемна слухаць.

З гэткімі людзьмі ганарова супрацоўнічаць.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# Вечная драма ў працэсе змены дэкарацый




Заўсёды дзіўна адно: як жыццё ператвараецца ў літаратуру. Побытавы штрых — у апавяданне, сегмент унутранага вопыту — у раман. Як гэта ўсё ідзе? Мільярды падзей, актуальных і, наадварот, дробязных, адбываюцца кожны дзень, і калі яны чамусь трапляюць у тэкст, то, відаць, нездарма; відаць, ёсць у іх ці, прынамсі, можа быць нейкі сэнс.

Скажам, ёсць у нас сюжэт. Што называецца, "непрыдуманая гісторыя". Можна нават яе і запісаць, каб не забыць. Запісалі. І вось тут пачынаюцца спакусы: а тое, што выкладзена, ці не з'яўляецца ўжо — літаратурай? Напісана, набрана, выведзена на паперу — чым не мастацкі тэкст?

Тэкст сапраўды ёсць. І героі. І падзеі. Магчыма, нават кульмінацыя з развязкай. Але мяжа літаратуры не пяройдзена. Не, гэта яшчэ не проза, спадарства. Гэта сінопсіс.

Я гэта ўсё да таго, што сучасная наша проза, як рыбіна ў мярэжы, валтузіцца, спрабуючы вылезці з "голага сюжэта". Але дасягнуць іншага разумення можна толькі пры знаходжанні ўласных памылак і іх выпраўленні.

Мне здаецца, што вось так пераглядае сябе Мікола Адам. Проза ягоная даўно вядома тым, хто чытае нашы літаратурныя выданні — газеты і часопісы. З'яўляецца ён у іх рэгулярна, хоць, можа, і не так часта, як хацелася б. Ды і з кнігамі бяда, а часопісныя і газетныя публікацыі маюць моду губляцца і забывацца. Кніга ж як факт культуры *застаецца* нават тады, калі не з'яўляецца каштоўнай з тэкставага боку. Бо тэкст — толькі адзін, хоць і асноўны, яе складнік. Але вернемся да Адама.

Новае апавяданне, апублікаванае ў жнівеньскім нумары "Полымя", цікавае перадусім тым, як аўтар спраўляецца з традыцыйным сюжэтам і рэалістычнай асновай. Традыцыйнасць Адам падкрэслівае адразу, у назве твора — "Вечная драма". Гаворка, зразумела, пра каханне. Дзяўчына кахае хлапчыну. Нічога добрага гэта не абяцае, і ўсё адразу ясна. Сюжэт разгортваецца на мясцовым матэрыяле, без прыўнясення арнаментальнага каларыту: у мястэчку прыгожая школьніца знаёміцца з хлопцам і кладзе на яго вока. Ва ўніверсітэце пачынае яго кахаць, шчыра і глыбока: ён адкрывае ёй свет. Потым прыходзіць здрада, расстанне, адчай, спроба прымірэння з боку хлопца, пакуты дзяўчыны: Яна адмовілася ад Яго. Жарсці бурляць проста мексіканскія. Як бачыце, выкладзеная фабула жахліва банальная. Але нешта такі пры чытанні з'яўляецца, нешта вярэдзіць, і вось ваш пакорлівы слуга сядзіць і спрабуе даўмецца: што?

Хіба тое, што аповед разарваны на шматочкі дробных фрагментаў, імпрэсій-адчуванняў галоўнай гераіні і часавы складнік крыху больш рассеяны, не прасталінейны? Ды, бадай, такім сёння нікога не здзівіш: так яшчэ Чорны пісаў.

Можа, тое, што Адам перарывае рэалістычную тканіну апавядання выхадам у амаль інфернальны свет. Пакутуючы ад здрады каханага, студэнтка Карына, галоўная гераіня, разбівае адно люстэрка, а потым бярэцца за другое і доўга ўглядаецца ў яго: "Цішыня забівала, ачмураючы, быццам ядам, думкі. І прыносіла нейкае раней невядомае задавальненне. Гэта нагадвала пакуты на дыбе і паэзію адначасова. Паэзія, таму што ў руках Карына зноў трымала люстэрка, знятае са сценкі. Яно было большае за тое, якое яна пабіла. Карына глядзела ў люстэрка, але свайго твару ў ім не бачыла. Яна глядзелася ў густую цемру пустаты, чорную і ліпкую.

І раптам яна дзіка закрычала, спалохаўшыся нечага, убачанага ў чорнай багне цемры, і з усяе сілы кінула люстэрка на падлогу". Гераіня палохаецца, убачыўшы, як зацягвае ў сябе люстэрка, як у ім адбіваюцца твары каханага і ягонай нібыта жонкі. Шкло смяецца з яе. Гэта вельмі цікава не само па сабе (бо інфернальны свет для беларускай прозы таксама не навіна): значна цяжэй сёння знайсці ў нас твор без падобных закідонаў у тагасвет. Але дужа сімпатычнай бачыцца ўласна падача гэтага, і верыш, што тут усё сапраўды на месцы, і эпізод са спалоханай дзяўчынай, якая вар'яцее ад кахання, выдатны; вельмі трапна схоплена сітуацыя.

Ды, можа, найважнейшае ў "Вечнай драме" тое, *як* напісана. Дэталі ёсць проста бліскучыя, на мой погляд. Напрыклад, такое: "Ён навучыў яе і цалавацца, паказаўшы краіну кахання. Але не проста паказаў, а завёў яе туды за руку, як малое дзіця". Мне падаецца, што ў гэтым выразе ўсё пра першае каханне сказана, напоўніцу. І калі б гэтага маленькага сказа не было, то не атрымаўся б твор, марнымі былі б усе намаганні. Але ёсць словы, ёсць пачуццё, ёсць сэнс. А ён абвязаны быць, калі мы не хочам, каб літаратура стала пошлай гульнёй для дарослых людзей.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# Партрэт «па памяці» і «паводле ўяўлення»




Жнівеньскі нумар часопіса "Нёман" прадставіў аповесць Уладзіміра Сцяпана "Высокі бераг", што мае падзагаловак "Партрэт мастака на фоне дзяцей, якія малююць" (пераклад з беларускай мовы Алены Марковіч). Твор прысвечаны жыццёваму і творчаму лёсу Сяргея Каткова, жывапісца, графіка, выкладчыка студыі пры сталічным Палацы піянераў і школьнікаў, настаўніка многіх беларускіх мастакоў, у тым ліку Мая Данцыга, Леаніда Левіна, Васіля Сумарава, Зоі Літвінавай, Уладзіміра Тоўсціка, Нінэль Шчаснай.

Тым не менш сапраўдны ўзровень аповесці я зразумеў не адразу, бо спярша за чытанне "Высокага берага" не хацелася брацца. Насцярожвала тое, што твор падзелены на невялікія раздзелы з падзагалоўкамі. Падавалася, што прынцып, выбраны У. Сцяпанам, больш падыходзіць для дакументальнага партрэта ці папулярнай біяграфіі пэўнага героя. Акрамя таго, даўно стаўлюся з пэўнай перасцярогай да напісання мініяцюр. Пасля іх чытання амаль заўсёды складваецца ўражанне, што аўтар перастаў пісаць прозу або вершы і пераключыўся на лаканічны жанр. Паколькі большасць такіх твораў з'яўляецца прыкладам тыповага бытавізму (аўтар штосьці ўбачыў у акне і занатаваў уражанне; да пісьменніка на працу прыйшоў госць, пасля чаго творца пераказаў пачутае), іх змест і разважанні, як правіла, забываюцца амаль адразу. Таму і была пэўная насцярога ў дачыненні да аповесці У. Сцяпана. Тым не менш я змог пераканацца, што сапраўдны пісьменніцкі талент здольны пераўзыходзіць абмежаванасць кожнага жанру.

Які прынцып выкарыстоўваў У. Сцяпан пры напісанні партрэта мастака? "Я спрабую стварыць яго партрэт з аскепкаў, з уяўлення, з карцін, малюнкаў, фотаздымкаў, успамінаў, лістоў, чорна-белых кінакадраў… — піша аўтар. — Разумею, што ўсё напісанае — словы, што гэта толькі мае суб'ектыўныя бачанне чалавека, з якім перасякаўся ў рэальным жыцці толькі двойчы. <…> Напэўна, Сяргей Пятровіч шмат разоў даваў сваім вучням заданне намаляваць пейзаж або партрэт "па памяці", а кампазіцыю "паводле ўяўлення". Тое, чым я цяпер займаюся, і будзе выкананнем двух заданняў: партрэт "па памяці" і "паводле ўяўлення".

Наколькі пабудова твора, прапанаваная У. Сцяпанам, стасуецца з пастаўленымі ім жа задачамі? Аўтар згадвае, што ягоныя сустрэчы са сваім героем здарыліся ў дзяцінстве. З аднаго боку, для такога ўзросту характэрнае адчуванне бесперапыннасці часу, які, аднак, не захоўваецца ў памяці суцэльнай лініяй, а падзяляецца на асобныя яркія эпізоды. Вось дзе вытокі аўтарскага выкарыстання "аскепкаў"! З другога боку, дарослыя сучаснікі ўспрымаюць мінулае, якое звязана з асобамі дарагіх для іх людзей, праз пэўныя асабістыя прыватныя прадметы (тады як гісторыя грамадства ўспрымаецца на больш абагульненым узроўні: праз рамачы, мастацкія фільмы і г.д.). У дадзеным выпадку ў іх якасці выступаюць згаданыя У. Сцяпанам карціны, малюнкі, фотаздымкі.

Аднак вернемся да фразы пра напісанне партрэтаў "па памяці" і "паводле ўяўлення". У. Сцяпан — выпускнік Мінскай мастацкай вучэльні і тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер Акадэмія мастацтваў). А значыцца, ён перааснсоўвае свет з дапамогай пэндзля і фарбаў або проста выкарыстоўвае ў літаратуры пэўныя прынцыпы жывапісу. Тады з якім кірункам у мастацтве можна параўнаць пісьменніцкую манеру У. Сцяпана? З рэалізмам? Але тады б нас чакала падрабязная біяграфія С. Каткова і храналагічны пералік усіх напісаных ім твораў. На маю думку, больш дакладным будзе параўнаць творчы метад пісьменніка з падыходам мастакоў-імпрэсіяністаў. У "Высокім беразе" У. Сцяпан імкнецца прадставіць свайго героя і яго атачэнне ў пэўныя моманты жыцця, выхапіць з жыццёвай мітусні. Дзякуючы яркім, каларытным мазкам пісьменніка С. Каткоў у кожнай мініяцюры раскрываецца новай рысай свайго характару. І кожны штрых дапаўняе папярэдні, дзякуючы чаму ў фінале мы маем усе падставы гаварыць пра цэласны твор, на старонках якога мастак паўстае як жывы.

Чароўнае спалучэнне дзіцячага і дарослага погляду на мінулае, памяці і ўяўлення, памножанае на талент пісьменніка, яго адчуванне мовы і стылю сталі сакрэтам безумоўнага творчага поспеху новай аповесці.

Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Вобразна, моцна, вынаходліва!




"Маладосць" заўсёды адметная добрай, свежай, сапраўды "маладой" паэзіяй. А ў восьмым нумары часопіса змешчана і арыгінальная проза — апавяданні Фёдара Палякова, мініяцюры Ігара Сідарука, "аповесць у трох апавяданнях" Анатоля Бензярука. І хочацца зрабіць так, як рабілі аўтары колішніх "буйных" аглядаў, — надаць крыху ўвагі кожнаму вартаму творцу, вылучыць адметнасці найбольш цікавых публікацый.

Часопіс распачынаецца нізкай вершаў Маргарыты Латышкевіч, у якой паэтка, па-першае, вельмі тонка выяўляе няўлоўныя нюансы настрою ("Я чакаю цябе, квецень вішняў…") і, па-другое, засведчвае сваю — абавязковую для кожнага творцы — здольнасць убачыць у абсалютна шараговай, будзённай з'яве яркі паэтычны вобраз:

*Парашутысты*
*У небе чыстым —*
*Як быццам семкі на сінім фоне.*
*А верталёт —*
*Як прарок на Афоне —*
*Раскінуў лопасці і ўздыхае:*
*Колькі ні скідваў,*
*Яны не ўзлятаюць…*

Моцны дэбют — першая публікацыя вершаў Вольгі Гронскай. Гэтыя творы падаюцца больш аднароднымі, больш блізкімі па танальнасці і па тэме, чым паэзія Маргарыты, але абедзве аўтаркі часам вязнуць у бязі прыгожых метафар, з якой чытач выносіць толькі "адчуванне адчування", што задавальняе далёка не кожнага аматара паэзіі. Сапраўды выдатнымі падаюцца вершы, дзе Вольга піша вобразна, але ясна ("У той казцы не будзе кахання…"), альбо віртуозна перадае атмасферу расстання праз, здавалася б, простае апісанне зімовага надвор'я, праз гукапіс ("І снег у твар, / і неба ў футры хмар, / і так халодна, што балюча дыхаць. <…> Нясцерпна белы свет. / Сабакі брэх. / І нават час — памёр, спыніў свой бег…").

Мініяцюры Ігара Сідарука "Не запальваючы святла…" не менш вобразныя і паэтычныя, чым вершы маладых аўтарак. Пяць эпізодаў чыстага, шчырага, але цалкам жывога, прыгожа-эратычнага кахання — урыўкі размоў, багацце ўражанняў, бруенне колераў і незвычайных параўнанняў. Ігар Сідарук — пісьменнік рознабаковага таленту, і вельмі хочацца верыць, што натхненне не пакіне яго і падштурхне да здзяйснення больш маштабных мастацкіх задум.

"Я цябе бачу" — "аповесць у трох апавяданнях" Анатоля Бензярука — таксама прысвечаная каханню. Галоўная адметнасць твора — рэдкі на сёння аптымізм, які спалучаецца з абсалютна рэалістычным (калі не надта жорсткім) адлюстраваннем сучаснага, пазнавальна-беларускага жыцця. Звальненне з працы, смерці, бойкі, нахабства, несумленнасць — але праз усё гэта прабіваецца ўпэўненае і энергічнае "Надакучылі пахаванні. Справім народзіны. Мы яшчэ палічым па восені і курэй, і дзяцей".

Адчуваецца, што пісьменніку было цікава развіваць даволі арыгінальны сюжэт, распрацоўваць вобразы герояў. Калі ўлічваць скептычнае стаўленне большасці сучасных аўтараў да сюжэта і распаўсюджанае памкненне засяродзіць выключна на Я-герою, то адзначаныя рысы ўжо ёсць вялікай адметнасцю твора Бензярука. І тым больш шкада, што аўтар пакінуў невыпісанымі шмат ключавых эпізодаў, часцяком паступаўся псіхалагізмам і збіваўся на надта простыя дыялогі, на пункцірнасць.

Празаічны дэбют Фёдара Палякова і падборка вершаў Анатоля Дэбіша даюць падставы шмат чаго чакаць ад гэтых аўтараў. Фёдар Палякоў прываблівае сваёй вынаходлівасцю, уменнем арыгінальна апісаць тыповае, але запамінальнае. Апавяданне "Белая страла" — пра "элітны цягнік", у якім замест вокнаў — "новыя нанаталевізары з Японіі. Спачатку тут праехалі апаратары і знялі ўвесь краявід ад Мінска да Масквы і перадалі дызайнерам. Тыя падфарбавалі дамы, прыбралі смецце, пусцілі кароў на траву". Вось якім чынам можна ўдасканаліць сучасную рэчаіснасць! — праўда, каб здзявіць гэтаму, зусім не абавязкова ведаць пра праблемы працаўладкавання беларускага філолага. Апавяданне "Карты" больш цэласнае, а яго ідэя — "адвечная": "Махні рукой на грошы і нічога не бойся". Такую выснову робяць хлопцы, якіх звёў лёс у дзіцячай бальніцы — і амаль кожны чытач з удзячнасцю да аўтара згадае падобны перыяд за ўласным жыцці: белая палата, "тэтрыс", бясконцыя карты, бацькоўскі "кампот з сушаных яблыкаў" — і нечаканыя філасофскія адкрыцці альбо цікавыя знаёмствы.

Безумоўна, не ўсе часопісныя публікацыі роўныя, але іх галоўная мэта — пазнаёміць чытача з шырокім колам сучасных літаратараў і канстатаваць, што пісьменнікі працуюць, развіваюцца, шукаюць. Каб чытач калі-небудзь пазнаў прозвішча на зборніку твораў і спыніўся пагартаць кнігу. Зборнікі кожнага са згаданых аўтараў, верагодна, атрымаюцца цікавымі і вартымі ўвагі — і вельмі хочацца, каб дзякуючы плённай творчасці беларускіх пісьменнікаў нумары літаратурна-мастацкіх часопісаў усё часцей атрымліваліся такімі ж моцнымі, як гэты жнівеньскі нумар "Маладосці".

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ "Залатая Ліцера"

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,**
**фота Віталя Гіля**

# Шчырая Шчара мая

**Сорак дзён таму адышоў у вечнасць Віталь Скалабан — адзін з выбітных беларускіх архівістаў, харызматычны гісторык, дасведчаны літаратуразнаўца, сталы супрацоўнік "Советской Белоруссии", іншых перыядычных выданняў, пастаянны і цікавы аўтар "ЛіМа". Душэўны, таварыскі, добразычлівы чалавек.**

Гэты нарыс быў напісаны яшчэ мінулай зімой. Прачытаўшы яго, Віталь Уладзіміравіч са сваёй характэрнай лагоднай усмешкай заўважыў: "Ведаеш, пакуль няма нагоды друкаваць матэрыял. Вось выйдзе другая кніга "Купала і Колас, вы нас гадавалі" — тады іншая справа. Сустрэнемся, пагамонім, удакладнім. І давай назавём яго "Шчырая Шчара мая". У Міколы Купрэева ёсць цудоўныя радкі, слухай:

*Жураўлі журлівыя мае —*
*праплывае новае растанне.*
*Зноў над Шчарай*
*шчыры крык растане, —*
*ў гэтым свеце вечна не стае..."*

Нагода з'явілася — змрочная і горкая. Кніга ўбачыла свет ужо без аднаго са сваіх таленавітых аўтараў. І гэтыя нататкі як успаміні пра яго.

Пісаць пра Віталя Скалабана мне адначасова было лёгка і складана. Лёгка таму, што ведаў яго даўно. Упершыню ўбачыў у Ляхавіцкай раённай школе піянерскага актыву (была такая). Памятаю, як цікава ён распавядаў нам, вяскоўцам, пра добрыя справы сваіх аднакласнікаў, а пасля разам з імі ліха скакаў "Лявоніху" і "Польку". Складанасць жа ў яго постаці — няпроста расказаць пра выдатнага гісторыка, архівіста, літаратуразнаўцу, краязнаўцу, бібліёграфа, выдаўца, дацэнта ў адной асобе.

Па-добраму зайздросцію яго шырокай эрудыцыі. Нават выпадкова сутыкнуўшыся ў горадзе, перш чым павітацца, ён "агарошваў" патокам інфармацыі. Факты, імёны, даты сыпаліся з яго вуснаў як з рогу дастатку. Не паспеўшы расказаць пра адну падзею ці асобу, спяшаўся падзяліцца апошнімі архіўнымі адкрыццямі. І ў вачах яго столькі бляску, радасці, надзеі!

Неяк сустрэліся каля сталічнага Дома прэсы.

— Ты ведаў Герасіма Праневіча? — запытаўся.

— Нават чарку разам бралі, — адказваю і называю прозвішчы іншых удзельнікаў знакамітага Падлескага народнага хору, які славіўся не толькі на Берасцейшчыне, але і ва ўсёй рэспубліцы.

— Я адшукаў цікавыя дакументы пра іх паездку перад вайной у Маскву, на Дэкаду беларускага мастацтва.

— Дык пра гэта пісалі газеты.

— Э-э, далёка не ўсё. А ў мяне ёсць і рэпертуар, і сведчанні пра рэакцыю Сталіна на канцэрт у Вялікім тэатры СССР, і нават пералік страў, якімі кармілі артыстаў… Сістэматызую матэрыялы і паспрабую іх надрукаваць. Дарэчы, ці даўно ты быў у Ляхавічах? Хор спявае?

— Спявае на святах, праўда, не так часта, як раней, калі ім кіраваў Міхась Жук, які шчыра любіў і шанаваў народную песню.

— Гэта ўнікальны, самабытны калектыў, дзецішча самога Цітовіча, яго трэба берагчы, — заўважыў суразмоўца і, развітваючыся, добразычліва, як заўсёды, дадаў: — Ну, бывай здаровенькі.

Віталь нарадзіўся на Слонімшчыне, але Ляхавіцкі раён лічыў родным. Сюды ў 1951 годзе, у райсельгасупраўленне, перавялі маці — Вольгу Іванаўну. Бацька — Уладзімір Рыгоравіч — доўгі час працаваў дырэктарам беларускай няпоўнай сярэдняй школы. Неяк яго выклікалі ў райкам партыі: чаму не ўкамплектаваны беларускамоўныя класы? Скалабан прывёў шэраг аб'ектыўных прычын. А дзе твой сын вучыцца, у рускай школе? Неадкладна забірай да сябе!

— Дык там ён — звычайны вучань, як і ўсе, а нашы настаўнікі будуць рабіць яму розныя скідкі, больш удзяляць увагі, што можа сапсаваць хлопца, — даказваў дырэктар, але і гэты важкі аргумент не пераканаў партфункцыянера.

Праўда, калі так званай тады "другой" школе надалі статус рускамоўнай, Віталь вярнуўся ў СШ № 1, якую закончыў выдатна.

Пытанне, куды паступаць пасля вучобы, перад Скалабанам не стаяла — толькі на гістфак і толькі ў Ленінград. Чаму менавіта туды? Бацька, настаўнік-франтавік, апантаны краязнаўца, стварыў у сваёй школе на той час даволі прыстойны музей гісторыі Ляхавіцкага раёна. Ён збіраў дакументы пра Майсея Кухарчыка — камандзіра партызанскага атрада, які летам 1919 года дзейнічаў у тутэйшых мясцінах. Уладзімір Рыгоравіч з-за цяжкай хваробы не паспеў закончыць справу. Гэтым і заняўся сын. Менавіта ў горадзе на Няве, у Цэнтральным архіве ваенна-марскога флоту, у якім захоўвалася нямала звестак пра тыя падзеі. Забягаючы наперад, зазначу, што сабраныя дакументы склалі пазней аснову для раздзела кнігі "Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Ляхавіцкага раёна", якую Віталь Скалабан рыхтаваў ужо як рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (БелСЭ).

Час вучобы ў Ленінградскім дзяржаўным універсітэце — як адно імгненне. Змястоўныя лекцыі, цікавыя, масцітыя выкладчыкі, гарачыя дыскусіі, вечары, праведзеныя ў багатых архівах, бібліятэках, музеях — усё гэта давала імпульс для творчага пошуку, натхнення. У студэнцкія гады ён пачаў спрабаваць свае сілы ў журналістыцы. Яго першы невялікі артыкул "Ленін распытвае пра Беларусь" — пра бежанцаў Першай сусветнай вайны, якія былі на прыёме ў старшыні Саўнаркама — у чэрвені 1968 года апублікаваў "ЛіМ".

Сюды, у Пецярбург-Петраград, вялі шляхі-дарогі Адама Міцкевіча, Янку Купалу, Усевалада Ігнатоўскага, Вацлава Іваноўскага, братоў Каліноўскіх, іншых слынных беларусаў. Іх складаныя лёсы зацікавілі маладога гісторыка. Станаўленне беларускай дзяржаўнасці на пачатку XX стагоддзя — тэма не толькі яго дыпломнай, але і многіх іншых навуковых прац. "Беларускі нацыянальны камісарыят. Студзень 1918 — сакавік 1919 г." — так называлася кандыдацкая дысертацыя, абароненая пазней у Інстытуце гісторыі АН БССР.

> *Мы павінны пакінуць нашчадкам не менш, чым атрымалі самі. Зразумейце, калі адвакацкія маўчаць, нараджаюцца легенды. Сённяшні дзень — у яго закончанай характарыстыцы — зразумелы толькі тады, калі ён становіцца звяном складанага гістарычнага працэсу.*

Пасля ўніверсітэта Віталя прызвалі служыць у войска. Часць дыслацыравалася ў ГДР. Два гады здаліся вечнасцю. І якое было шчасце зноў пачуць родную мову, гаварыць на ёй, заняцца любімай справай! Ён працаваў на розных адказных пасадах у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя", Навукова-даследчым інстытуце дакументазнаўства і архіўнай справы, Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны. З 2002 года загадваў аддзелам публікацый Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

Дзякуючы яго намаганням у айчынны гістарычны кантэкст вернуты імёны С. Скандракова, Ф. Кудрыпскага, У. Фальскага, М. Мялешкі, А. Гзоўскага, многіх іншых знакамітых беларусаў, не кажучы ўжо пра асобы У. Ігнатоўскага, М. Доўнар-Запольскага, М. Улашчыка. Мала хто ведае, што ўсесаюзную вядомасць Віталю Уладзіміравічу прынесла адкрыццё імя першага ленінскага біёграфа — загадчыка выдавецкага пададдзела Петраградскага аддзялення Белнацкама Івана Баранкевіча.

Пра важкі ўклад Скалабана ў айчынную гістарычную навуку напісана нямала, у тым ліку і ў энцыклапедычных даведніках. Заўважу, ён свой чалавек, як сярод навукоўцаў, так і сярод літаратараў, кінематаграфістаў, тэатральных дзеячаў. Для пацвярджэння прывяду кароткі спіс яго "пасад": рэдактар і укладальнік асобных тамоў Поўнага збору твораў Янкі Купалы, суаўтар сцэнарыяў дакументальна-мастацкіх фільмаў пра Цішку Гартнага, Янку Купалу, Усевалада Ігнатоўскага, драм "У жніўні 36-га", "Людвіка і Фабіян" — пра каханне Фабіяна Шантыра і Зоські Верас.



Ён супрацоўнічаў з многімі выданнямі, але асабліва плённа з "Советской Белоруссией". У сваіх змястоўных і цікавых нарысах распавядаў пра невядомыя факты з жыцця і творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Астапенкі, Янкі Нёманскага, Міграфана Доўнар-Запольскага, Яфіма Карскага, Івана Замоціна, Максіма Танка... Па яго ініцыятыве ўзнікла сумесная акцыя Нацархіва і рэдакцыі газеты — "Народны архіў", які працягвае папаўняцца.

Ёсць упэўненасць, што спецыялісты больш падрабязна і прафесійна раскажуць пра В. Скалабана як архівіста, гісторыка, літаратара і яго ўклад у летапіс Беларусі.

Вышэй я згадваў пра хроніку "Памяць". Дык вось, кніга пра Ляхавіцкі раён, падрыхтаваная Скалабанам, па ацэнках вядомых гісторыкаў, стала ўзорам, эталонам згаданых выданняў. Добра памятаю, як яна ствáралася. Віталь падняў на ногі ледзь не ўсіх землякоў, што жылі ў Мінску: успомніце, падкажыце, напішыце. Мы павінны пакінуць нашчадкам не менш, чым атрымалі самі. Зразумейце, калі адвакацкія маўчаць, нараджаюцца легенды. Сённяшні дзень — у яго закончанай характарыстыцы — зразумелы толькі тады, калі ён становіцца звяном складанага гістарычнага працэсу.

Часам здавалася, што мяне ён зусім "заездзіў": скарацí тэкст, выкінь лірыку, зрабі спасылкі на першакрыніцы, перапраўер даты і прозвішчы…

Такі вердыкт ён выносіў кожнаму матэрыялу. І не толькі майму. Цяжка ўявіць, якую тады ношу Віталь узваліў на свае плечы. Але не скінуў, данёс праз перашкоды і выпрабаванні. На прэзентацыі Віталь хваляваўся, бадай, больш, чым перад абаронай дысертацыі. І не дзіўна. Ён здаваў экзамен землякам. Экзамен на сталасць, прафесіяналізм, грамадзянскасць.

На сцэне РДК у адной руцэ трымаў важкі том "Памяці", у другой — невялічкую кніжачку, памерам з агульны сшытак.

— Гэтую гісторыю нашага раёна напісаў мой бацька, — сказаў ён, — а гэтую — мы з вамі.

Зала ўзарвалася апладысментамі.

Прызнаюся, часта перад Віталём я адчуваў сябе дужа няёмка. Пра Ляхавіччыну, яе гістарычныя мясціны ён ведаў значна больш за мяне, хоць апошнія дваццаць гадоў бываў тут толькі наездамі. А я ж нямала працаваў у "раёнцы", ды і пасля, будучы карэспандэнтам абласной "Зари", часта калясіў знаёмымі пуцявінамі. У вёску Фляр'янава заязджаў разоў сто. І не знаў цікавай гісторыі пра цёплыя адносіны былога гаспадара фальварка Тадэвуша Бохвіца з сусветна вядомай пісьменніцай-раманісткай Элізай Ажэшкай. Тут расце магутны дуб, які яна пасадзіла. Каля яго ўстаноўлена памятная дошка. І гэты факт таксама можна запісаць у актыў Віталя Скалабана. Да апошніх дзён жыцця ён заставаўся ў дачыненні да гістарычнай памяці дарагіх сэрцу мясцін руплівым і ўважлівым.

— Шкада, што ў Ляхавічах няма гісторыка-краязнаўчага музея, — неяк пры сустрэчы журботна заўважыў Віталь. — Матэрыялаў жа хапае. Суседні Ганцавіцкі раён у эканамічным плане бяднейшы, але там знайшлі сродкі, каб мець свой музей, які існуе ўжо дзесяць гадоў...

Спадзяюся, што гэтыя радкі прачытаюць кіраўнікі раёна. І створаць музей. І прысвояць яму імя свайго знанага земляка-гісторыка.

Успаміны, успаміны... Маці Віталя, Вольга Іванаўна — жанчына ціхая, спакойная, заўсёды сур'ёзная. Яна працавала ў райсельгасхарчы радавым эканамістам-статыстыкам. У маім дачым разуменні людзі гэтай прафесіі — "сухія" і нецікавыя, зацыкленыя на лічбах, рахунках, каштарысах. Неяк па рэдакцыйных справах зазірнуў да яе ў кабінет. Якраз заканчваўся абедзенны перапынак. На стале, засланым прыгожай сурвэткай, стаяў кубак з недапітай гарбатай. Вольга Іванаўна гартала часопіс, пасля павярнулася да мяне і раптам спытала: "Валодзя, як вы адносіцеся да драматургіі?" Я ледзь не анямеў і моўчкі пацісуў плячыма. "Цудоўная рэч надрукавана. Вазьміце, пачытайце", — і працягнула мне "Нёман". Так я пазнаёміўся з п'есай Мікалая Матукоўскага "Амністыя" і пасля стараўся не прапусціць ніводнага новага твора пісьменніка.

Кніга ў сем'ях усіх Скалабанаў была як хлеб надзённы. Таму не дзіўна, што ўнук — Аляксей Вітальевіч — цяпер узначальвае Навуковую бібліятэку Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта — адну з найбуйнейшых у краіне і першую, дзе быў укаранёны буккросінг — вольны абмен кнігамі.

Да пераезду ў Ляхавічы Вольга Іванаўна працавала ў знакамітых Жыровічах, што на Гродзеншчыне. Аднойчы зімовым надвячоркам яна вымушана была вяртацца да хаты праз Шчару. І правалілася ў палонку. А ўжо хадзіла цяжарнай сынам.

— Выходзіць, што быў я ахрышчаны Шчарай яшчэ да свайго нараджэння, — часта жартаваў Віталь Уладзіміравіч.

Там, у старажытным Слоніме, шырокая, імклівая рака бярэ разбег, каб неўзабаве сустрэцца і абняцца з Нёманам. Каля Ляхавіч яна ціхаплынная, толькі набірае сваю сілу і прыгажосць, аздабляючы сокамі казачныя лясы і лугі. Зямлю, у якую быў закаханы Віталь Скалабан. Тут яму было заўсёды добра, светла, утульна.

***P.S. Яго публікацыя "Любіла вёску, бацькоўскі дом" выйшла ў "ЛіМе" сёлета, 29 красавіка. Прысвечана руплівай беларускай даследчыцы-архівісту Аляксандры Гесь — былому дырэктару Мядзведзіцкай сярэдняй школы Ляхавіцкага раёна.***

***Помніцца, напярэдадні Віталь зайшоў у наш кабінет, зняў паліто, сеў за мой стол і доўга расказваў пра гэтую цудоўную жанчыну і навукоўца. Як заўсёды, жартаваў, смяяўся, дзяліўся планамі. Праўда, вочы былі сумныя-сумныя.***

***Нават у страшным сне не магло прысніцца, што гэта была наша апошняя сустрэча.***

**У РВУ "Літаратура і Мастацтва" рыхтуецца да выдання бібліяграфічны даведнік "Панцеляймон Панамарэнка. Асабісты архіў і кніжны збор", падрыхтаваны Нацыянальным архівам Рэспублікі Беларусь разам з архівістамі Расіі, бібліятэкарамі і работнікамі музеяў абедвюх дзяржаў. Выданне разлічана на шырокае кола чытачоў. У даведніку — уся хатняя бібліятэка першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі, зноў "сабраная" разам, і яна можа шмат расказаць пра кругагляд партыйнага дзеяча і яго склад мыслення, пра кола знаёмых Панамарэнкі, пра мясціны, дзе ён бываў. У даведніку абавязкова будуць зафіксаваны адметнасці кніг: наяўнасць дарчых надпісаў, чытацкіх пазнак Панамарэнкі. Варта заўважыць, што запланаванае выданне будзе першым бібліяграфічным даведнікам, прысвечаным хатняй бібліятэцы грамадскага ці культурнага дзеяча Беларусі: дагэтуль няма асобна выдадзенага, дакладнага і поўнага апісання кніжных збораў Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча ці Івана Шамякіна. Магчыма, падрыхтаванае выданне будзе першай ластаўкай, следам за якой з'явяцца і іншыя бібліяграфічныя даведнікі такога кшталту. А пакуль што будзе толькі кніга пра ролю П. Панамарэнкі ў беларускай культуры і лёс яго хатняй бібліятэкі.**



# Спадчына Панцеляймона Панамарэнкі

**Віталь СКАЛАБАН**

Між кіраўнікоў Савецкай Беларусі асаблівае месца варта адвесці Панцеляймону Панамарэнку. Ён прыехаў у Мінск улетку 1938 г. і заняў пасаду першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі, а ў 1948 г. з'ехаў у Маскву "на павышэнне". Гэтае дзесяцігоддзе ва ўспамінах Панамарэнкі, старонкі з якіх апублікаваў у "Нёмане" ў 1992 г. філосаф Ф. Канстанцінаў (месца захоўвання арыгінала невядомае), названа "незабыўным часам". Панамарэнка стаў "збіральнікам" беларускіх зямель: далучыў у 1939 г. Заходнюю Беларусь, пераканаў Сталіна ў тым, што Палессе з Брэстам і Пінскам павінна быць у складзе БССР, а не УССР. Пасля вызвалення рэспублікі ў 1944 г., па ўспамінах Панцеляймона Кандратавіча, менавіта ён адстаяў перад Сталіным і палітбюро ВКП(б) Полацк у межах Беларусі.

У вызваленай Беларусі Панамарэнка шмат зрабіў для аднаўлення гаспадаркі і культуры. Пасляваенны план забудовы Мінска рыхтаваўся архітэктарамі паводле ягоных прапаноў і пад ягоным наглядам. У сучасным Мінску пра яго нагадваюць і праспект Незалежнасці, і мемарыяльная дошка на знакамітым 2-м Доме Саветаў, і вуліца, названая яго імем.

Сталінскі стаўленік не быў чалавекам з іншага часу. "Вызначана, што масавыя неабгрунтаваныя арышты і вынішчэнне партыйна-савецкіх работнікаў у БССР з прыходам Панамарэнкі не паменшыліся", — пісаў старшыня Камітэта партыйнага кантролю пры ЦК КПСС М. Швернік М. Хрушчову ў 1958 г., калі над Панамарэнкам згусціліся хмары. Далей у запісцы Шверніка адзначалася: "Як бачна з даведкі КДБ пры СМ БССР ад 20 сакавіка 1958 г., пры актыўным удзеле Панамарэнкі асуджаныя тройкай НКУС БССР 6770 чал., з якіх 4650 расстраляныя". Першае сваё выступленне, якое адбылося 8 ліпеня 1938 г. у Гомелі, Панамарэнка прысвяціў задачы "выкарчоўвання ворагаў". Вядомая і яго шыфроўка Сталіну з просьбай павялічыць для БССР колькасць рэпрэсаваных па першай катэгорыі (расстрэл) на дзве тысячы чалавек, а па другой (турма ці лагер) — на тры тысячы. Лагічна меркаваць, што праўдзівае аблічча неадназначнай фігуры Панцеляймона Панамарэнкі можна ўявіць толькі па вывучэнні яго архіўнай спадчыны. Гэтая праца распачатая і апошнія два дзесяцігоддзі актыўна працягваецца.

У Маскве, на Кутузаўскім праспекце, недалёка ад дома, дзе жыла партыйная эліта — Брэжнеў, Андропаў, Панамарэнка, — устаноўлены помнік Янку Купалу. Існуе прыгожая гісторыя: калі Панамарэнка напрыканцы 1938 г. паведаміў Сталіну, што НКУС настойвае на арышце Купалы і Коласа, "правадыр народаў" сказаў: "Замяніце ордэры на ордэны". Але ці не запусціў легенду пра ордэры і ордэны сам Панцеляймон Кандратавіч, каб падчас адлігі (пасля смерці Сталіна) "абляліць" сваё імя? Іван Шамякін, якому пра замену ордэраў на ордэны распавёў улетку 1953 г. сам міністр культуры СССР Панамарэнка, у сваіх "Начных успамінах" пра "Панцеляймонава кіно" пісаў: "Ён шукаў магчымасці, як адмыцца. Знайшоў: выклікаць маладога беларускага пісьменніка, аўтарытэтнага (лаўрэат!), расказаць яму, які добры ён быў, безумоўна ж, пісьменнік раскажа яго легенду калегам, старым і



маладым, нехта запіша яе… Але не лепшы ён быў сцэнарыст, забыўся пра адну істотную дэталь — пра архіў, які папоўніў сваімі пісьмамі…" ("ЛіМ", 10 студзеня 2003 года).

І сапраўды, захавалася машынапісная копія ліста П. Панамарэнкі І. Сталіну "Аб беларускай мове, літаратуры і пісьменніках", які датаваны 21 лістапада 1938 г. Прывядзём асобныя фрагменты, што датычаць Янкі Купалы: "Найбольш буйную контррэвалюцыйную нацыяналістычную працу правеў саюз "савецкіх" пісьменнікаў Беларусі, які заўсёды ідэйна ўзначальваў дзясятак прафашысцкіх пісьменнікаў (у іх ліку і вядомыя Янка Купала і Якуб Колас), і заўсёды для прыкрыцця (у тым ліку і зараз) некалькі камуністаў […] Сама думка пра збліжэнне беларускай і рускай моў была жахлівай. Янка Купала пусціў крылатае выслоўе: "Пакуль жыве мова, жыве народ". У аснове палягала тэндэнцыя парываць з усім рускім, як кажуць, з усім *"маскоўскім"* у мове, і праз родную самабытную мову цягнуць масы на Захад […] Янка Купала кажа, што тое, што ён напісаў пры савецкай уладзе, не творчасць, а дрындушкі […] Янка Купала нядаўна сказаў: "Усе нашыя карты бітыя, лепшыя людзі вынішчаны, трэба і самому рабіць харакіры". (Ён ужо намагаўся аднойчы скончыць жыццё самагубствам). Іншым разам ён пачаў скардзіцца (у сваім коле) на невыносную тугу, на тое, што ніякай Беларусі ён не бачыць, што ягонае жыццё пражытае дарэмна, што ён хутка памрэ з той жа тугой па Беларусі, з якой пачынаў сваё жыццё […] Наркам унутраных спраў Беларусі ўжо даўно запытаў з цэнтра санкцыю на арышт Купалы і Коласа, але санкцыя пакуль не выдадзеная".

Адзначым важную дэталь: ліст датуецца 21 лістапада 1938 г., а размова Іосіфа Вісарыёнавіча з Панцеляймонам Кандратавічам адбылася 19 снежня 1938 г. Праз сорак дзён ордэры ператварыліся ў ордэны. Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР 31 студзеня 1939 г. прыняў указ аб узнагароджанні групы савецкіх пісьменнікаў. Янка Купала і Якуб Колас былі ўганараваныя ордэнамі Леніна...

Пра трагічную смерць Купалы ў Маскве Панамарэнка дакладваў Сталіну 29 чэрвеня 1942 г.: паэт сарваўся з "вышыні дзявятага паверха гасцініцы "Масква" між лесвіцамі". Абставіны высвятляюцца органамі НКУС". Недаступная пакуль і следчая справа, якая вялася ваеннай пракуратурай Масквы і, верагодна, 1-м аддзелам НКУС СССР. Урадавая камісія па арганізацыі пахавання Янкі Купалы 30 чэрвеня 1942 г. звярнулася ў 1-ы аддзел НКУС СССР з просьбай ускрыць апячатаны нумар гасцініцы "Масква", дзе жыў паэт, і ўзяць адзенне, неабходнае для пахавання.

> *"У Маскве, на Кутузаўскім праспекце, недалёка ад дома, дзе жыла партыйная эліта — Брэжнеў, Андропаў, Панамарэнка, — устаноўлены помнік Янку Купалу. Існуе прыгожая гісторыя: калі Панамарэнка напрыканцы 1938 г. паведаміў Сталіну, што НКУС настойвае на арышце Купалы і Коласа, "правадыр народаў" сказаў: "Замяніце ордэры на ордэны". Але ці не запусціў легенду пра ордэры і ордэны сам Панцеляймон Кандратавіч, каб падчас адлігі (пасля смерці Сталіна) "абляліць" сваё імя?*

Даследчыкі шырока выкарыстоўваюць вядомую гутарку гісторыка Г. Куманева з Панамарэнкам. Часопіс "Нёман" у 2008 — 2009 гадах апублікаваў дзённік Панамарэнкі за 1939 — 1943 гады і запісы гутарак з ім К. Мазурава ў 1983 г. Усе гэтыя тэксты даюць багаты матэрыял для аналізу, прычым шэраг фактаў і ацэнак не супадае.

Цікава, што ў сваіх выступленнях 1943 — 1945 гг. Панамарэнка кажа пра нацыянальную беларускую рэліквію № 1 — крыж Еўфрасінні Полацкай, які захоўваўся ў браніраваным пакоі Магілёўскага абкама Кампартыі Беларусі і знік падчас Вялікай Айчыннай вайны, як пра рэальна існуючы. Так, выступаючы на VI Пленуме ЦК камсамола Беларусі 28 сакавіка 1945 г., першы сакратар заявіў: "...я гэта кажу для таго, каб зразумець, якім каштоўным багаццем культуры мы валодаем, пачынаючы ад Богшы... Лазар Богша... зрабіў крыж выключнай працы. Выключны твор". Па ўспамінах П. Паддубскага, які ў 1941 г. быў вадзіцелем у Магілёве, яго выклікалі і загадалі пад'ехаць да будынка абкама і "вывезці нейкі каштоўны груз". Яму ўрэзалася ў памяць фраза аднаго з тых, хто грузіў мяхі ў машыну: "Які крыж прыгожы". Потым у машыну сеў Панамарэнка і загадаў ехаць у Маскву. Дарога была цяжкай, часта бамбілі варожыя самалёты. Праз два дні груз даставілі ў адзін з будынкаў наркамата абароны на Ленінскіх гарах.

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца 447 кніг за 1933 — 1983 гг. з прыватнай бібліятэкі П. Панамарэнкі. З іх 426 з дарчымі надпісамі. Кнігі былі атрыманы акадэмічнай бібліятэкай у 1985 г. Успаміны пра гэтую падзею былой загадчыцы аддзела рэдкай кнігі і рукапісаў Лідзіі Збралевіч былі апублікаваныя ў "ЛіМе" ад 11 чэрвеня 2010 г. Адметнасць калекцыі — наяўнасць укладзеных у кнігі лістоў аўтараў да П. Панамарэнкі.

Кнігі з бібліятэкі Панамарэнкі захоўваюцца і ў Дзяржаўнай публічнай гістарычнай бібліятэцы Расіі. Па словах дырэктара Міхаіла Афанасьева, гэта калекцыя мела наступную гісторыю. У студзені 1960 г. самая буйная на той час букіністычная кнігарня Масквы № 14 паведаміла ў гістарычную бібліятэку пра паступленне ў продаж часткі асабістай бібліятэкі П. Панамарэнкі, галоўным чынам па беларусістыцы. Букіністы гістарычнай бібліятэкі з усяго прапанаванага набылі 333 экзэмпляры. Верагодна, былі і іншыя паступленні.

Першым гэты збор пачаў даследаваць Аляксей Каўка, які прысвяціў бібліятэцы Панамарэнкі ў "гістарычцы" шэраг публікацый. Ён высветліў, што шматлікія выданні трапілі да першага сакратара з асабістай бібліятэкі Кастуся Езавітава, вядомага палітычнага дзеяча Беларусі, калабаранта ў гады Вялікай Айчыннай вайны, які быў арыштаваны ў красавіку 1945 г. контрразведкай 1-га Беларускага фронту ў Германіі, потым адпраўленага этапам у Маскву, а пасля ў Мінск, дзе, па афіцыйнай версіі, памёр у турэмнай бальніцы ў 1946 г.

Як сцвярджае Аляксей Каўка, неабыякавасць да кніжнай *беларусікі*, па меркаванні блізкага да Панамарэнкі Ф. Канстанцінава, тлумачылася намерам першага сакратара напісаць гісторыю Беларусі. Нядаўна знайшлося і дакументальнае пацвярджэнне ягоных гістарычных штудый — ліст з фронту члена ваеннага савета 3-й ударнай арміі П. Панамарэнкі Л. Камінскаму, загадчыку асобага сектара ЦК КП(б)Б, які датуецца маем 1942 г.: "Прыязджайце сюды, толькі пакіньце ўзгодненую з ЦК ВКП(б) замену. Прашу прывезці з Уфы (паслаць каго-небудзь) мае рукапісы па гісторыі і кнігі. Высветлілася, што з майго кабінета кнігі са стала захаваліся. Слава таму, хто гэта зрабіў. Гэта самыя каштоўныя кнігі".

31 кніга з бібліятэкі Панамарэнкі патрапіла ў Нацыянальны гістарычны музей Беларусі, 6 — у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. І кожная кніга па-свойму ўнікальная. Ёсць яны і ў іншых дзяржаўных сховішчах і прыватных зборах.

Выданне бібліяграфічнага даведніка "Панцеляймон Панамарэнка. Асабісты архіў і кніжны збор" будзе спрыяць падрыхтоўцы навуковай біяграфіі Панамарэнкі, для стварэння якой неабходна выявіць і вывучыць справаводчыя дакументы ЦК КПБ і СНК БССР у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, а таксама дакументы маскоўскіх архіваў. Выданне даведніка паспрыяла б распрацоўцы шмат якіх праблем, звязаных з дзейнасцю першага сакратара.

***Фотаздымкі прадастаўлены Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва.***



Наталля Казапалянская

## Беларуская мова

*1*

### *Гушчар*

*Гушчар і цьмяны, і вільготны,*
*І ў нетрах тоіцца краса,*
*І нетраў хвойных дых халодны*
*Стравуе чыстая раса.*

*А глуш лясьнога акіяна,*
*Што заімшарыла абшар,*
*Змяняе звонкая паляна,*
*І зноў — балота і гушчар.*

*2*

### *Шыпшына*

*Ад руж садовых, руж прыгожых,*
*Каханнем пешчаных, яна*
*Расла далёка, бездарожжам,*
*Дзе моц бязволіць цішыня.*

*Там водар хвоі лясных дурманіць,*
*Там льюцца песні салаўя,*
*Там кожны лісцік гоіць раны,*
*І там між дрэў паўзе змяя.*

*У лесе тым раскоша ўлетку,*
*Спакой трывалы і сляпы,*
*Дзе так пяшчотна чырвань-кветку*
*Лілеюць жорсткія шыпы.*

*3*

### *Возера*

*Паміж лясных ялін і хвой*
*Іскрыцца чыстая вада —*
*Тут светлы возера спакой*
*Люляе сонная нуда.*

*А ў цёмнай-цёмнай глыбіні,*
*Якую сонца ледзь кранае,*
*Дзівосны свет сваю тчэ ніць,*
*І соль там тоіцца зямная.*

*4*

### *Фенікс*

*Паўднёвае неба і сфінксавы віды*
*Ўзрасцілі егіпецкія піраміды,*
*А ў ціхіх лясах і балотах паўночных*
*Адкрыліся фенікса сінія вочы.*

* * *

*Можна гаварыць*
*на чужой мове,*
*Можна думаць, але дыхаць —*
*Толькі на сваёй.*

* * *

*Ля агню замовы*
*Словы гаварыла,*
*У гаршку чароўны*
*Корань я варыла.*

*Дбайна памяшала*
*Ў вары сухажылле,*
*Каб мая прысушка*
*Лепш прываражыла.*

*Пара паднялася —*
*Час ужо прыспеў,*
*На агні чароўны*
*Корань закіпеў.*

*Ля вуглёў сяджу я,*
*Сэрца маё гіне,*
*А ў гаршку патроху*
*Цуда-корань стыне.*

*Як з-за шэрых хмарак*
*Сонца не прагляне,*
*Так цябе з-за даляў*
*Корань не дастане.*

* * *

*О так! Усім вядома —*
*Каханне хворае на слепату.*
*Блукае ў снах сваіх чароўных*
*І бачыць толькі пекнату.*

*Падняцца ўжо ці стане сіл,*
*Калі прачнуцца час надыдзе.*
*Мо недарэмна Саламон прасіў:*
*Каханую, пакуль ёй спіцца, не будзіце.*

* * *

*Я буду жыць ля возера ў глушы*
*Лясоў і, як прыгожы сон,*
*Я буду ўспамінаць вясною,*
*Брыдучы каля азёрнай мелі,*
*Усё, што дні мае скупыя мелі*
*І што малітвай стала для душы:*

*Урыўкі фраз, пагляды, недамовы…*
*А шолахі галін сухіх у змроку*
*Чыесьці зноў мне нагадаюць крокі,*
*А ветру шум у адзінокіх клёнах*
*Падасца раптам голасам знаёмым —*
*Я азірнуся на прыроды змову…*

*А белаю халоднаю зімой,*
*У сціплай хаце, пры васковай свечцы,*
*Я запалю агонь у чорнай печцы.*
*Ён загуляе золатам і срэбрам,*
*І печ яму падасца колам рэбраў,*
*Нібыта колісь у душы маёй.*

*Пакора лёсу — гэта прыгажосць.*
*Агню, пакутам, крыжаванню,*
*Без нараканняў, стогнаў і канання.*
*Так сад асенні заціхае ў брудзе,*
*Ды лёгкі снег прыроду не асудзіць*
*І верне ёй вясною маладосць.*

* * *

*Балота пад снегам заснула,*
*Нібыта ў аблогах пярын.*
*У белым усё патанула —*
*Ні долу, ні выспаў купін.*

*Стаяць нізкарослыя дрэвы,*
*Нібыта пажары, кусты,*
*Сухая трава мірна дрэмле,*
*Абшар на балоце застыў.*

*Нішто яго ціш не парушыць,*
*Нішто яго сум не саб'е —*
*Ні крык напалоханых птушак,*
*Ні ціхія крокі мае.*



*Фота Кастуся Дробава*



Дзмітрый Пятровіч

* * *

*Заяснела-заясенілася даль*
*Жураўліна-развітальнаю тугой.*
*І бярозава-шумлівы гэты жаль*
*Сумнавейна палымнее над ракой.*

*А рака заснула ў восеньскай цішы*
*Сярод нікла-жаўталістых берагоў.*
*Толькі доўга будзе*
*ліст над ёй кружыць,*
*Лёгкім сумам зноў павее ад лугоў.*

*Дождждык доўга будзе плакаць-галасіць*
*Ветрам золкім над пустэчаю палёў.*
*Хмарны плашч дажджу закрые небасінь,*
*Гулкім рэхам згасне песня жураўлёў...*

* * *

*Познія яблыкі ў садзе асеннім.*
*Лёгкі ўспамін ад пажоўклага лета —*
*Ліст адзінокі на дрэве.*
*Сагрэта*
*Сэрца тугой настальгічнай.*
*Ясенін*
*Ціха спявае пра золата гаю,*
*Пра маладосці тужлівае сола...*
*Што ад жыцця*
*мы з табою чакаем*
*Ў садзе асеннім —*
*застылым і голым?..*

* * *

*Дом стары сярод такога ж саду.*
*Два атланты-волаты ў фасадзе.*
*Я на ганку ціхенька прысяду:*
*Восень наша тут жыве у садзе.*
*Не чутно старога піяніна —*
*Пані Ванда грала тут Шапэна.*
*Толькі вецер свішча на руінах*
*Свята ад вялікага Пусэна...*
*Пані Ванда з чэхаўскага саду,*
*Дзе Вы? Дзе той век галантны?..*
*...Толькі свішча вецер у прысадах,*
*Ціха плачуць вечныя атланты...*

* * *

*Я назваў цябе кветкай чароўнай,*
*Дзіўнай зоркай палескага краю.*
*Мы плылі сярод зорак на чоўне.*
*Твае вусны шапталі: "Кахаю..."*
*І спявалі русалкі дзівосна,*
*І луналі шчаслівыя мары.*
*Па світальнай траве срэбнароснай*
*Мы прабеглі, а гукі гітары,*
*Захмялелай з п'янкога кахання*
*Сэрцаў двух,*
*як дзвюх птушак на волі,*
*Слых нам лашчылі*
*доўга на ранні...*
*Неспатольнае смагі б спатоліць!*
*...Чараўніца з палескага краю.*
*Дзе ты зараз?*
*Ці можам мы стрэцца?..*
*Зноў у снах ты мне шэпчаш:*
*"Кахаю..."*
*Тыя словы заўжды ў маім сэрцы...*

## Заслаўе

*Малітоўна-ўспамінна*
*Ў маім сэрцы жыве гэта слова.*
*І куды б ні закінуў*
*Ты мяне, мой бязлітасны лёс,*
*Ліцца песня павінна —*
*Мая шчырая споведзь-прамова,*
*Хоць даўно я пакінуў*
*Ціхі ранак, зіхоткі ад рос.*
*І на золку жыцця*
*Нарадзіўся палёт юных крылаў,*
*І бязмежнае шчасце*
*Мар дзіцячых усіх неспадзеў...*
*І таго пачуцця*
*След у сэрцы мой горад пакінуў,*
*І душу маю лашчыць*
*Той, дзяцінства салодкага, спеў...*



Людміла Кебіч

## Сюіта дажджавых кропель

* * *

*Увесь дзень і ўсю ноч*
*Падаў дождж,*
*І падумалі людзі — гэта канец свету.*
*Але дождж той начны*
*Быў пачаткам свята.*
*Гэтак чыста і ясна*
*Зззяла раніца.*

* * *

*Выстаўляю руку за фортку,*
*І збіраю дождж у далонь,*
*І спрабую на смак —*
*Горкі і пячэ, як агонь.*

* * *

*Падаў дождж,*
*Каб прайсці праз зямлю*
*І паўстаць*
*Сонцам жытнёвага золата.*

* * *

*Кропля за кропляй,*
*Сляза за слязой*
*Дождж вымывае*
*З душы*
*Твой воблік.*

* * *

*Сталёвымі кіпцюрамі*
*Дождж учапіўся за хмары*
*І цягне*
*І цягне з іх жылы —*
*Сталёвыя струны душы.*

* * *

*Гром абвясціў навальніцу*
*І пакаціўся далей,*
*Вяскаючы з мутных аблокаў*
*Вогненыя языкі*
*Раззлаваных маланак —*
*Сабе наўздагон.*

* * *

*Шэры крамяны*
*Аловак дажджу*
*Заштрыхоўвае*
*Свету святло,*
*Якое сцякае*
*Слязою*
*Па шыбах замглёных вачэй*
*Маіх.*

* * *

*Выпаў дождж на асфальт,*
*І асфальт ускіпеў*
*Мільярдам абураных*
*Бурбалак.*

* * *

*Дзень быў шэры і сумны, але*
*Нечакана пайшоў дождж*
*І адразу ператварыў горад*
*У вясёлы стракаты*
*Парасонавы кветнік.*

* * *

*Дождж ідзе з неба*
*Па волі Гасподнай,*
*Дык навошта мне той*
*Парасон?*
*Нішто не павінна*
*Мяне захінаць,*
*Няхай сабе на хвіліну —*
*Ад волі яго.*

* * *

*На зямлю,*
*Апаленую сонцам,*
*Дождж пайшоў —*
*Зляталі кроплі-мінусы*
*І ператвараліся ў плюсы*
*У выглядзе ўваскрашоных*
*Кветак.*

**Ці можна адваяваць у няўмольнага часу і непрадбачлівых пакаленняў, што руйнуюць помнікі сваёй гісторыі, адну з яе старонак? Калектыў "Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі" здзейсніў, на першы погляд, немагчымае. У выдавецтве ў серыі "Энцыклапедыя рарытэтаў" убачыла свет новая кніга — "Дзмітрый Струкаў. Альбом малюнкаў. 1864 — 1867", старонкі якой вяртаюць нам незваротна страчанае: помнікі беларускай гісторыі і культуры, старажытныя курганы і гарадзішчы, панарамы тагачасных гарадоў.**



*Фота Кастуся Дробава*

# «Атлантыду» вяртаюць акварэлі

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава**

Стваральнікі кнігі аддалі належную ўвагу асобе Дзмітрыя Струкава. Чытач знойдзе на яе старонках біяграфію гэтага выбітнага чалавека. Знакаміты мастак і архітэктар, археолаг, даследчык святынь Масквы, Крыма, Заходняга краю, Дзмітрый Струкаў (1827—1899) быў прыхільнікам старажытнарускага мастацтва. У студэнцкія гады капіраваў і вывучаў старажытнарускія іконы, арнаменты, мініяцюры старажытных рукапісаў. Свяшчэнны Сінод заўважыў намаганні мастака: яму прапанавалі паездкі па Расіі з мэтай замалёўкі і апісання царкоўных рэліквій. Па даручэнні расійскіх улад і Рускага археалагічнага таварыства Дзмітрый Міхайлавіч наведаў і беларускія землі, Паўночна-Заходні край Расійскай імперыі. Гэты каштоўны вопыт дапамог мастаку ў далейшым: яго творчае пераасэнсаванне зрабіла Дзмітрыя Міхайлавіча паспяховым рэстаўратарам (Пакроўскі сабор на Краснай плошчы, Уваскрэсенскі сабор у Новым Іерусаліме), па малюнках Струкава было пабудавана некалькі цэркваў, па яго ініцыятыве адроджана вытворчасць паліўных кафляў для ўнутранага і знешняга ўпрыгожвання новых храмаў, створаны музей рускай іконы. Яго замалёўкі, пра якія паведаміла тагачасная прэса, нарадзілі хвалю інтарэсу да помнікаў даўніны і натхнілі сучаснікаў мастака на такую ж працу.

Ліхалецце сусветных войн, рэвалюцыя, змена ідэалогіі пакінулі нам толькі тры помнікі з той вялікай калекцыі, якая засталася ў малюнках Дзмітрыя Міхайлавіча. У нядаўнія часы альбом акварэльных замалёвак старажытнасцей Беларусі, падрыхтаваны рускім мастаком, быў вядомы толькі вузкаму колу даследчыкаў. Створаныя падчас экспедыцыі па беларускіх і літоўскіх землях акварэлі захоўваліся ў адзіным экземпляры ў аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта ў Літве. Сёння дзякуючы намаганням калектыву выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" мы маем альбом малюнкаў Дзмітрыя Струкава тыражом 1500 экзэмпляраў. Вывы каля 200 помнікаў драўлянага дойлідства — праваслаўных храмаў і храмаў іншых рэлігійных канфесій на тэрыторыі Беларусі, у якіх уважліва прааналізаваны ўплыў візантыйскай архітэктуры, старажытных прадметаў царкоўнай даўніны, абразоў і царкоўнага начыння, надмагільных помнікаў, старажытных курганоў і гарадзішчаў, панарамы старажытных беларускіх гарадоў, выдадзеныя на шыкоўнай паперы — спецыяльнай акварэльнай паперы, зробленай у Санкт-Пецярбургу, сталі здабыткам шырокага грамадства.

Выданне альбома было магчымым дзякуючы намаганням многіх людзей з розных краін. Апрача малюнкаў у альбом уключаны навуковыя каментарыі вядучых беларускіх, расійскіх, літоўскіх мастацтвазнаўцаў, пасляслоўе напісана беларускім мастацтвазнаўцам Вольгай Бажэнавай. Менавіта Вользе Дзмітрыеўне ўдалося расшыфраваць дзённікавыя запісы самога Дзмітрыя Струкава, якія яшчэ ніколі не друкаваліся, і пашчасціла знайсці яго фотаздымак.

Вяртанню "Беларускай Атлантыды" паспрыялі буйныя прадпрыемствы краіны — Слуцкі цукроварафінадны камбінат і Жабінкаўскі цукровы завод. Рэклама, змешчаная ў такім выданні, якое само па сабе з'яўляецца творам мастацтва і якое не сорамна ўручыць у якасці падарунка замежным партнёрам, — найлепшы піар, лічаць прадстаўнікі прадпрыемстваў.

Знікненне белай плямы са старонак беларускай гісторыі будзе мець вялікі рэзананс — адзінадушна сцвярджалі ўдзельнікі прэзентацыі. Напрыклад, калі б альбом выйшаў раней, адзначылі архітэктары, рэканструкцыя палаца ў Каломенскім, які ствараўся пры ўдзеле беларускіх дойлідаў, магла атрымацца больш цікавай. Значнасць спадчыны Дзмітрыя Струкава для беларускай культуры не меншая, чым акварэляў Напалеона Орды. Дзякуючы яго сведчанню мы можам сёння асэнсаваць архітэктурнае багацце нашай краіны, прааналізаваць творчае пераасэнсаванне ў ім старажытных традыцый, прасачыць яго ўплыў на стылістычнае рашэнне расійскіх помнікаў культуры.

Прэзентацыя выдання, якое вяртае "Беларускую Атлантыду", адбылося 27 верасня 2011 года ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Галоўны рэдактар выдавецтва Ларыса Языковіч урачыста перадала экзэмпляр кнігі ў падарунак бібліятэчнаму фонду галоўнай кніжніцы краіны.

***На здымку: альбом малюнкаў Дзмітрыя Струкава ўжо знайшоў першых чытачоў.***

## *З нагоды*

# Выдавецкія прысмакі з Ашхабада

Чэслава ПАЛУЯН

**У сталіцы Туркменістана, у галоўным Экспацэнтры краіны, прайшлі VI Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш і навуковая канферэнцыя "Кніга — шлях супрацоўніцтва і прагрэсу". Іх мэта — прадэманстраваць поспехі і дасягненні нацыянальнай і сусветнай выдавецкай індустрыі. Для ўдзелу ў форуме ў Ашхабад завіталі больш як сто ўдзельнікаў з Расіі, ЗША, Вялікабрытаніі, Турцыі, Індыі, Ірана, Украіны, Казахстана, Узбекістана, Кыргызстана, Таджыкістана, Арменіі, Румыніі, Венгрыі. Традыцыйна свае навінкі прадставілі і беларускія дзяржаўныя выдавецтвы.**



Самую буйную экспазіцыю прапанавала наведвальнікам Туркменская дзяржаўная выдавецкая служба, а таксама 35 вядучых дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў краіны, што працуюць у галіне выпуску кніжнай і паліграфічнай прадукцыі. Па меркаванні мясцовых спецыялістаў, сёння стан выдавецкай справы ў Туркменістане можна лічыць яркім індыкатарам узроўню сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця грамадства. За апошнія гады значна ўзраслі лік і агульны наклад выданняў (у першую чаргу газет і часопісаў, а таксама вучэбнай і навуковай літаратуры, публіцыстычных матэрыялаў), больш увагі стала звяртацца на выпуск нацыянальнай класікі і культурную спадчыну краіны. Так, у ліку ўнікальных выданняў, што былі прадстаўлены на форуме, — энцыклапедычная ілюстраваная кніга "Туркменскія ювелірныя вырабы", выдадзеная Музеем выяўленчага мастацтва "Метраполітэн" (Нью-Ёрк).

Важным складнікам выстаўкі сталася навуковая канферэнцыя з удзелам прадстаўнікоў вядучых выдавецкіх колаў, вышэйшых навучальных устаноў, у тым ліку Каліфарнійскага і Прынстанскага (ЗША), Кембрыджскага і Оксфардскага ўніверсітэтаў (Вялікабрытанія), Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта друку імя І. Фёдарава і МДУ імя М. Ламаносава, Украінскай акадэміі друку.

Акрамя таго, у межах выстаўкі-кірмашу на розных пляцоўках Ашхабада адбыліся творчыя сустрэчы і прэзентацыі новых выданняў.

***На здымку: наведвальнікі выстаўкі.***
***Фота з інтэрнэт-сайта news.pechatnick.com***

## *У падтрымку чытання*

**Генеральны дырэктар ААТ "Макбел" Дзмітрый Макараў:**

# «У геніяльнасці кнігі павінен пераканацца сам»

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**



— Люблю атрымліваць аўтографы. Прашу, каб пісалі асабіста мне. Самыя дарагія надпісы — тых, каго з намі ўжо няма. Што датычыць Мінскай кніжнай выстаўкі-кірмашу, лічу, без аўтограф-сесіі візіт аўтара не атрымаўся.

Мне пашанцавала. Бацька служыў у Германіі, грошай на дзіцячыя кніжкі ў сям'і не шкадавалі, а ў кнігарнях былі адметныя выданні — экспартны варыянт, з шыкоўнымі ілюстрацыямі. Першыя кнігі — канечне, казкі. Можа, і выдаўцом стаў дзякуючы гэтым кнігам. Спачатку, зразумела, мне чыталі бацькі, але я навучыўся чытаць яшчэ да школы. У школьныя гады ішло асваенне класікі — браў 12 тамоў, напрыклад, Антона Чэхава. Ці 22 тамы Льва Талстога. І чытаў ад першага да апошняга. Моцнае ўражанне — ад Чэхава. Дасюль захапляюся яго ўменнем укласці ў некалькі старонак тэксту тое, што сучасны аўтар разгарнуў бы ў раман, у серыял. Я дагэтуль у захапленні ад рускай класікі. Не згодны ў адмаўленні літаратурных заслуг такіх пісьменнікаў, як Максім Горкі. Літаратурная спадчына павінна прайсці праверку часам, і сапраўднае застанецца. На жаль, цяпер існуе мода на пэўны твор. І нараджаецца яна маскультурай. З'явіўся фільм "Парфюмер" — продажы кнігі рэзка пайшлі ўгору. Ці гісторыя з Гары Потэрам: першую кнігу Джоан Роўлінг не хацелі браць у выдавецтва, а цяпер аўтарка багацейшая за англійскую каралеву.

# Радзіма… Мацярынства… Бог…

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Кніга вядомай паэтэсы Тамары Красновай-Гусачэнкі "У святла ценю няма" сталася для аўтаркі пятнаццатай па ліку. У яе ўвайшлі лепшыя творы мінулых гадоў, але большасць вершаў, вынесеных на суд чытача, — паводле прызнання аўтаркі, 305 (!) — новыя. Кніга падзелена на тры самастойныя па складзе кампазіцыі, тэматычнай завершанасці зборнікі: "Пастаўце помнік вёсцы", "Там" і "У святла ценю няма". Аднак яны ўяўляюць своеасаблівы паэтычны трыпціх, у якім паэтэса разглядае розныя іпастасі і праявы такога чыста чалавечага пачуцця, як любоў.**

Паэты кажуць: верш можа нарадзіцца ў любы момант жыцця. Сярод ночы і на ранішняй зорцы, падчас кухонных клопатаў і падчас прагляду любімага фільма. Паэтычныя радкі пачнуць упарта лезці ў галаву на важнай працоўнай нарадзе, і яны адарвуць паэта ад сям'і на адпачынку. Верш, калі гэта сапраўдны верш, прыходзіць як насланнё, каб толькі лёгшы на паперу, прынесці аўтару задавальненне і супакаенне. Натхненне дазваляе стварыць варты верш нават за пяць хвілін. Аднак асэнсоўваць паэзію трэба доўга. Зноў і зноў вяртаючыся да радкоў, што запалі ў душу, спасцігаючы глыбінную сутнасць напісанага паэтам. Доўгага асэнсавання, удумлівага чытання, трывожнага ўслухоўвання ў мелодыку кожнага верша патрабуе і кніга Тамары Красновай-Гусачэнкі "У святла ценю няма…". Таму, што напісана яна не для патрэб аднаго дня. Таму, што размова ў ёй вядзецца пра вечнае: Радзіму, Мацярынства, Бога.

**Радзіма…** Яна паўстае перад чытачом далёкай вёсачкай, калісьці яркай, працоўнай і святочнай, напоўненай людскімі галасамі і спевамі, яблычнай, бэзавай, язмінавай. Вёска дзяцінства паэтэсы — "бярозава-жытнёвы храм". Скошаныя травы яе лугоў адлюстроўваюцца ў нябёсах, мяняюцца з імі месцамі, у выніку чаго нябёсы застаюцца ляжаць "скошанымі" на зямлі, а травы — узнімаюцца, падобна душам праведнікаў, у райскія вышыні. Тут "пахнут медвяным настоем травы на дальней меже", "пряжу кузнечики ткут", лес "за самою околицей, деревню обступая, кружится". Кожны, хто нараджаецца тут, як і сама аўтарка, атрымоўвае права

*На любовь,*
*На безмерную даль,*
*На ромашковый луг,*
*На свиданья рассвет.*

Вёска захоўвае старыя традыцыі і стварае новыя. Цэлы цыкл вершаў Тамары Іванаўны з першага зборніка трылогіі — "Бабуліны сказы" — прысвечаны гэтай тэматыцы. І заваблівае чытача кругаверць спаконвечных свят народных і дзяржаўных, якія, асіміляваныя вёскай, таксама набылі рысы народных.




Вёска — жыццядайная крыніца для народжанага тут. Таму з такім болем чытаюцца радкі паэтэсы пра расстанне з ёю ў праграмным для творчасці Красновай-Гусачэнкі вершы "Пастаўце помнік вёсцы". Працягваючы думку, узнятую рускім паэтам Мікалаем Мельнікавым, які прапаноўваў паставіць помнік вёсцы… на Чырвонай плошчы ў Маскве, паэтэса журботна ўсклікае:

*Как совести своей*
*надгробье ставить?*
*Мы родовой нарушили завет,*
*Покинув землю прадедов…*

І расстанне з вёскай, і пакаянне перад ёю яшчэ больш шчымлівыя з-за таго, што лёс маленькай радзімы аказваецца трагічным. Вёска паэтэсы памірае, атручаная радыяцыяй, адселеная, як і многія падобныя патрыярхальныя вёсачкі Чарнобыльскай зоны Беларусі, Расіі, Украіны.

*Деревня на пригорке умерла…*
*Деревня защищалась,*
*как могла.*
*Она звала, цвела,*
*дарила хлебом,*
*И нет её теперь*
*под этим небом…*

Але Радзіма для Красновай-Гусачэнкі — не толькі гэтая дарагая сэрцу вёсачка, якая пайшла ў нябыт. Радзіма — гэта духмяная, напоўненая квеценню Браншчына, гэта Беларусь, якая прыняла яе і залячыла многія душэўныя раны. І, нягледзячы на сучасныя геапалітычныя змяненні, — гэта Савецкі Саюз. Сардэчны боль па страчаным прасякае радкі паэтэсы, якая працягвае любіць краіну, якой цяпер няма.

*От любви никуда мне*
*не деться:*
*Выжигая всю злобу и тень,*
*Полыхает, горит моё сердце,*
*А врагу всё виднее мишень.*

**Мацярынства** ў паэзіі Красновай-Гусачэнкі — найвялікшы цуд і найвялікшы подзвіг. Прадвызначэнне жанчыны і яе галгофа. Мінулае, сучаснае, будучыня разглядаюцца ў спалучэнні трох звёнаў ланцуга: маці, дачка, унук. Жанчына, якая нарадзіла дзіця, знаходзіцца паміж небам, адкуль на яе ласкавым, усёдаравальным позіркам глядзіць яе ўласная маці, і зямлёй, дзе ў дзіцячым ложку спіць маленькі цуд — сын. І сыну, нягледзячы на ўсю слабасць і бездапаможнасць, уласціва галоўнае — затрымліваць жанчыну, якая нарадзіла яго, на гэтай зямлі, якой бы цяжкай ні была яе доля, залечваць сваёй усмешкай яе сардэчныя раны і дапамагаць адраджацца пасля няўдач і жыццёвых катастроф.

Таму парушэннем усіх зямных правіл, вышэйшай несправядлівасцю выглядае ва ўсведамленні жанчыны сынава смерць. Паэтэсе давялося прайсці праз такую страту, адчай, неразуменне. Пранізліва-пакутлівыя вершы, звернутыя да страчанага сына, уражваюць сваёй шчырасцю. Глыбокім трагізмам прасякнутыя радкі:

*…А ведь он не знает,*
*что он — умер,*
*И уж не узнает никогда…*

Аднак уменне адраджацца, якому калісьці навучыў сын, дапамагае маці і на гэты раз. Яна знаходзіць сілы зразумець высокі сэнс нашых зямных страт. І — звяртаецца да Нябёсаў.

*И тайна такая*
*большая-большая:*
*В какой бы земле*
*похоронен кто не был,*
*Когда у могил*
*мы родных поминаем,*
*Молчим ли мы,*
*плачем ли, слёзы глотаем —*
*Но смотрим не в землю,*
*а в синее небо.*

**Бог…** Прызнаннем яго велічы і адначасова міласэрнасці прасякнуты практычна кожны верш кнігі. Бог прысутнічае нават у тых творах паэтэсы, у якіх імя яго не згадваецца. Гэта ён "лье" зверху на зямлю бярозавую зеляніну і неба. Ён узнімае гінучы чалавечы душы "з агню", зажыўляе раны, дае чалавеку на мяжы яго цярпення "краёчак воблака", каб "перадыхнуць, перавесці дыханне". І гэта ён — уладар таго прыгожага і светлага свету, дзе

*Мамы живы все,*
*смертям назло*
*Отцы вернулись.*
*Кто не верит в это?!*
*И всё предельно ясно:*
*зло там — зло,*
*Добро — добро,*
*а зависти там нету.*

Ля Бога — добрага і справядлівага — маці паэтэсы і яе сын. А яна затрымалася на зямлі для таго, каб навучыць бліжніх любові да ўсяго жывога, сцвердзіць:

*Тени у света нет.*
*Смерть не забвенье. Душам*
*Вечный обещан свет…*

Так, сапраўды, усё жывое мае матэрыяльнае і духоўнае, пачатак і канец. Узнікаюць і сыходзяць у нябыт гарады і вёскі — і гэта горка і сумна. Пакідаюць нас, даўшы моцны штуршок да жыцця і радасці, нашы бацькі — і гэта заканамерна. Іншы раз, паламаўшы законы паняцця "пераемнасць", сыходзяць у нябыт нашы дзеці — і гэта амаль што нясцерпна. Але жыццё мусіць працягвацца, бо такая Боская задума. Бо, перакладаючы на беларускую мову выдатны верлібр паэтэсы,

*Самая вялікая*
*памылка ў жыцці —*
*адчуваць сябе*
*няшчасным,*
*і, пагрузіўшыся ў сум,*
*жыць,*
*невыносна пакутуючы…*

Новая кніга Тамары Красновай-Гусачэнкі — пра пераадоленне і адраджэнне, пра трыумф жыцця і вялікую асалоду духоўнасці. Гэта добрая і мудрая кніга.

## *Знаете ли вы, что…*

Вячеслав АФАНАСЬЕВ

* * *

Первым читателем первой печатной работы известного белорусского языковеда-полиглота Каэтана Коссовича был великий русский поэт Александр Пушкин. В его личной библиотеке под номером 78 до сих пор хранится книга под названием "Чтения о новейшей изящной словесности". Сочинение Д. О. Л. Б. Вольфа, профессора Йенского Университета. Перевод с немецкого. Москва. В Университетской типографии. 1835". В этой книге дан подробный обзор английской, французской, немецкой и других литератур романтической направленности. В примечании на странице 391-й сказано, что чтение о Польской словесности составлено студентом Московского университета г. Коссовичем. По всей вероятности, эта первая публикация Каэтана Коссовича и позволила ему закончить в 1836 году Московский университет со степенью кандидата.

* * *

В Государственном литературном музее в Москве, в фонде Н. Чернышевского имеется несколько копий рукописей этого революционера-демократа. Большая их часть относится к его студенческим годам. Это обширные записи лекций профессора А. А. Фишера по философии (1846 — 1848 гг.) и лекции известного белорусского профессора М. С. Куторги по всеобщей истории (1846 —1850 гг.). Оригиналы их, хранящиеся в Саратовском доме-музее Н. Чернышевского, написаны с условными сокращениями и отчасти условным шрифтом. Машинописные копии Государственного литературного музея, сделанные по расшифрованному Н. Алексеевым тексту, составляют в общей сложности 1217 листов.

* * *

Первые белорусские почтовые открытки (в рекламных объявлениях того времени они назывались "пісулькамі") стали выходить в 1906 году. В основном это были белорусские пейзажи, портреты белорусских писателей, типы белорусских крестьян. Сначала было выпущено десять почтовых открыток: "Шчарсуны ўлетку", "Шчарсуны ўзімку" (шчарсуны — жители деревни Щёрсы, что на Новогрудчине), "Францішак Багушэвіч (М. Бурачок) — песняр беларускі", "Вінцук Марцінкевіч — песняр беларускі", "Мужыкі з-пад Слуцка", "Паробковая дворная хата", "Дудар беларускі", "Янка Лучына — песняр беларускі", "Вясковая баба з Трыбужкоў", "Дом Т. Касцюшкі ў Марачоўшчыне". Через некоторое время вышло ещё более десятка: "Мужыкі з-пад Пухавіч", "Торжышча ў Пухавічах", "Дзяўчаты з-пад Слуцка", "Беларускае Евангелле XV в.", "Апостал Скарыны", "Беларуская Біблія XVI в.", "Беларускі Псалтыр XVII в.", "Беларускі жыд", "Арба вiламі па Палессі", "Полудзень жанцов на Палессі", "Селянін з-пад Мінска", "Белавежская пушча" і "Беларускі тып". Почтовые открытки выпускались на хорошей бумаге одним цветом, но цена их без марки была большая — пять копеек, а "Беларускі лемантар" и "Першае чытанне" стоили по шесть копеек.

* * *

В издательстве "Томельский рабочий" в 1926 году вышла небольшая, в 46 страниц, книжка Г. Лелевича "Сергей Есенин. Его творческий путь". В ней на одном из листов помещён факсимиле поэта. На обложке — издательская марка "Томельского рабочего", на обороте — экслибрис (гравюра на дереве): "Из книг А. Ф. Кулёмкина". Это редкое провинциальное издание, выпущенное в количестве 3100 экземпляров, было выставлено на 103-м антикварно-букинистическом аукционе, состоявшемся 29 марта 1997 года. Оно было моментально продано за солидную сумму. Столь колоссальный успех книжки белорусского литературоведа Г. Лелевича объясняется тем, что это была первая биография Сергея Есенина, написанная сразу же после смерти поэта.

* * *

В 1926 году по инициативе этнографа М. Касперовича, члена-корреспондента Института белорусской культуры, являвшегося предшественником Белорусской академии наук, профессора Н. Щекотихина и художников А. Шлюбского и А. Тычины в Минске возникло "Беларускае таварыства бібліяфілаў" (БТБ). Его председателем был избран профессор Н. Щекотихин, а секретарём — М. Касперович. Членами правления БТБ были: литературовед и писатель В. Вольский, А. Тычина и профессор Б. Эпимах-Шипилло, действительный член Института белорусской культуры. К сожалению, материалов о деятельности этого общества пока не удалось обнаружить. Единственным следом существования БТБ является книга А. Шлюбского "Exlibris'ы А. Тычины" (Минск, 1928), вышедшая тиражом в 200 экземпляров. В предисловии коротко говорится о дореволюционных и советских белорусских библиотеках и экслибрисах, а затем прилагаются 16 книжных знаков, напечатанных с оригинальных досок, сообщаются основные сведения о владельцах экслибрисов, их профессии, профиле библиотеки, даётся тематический анализ каждого знака. Книга была издана очень опрятно и даже изящно. БТБ прекратило своё существование, как и большинство библиографических объединений СССР, в 1929 году.

## Унікальны праект

**Таленавітая мастачка і дызайнер Лада Ледзенева працуе ў сферы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, віртуальнага дызайну і дызайну інтэр'еру. Праявіла яна сябе і ў мастацтве афармлення кніг, і менавіта ў гэтай ролі, бадай, найбольш вядомая аматару беларускай кнігі. Шматлікія дыпломы на конкурсах “Мастацтва кнігі”, праекты, зацверджаныя на ўзроўні Міністэрства інфармацыі краіны, пераможныя работы, у якіх гарманічна спалучаюцца строгасць і нестандартнасць. Сёння ў гутарцы з нашым карэспандэнтам мастачка раскрывае сакрэты свайго поспеху.**



Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Мастацтва патрабуе смеласці

**— Ці можна дакладна вызначыць час, калі ты “захварэла на мастацтва”?**

— Гэта было ў падлеткавым узросце. Спачатку — студыя выяўленчага мастацтва на аўтазаводзе, потым — мастацкая школа. Свядомы выбар на карысць мастацтва зрабіла па яе заканчэнні. Цяпер мая дачка ідзе гэтым шляхам. (Яна скончыла тую ж мастацкую школу і больш смелая ў творчасці, больш разняволеная. Я да гэтай ступені свабоды дайшла значна пазней.)

А вось напрамак для далейшага развіцця я шукала вельмі доўга. Жаданне паспрабаваць сябе ў кнізе прыйшло ўжо пасля заканчэння мастацкага вучылішча імя Глебава. Выбірала паміж прыкладным мастацтвам і кніжнай графікай. Мяне спакусілі паступаць у Львоўскі паліграфічны інстытут (сёння — Львоўская акадэмія друкарства імя Івана Фёдарава). І мне гэта падалося вельмі рамантычным — вучыцца ў такім прыгожым горадзе, з'ехаць далёка ад бацькоў, жыць у інтэрнаце…

**— Ці лёгка атрымалася стаць студэнткай?**

— Паступіла без праблем. Вельмі своеасаблівы інстытут — поўная свабода творчасці. Давалі азы працы з кнігай — па тэхрэдагаванні, але творчы працэс ніхто не абмяжоўваў, на праглядах можна было ўбачыць усё, ад суперрэалізму да дзікага авангарда, — і ніколі ніякай крытыкі з боку выкладчыкаў.

Калі вучылася на трэцім курсе, у Львове, выкладчыкам і студэнтам паставілі ўмову: перайсці на ўкраінскую мову. Хаця гэта інстытут усесаюзнага значэння і заўсёды быў інтэрнацыянальны. Уявіце сабе пачуцці выкладчыкаў, якім было па 60 гадоў, а ад іх патрабавалі кардынальных змен… Выглядала гэта прыкладна так: амаль усе выкладчыкі на кафедры графікі былі рускамоўнымі, таму перайшлі на суржык. У выніку я апошнія паўтара года вучылася завочна. Мне нават давялося пісаць заяву, каб дазволілі абараняць дыплом на рускай мове, таму што я з іншай рэспублікі. Дыплом — энцыклапедычны даведнік “Раслінны свет Беларусі”. Навукова-папулярнае выданне пастаралася зрабіць мастацкім. З падачы кіраўніка праекта зрабіла ноў-хаў — змест кнігі вынесла на форзац. Пакуль што такога больш нідзе не сустракала.

**— Раскажы, калі ласка, пра кнігі, праца над якімі табе асабліва запомнілася.**

— У выдавецтве “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” зрабіла дызайн кнігі, прысвечанай дзесяцігоддзю Чарнобыльскай аварыі. Тады камп'ютарны дызайн толькі-толькі ўваходзіў ва ўжытак. Гэтую кнігу рабіла ўручную: выклейвала макет, шрыфты рабіла фотаспосабам, вокладку задзьмухвала аэрографам. Пры сучасных тэхналогіях многае робіцца адным націскам клавішы. Матэрыял для кнігі адзняў Уладзімір Бліноў — непрафесійны фатограф, біёлаг па адукацыі. Настолькі цікавыя фота, пабудаваныя на нюансах, вобразныя. Не ў лоб, а схопленымі дэталямі імгненняў дапамагаюць адчуць трагедыю.

Я ўдзячна выдавецтву “Чатыры чвэрці”, якое давярае майму густу. Мне пашчасціла зрабіць там значны альбом “Мастацтва Беларусі XXI стагоддзя”. Ініцыятарам выступіў Нацыянальны мастацкі музей. Выданне павінна было быць адначасова класічным і ў той жа час нестандартным. Гэта мой любімы від працы — калі мяне не абмяжоўваюць нейкімі рамкамі: фінансавымі і інш. Я магла прапанаваць усё што заўгодна. Поўная свабода творчасці.

**— З чаго для цябе пачынаецца праца?**

— Як дызайнер я заўсёды адштурхоўваюся ад візуальнага шэрагу. Іду ад матэрыялу, выбіраю, што будзе найбольш выразна глядзецца, а далей прывязваю да гэтага нейкую матывацыю. Бо калі робіш інакш — ідзеш ад ідэі да візуальнага шэрагу — выяўленчы бок прайграе. Так было і з альбомам. Сёння гэтая работа магла быць яшчэ лепшай: у Нацыянальным мастацкім музеі ёсць уласная фотастудыя, можна працаваць з фотаздымкамі аднолькава высокага ўзроўню.

Цікава было працаваць і над двухтомнікам “Археалогія Беларусі” — дастаткова складаны пошук аздаблення і вельмі каштоўны матэрыял.

Тры гады таму ў выдавецтве “Новое знание” давялося аздабляць дзіцячую энцыклапедыю. Ілюстрацыі мусілі быць навукова дасканалымі і ў той жа час адаптаванымі для дзіцячага ўспрымання.

**— На выстаўках бачыла твае работы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. А яшчэ ты рызыкнула паспрабаваць сябе як мастак па інтэр'еры.**

— Мастак заўсёды павінен быць у творчым пошуку. Асвойвала новыя тэхналогіі, займалася віртуальным дызайнам. Рабіла дробныя работы — роспіс па шкле. Адзін мой кубачак трапіў да гаспадыні заслаўскай кавярні “Шынок” — і мне зрабілі абсалютна дзёрзкую прапанову. Яна хацела класічны вітраж, звярнулася ў некалькі фірм, але кошт быў нерэальны. Мая работа падказала ёй паспрабаваць імітацыю вітража. Першы раз мне давялося выступіць у ролі мастака па інтэр'еры, прычым манументальнай формы. Кавярня знутры драўляная (сталы, крэслы). Не дэкарыраваная амаль нічым. Фактычна ўсё стала фонам для вокнаў. Яны — дамінанта. Гаспадыня ўсё правільна прадбачыла, нягледзячы на тое, што яна не мастачка. Калі зазірае сонейка, на драўлянай падлозе і сталах адлюстроўваецца шыкоўная мазаіка вітража. “Шынок” уваходзіць у Заслаўскі запаведнік, разлічаны на абслугоўванне экскурсантаў. Таму тэматыка роспісу такая: два акны ў нацыянальным беларускім каларыце, а тры — архітэктурныя помнікі Беларусі.

Але я ніколі не адмаўляюся вярнуцца да кнігі. Калі цікавая тэматыка, выбітныя людзі, якія занятыя ў творчым праекце, для мяне гэта заўсёды задавальненне. Зусім нядаўна зрабіла альбом Георгію і Наталлі Паплаўскім. Яны спрабавалі надрукаваць кнігу ў некалькіх выдавецтвах, пакуль урэшце нас не звёў лёс у “Чатырох чвэрцях”. На праект быў выдзелены грант Прэзідэнта, адказнасць высокая. Усё аздабленне і тэкст Наталля Паплаўская ўзяла на сябе. У мае абавязкі ўваходзіла карэкцыя колераў. Чыста тэхнічная праца мяне як мастака, можа, і не вельмі прывабнівала, але магчымасць кантактаваць з такімі людзьмі! Спрацаваў “чалавечы фактар”. Трэба было ўвайсці ў іх свет, зразумець матывацыю ўчынкаў і аддаць належнае іх заслугам. Я кінула ўсё і паўтара месяца пражыла гэтым выданнем. Адразу зразумела: аддаючы даніну павагі таленту гэтых мастакоў, трэба зрабіць усё магчымае, перш за ўсё перад сабой быць сумленным. Таму што яны — людзі максімальнай шчырасці ў мастацтве. Сёння такога амаль не сустрэнеш — каб творчасць ішла выключна ад сэрца.

***Візітка:***

*Лада Ледзенева нарадзілася ў Мінску ў 1968 годзе. Скончыла дзіцячую мастацкую школу № 1 г. Мінска, мастацкае вучылішча імя Глебава ў 1989 годзе, Львоўскую акадэмію друкарства імя Івана Фёдарава. Як кніжны дызайнер працуе з 1996 года. Яе работы неаднаразова адзначаліся на конкурсе “Мастацтва кнігі”: “Чарнобыль. 1986—1996. Да 10-годдзя чарнобыльскай аварыі” — дыплом II ступені (1997); фотаальбом “Савецкі раён горада Мінска. Гісторыя працягваецца...” — дыплом I ступені ў намінацыі “Заказныя выданні” (2008); “Времён связующая нить: сто живописных портретов XVI—XX вв.” — дыплом III ступені (2009).*



***На здымках: вокны ў заслаўскай кавярні “Шынок”; старонкі з дзіцячай энцыклапедыі.***

## Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК



**Сердюков, Н. Н. Луна невенчальная / Николай Сердюков. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 256 с.**

Героі аповесцей, што склалі гэтую кнігу, жылі ў асноўным у першай палове XIX ст. Гэта прадстаўнікі шляхецкай эліты, людзі літаратуры і мастацтва. У цэнтры аповеду — чалавечыя і творчыя лёсы, адносіны паміж мужчынам і жанчынай. Чэрпаючы матэрыял з мемуарных крыніц, аўтар заняўся своеасаблівай літаратурнай рэканструкцыяй тых эпізодаў, у якіх адбіліся каханне і жарсць, яркія надзеі і горкія расчараванні герояў — прадстаўнікоў сваёй эпохі.



**Броўка, П. Пахне чабор… / Пятрусь Броўка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 230 с.**

“Хіба на вечар той можна забыцца? // …Сонца за борам жарптушкай садзіцца, // Штосьці спявае пяшчотнае бор, // Пахне чабор, // Пахне чабор…” Гэты верш Петруся Броўкі ўжо больш як паўстагоддзя зачароўвае аматараў паэзіі лірычнасцю, чуласцю да прыгожага. У кнігу народнага паэта Беларусі ўвайшлі вершы і паэмы розных гадоў, якія раскрываюць гістарычную і філасофскую глыбіню светапогляду аўтара. Зборнік стане добрым дапаможнікам для настаўнікаў і вучняў.



**Розенберг, А. Я. Очерки по еврейской истории городов и местечек Беларуси / Александр Розенберг. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 400 с.**

Гэта другая кніга Аляксандра Разенберга, прысвечаная гісторыі яўрэйскіх мястэчак Беларусі. Калі ў першай распавядалася пра гісторыю яго роднай Оршы, то тут сабраны матэрыял пра 56 гарадоў і мястэчак нашай краіны. У кнізе храналагічна прасочваецца гістарычны шлях, пройдзены яўрэйскімі абшчынамі з моманту іх з'яўлення на землях Вялікага Княства Літоўскага да сённяшняга часу.



**Леви, М. Следующий раз / Марк Леви; пер. с французского А. Кабакин. — Москва: Махаон, 2010. — 256 с.**

Сёння Марк Леві — адзін з самых папулярных французскіх пісьменнікаў, яго кнігі перакладзены на 33 мовы і разыходзяцца вялізнымі накладамі. Цікава, што за правы экранізацыі яго першага рамана “Будзь гэта праўдай…” знакаміты рэжысёр Стывен Спілберг заплаціў два мільёны долараў. “Наступны раз” — захапляльны раман пра жывапіс і каханне, у ім прысутнічаюць і містыка, і рэінкарнацыя, і інтрыга, і таямніца старога дома, і загадкавая карціна, сапраўднасць якой удаецца ўстанавіць самым нечаканым спосабам… “Дырэктар музея адкрыў тэчку і працягнуў канверт. Малады чалавек акуратна яго адкрыў. Чытаючы ліст, ён устаў і пачаў крочыць па кабінеце. Скончыўшы чытанне, ён склаў лісток і моўчкі схаваў яго ў кішэню пінжака. Пасля гэтага ён прыбраў рукі за спіну, прыжмурыў вочы і ўсміхнуўся… і з таго дня ўсмешка ніколі не сыходзіла з яго твару”. Вось так усё скончылася. Згадзіцеся, фінал інтрыгуе, застаецца прачытаць, з чаго ўсё пачалося.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадстаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл. 385-60-89.**



Юрась Нераток

***Паэт і празаік Юрась Нераток (Юрый Юр'евіч Гарбачоў) — адзін з тых сучасных пісьменнікаў-наватараў, хто смела, хоць часам і даволі рызыкоўна, парушае стэрэатыпы і каноны напісання як паэзіі, так і прозы, прычым высока трымае планку самакрытыкі і патрабавальнасці да ўласнай творчасці. У яго вершах выразна чуецца рытмічна-музычная аснова, увогуле гэта, як сцвярджае аўтар, "зашыфраваныя пасланні сучаснікам і нашчадкам" — каму трэба, дык той зразумее. Зноў жа, у яго прозу напрошваецца стэрэатып "маленькі чалавек", але ён разбураецца майстэрствам апавядальніка будаваць сюжэт, выбіраць неадназначнага героя, дапаўняючы ход падзей у творы паблажлівай іроніяй, сарказмам, што ў поўнай меры можна аднесці і да апавядання "Істота", дзе колішні кіраўнік нейкага горада да самай смерці не можа змірыцца са страчаным статусам. У генерацыі беларускіх літаратараў, чые імёны "засвяціліся" на размежжы двух тысячагоддзяў, Юрась Нераток тым і вылучаецца, што не ідзе пратаптанымі сцежкамі — у яго свой творчы почырк, свой жыццёвы досвед. Напрыканцы верасня аўтару самабытных кніг паэзіі і прозы "Фотаальбом", "Споведзь струны", "Закуцце" споўнілася 50 год, і, друкуючы апавяданне "Істота", якое ідзе з падзагалоўкам "Наменклатурная фантазія", рэдакцыя "ЛіМа" віншуе вядомага пісьменніка з юбілеем.***

# Істота

## Наменклатурная фантазія

А чалавек некалі быў ого які вялікі і значны! Каб было зразумела: самому яму схіляцца перад вышэйшымі кіраўнікамі даводзілася прыблізна раз на месяц. Астатні час перад ім ва ўсяго горада каленкі трэсліся. За выключэннем, канечне, тых, каго ён і ва ўпор не мог разгледзець. У мурашоў і кузурак сваё жыццё.

Жонка Кацярына Паўлаўна была маладзейшая на сямнаццаць гадоў і абагаўляла Георгія Канстанцінавіча. Ёсць такія жанчыны — і сама не пустышка, а ўсю сябе аддасць, усё ахвяруе, каб падтрымаць мужа, забяспечыць яму, так сказаць, трывалыя тылы. Нярэдка парады маладой жанчыны давалі Георгію Канстанцінавічу магчымасць разруліць складаную сітуацыю. І жаночае чуццё дапамагала, і веданне Сістэмы, а больш тое, што ў воўчай яме апроч волглых земляных сцен ды ашмотка неба над галавой нічога не бачна. Не тое што збоку. Шчыра кажучы, Георгій Канстанцінавіч падтрымку жонкі не цаніў: дазволіш сабе сентыментальную слабінку — яна размазнёй на рабоце праявіцца. А маладая жонка на мужаву жорсткасць не крыўдзілася — дзяржаўны чалавек!

Час ішоў, работа кіпела. Змянілася пакаленне. Усё часцей Георгій Канстанцінавіч чуў у свой адрас лісліваыя словы, часцей сталі запрашаць у прэзідыумы, браць інтэрв'ю, друкаваць, узнагароджваць. Ужо і вышэйшыя не грукалі, як некалі, кулаком па стале карэльскай бярозы, абшытай аксамітам, а мякка ўказвалі, ледзь не прасілі ўлічыць. Адчуваў ён, што да дабра гэта не давядзе, што надзейней быць канём на пераправе і камбайнам у полі, чым правільным лозунгам на яркай тканіне ці жывой легендай.

Зменіцца лозунг — і тканіна пойдзе на анучы, а ад жывой легенды да хадзячага анекдота — паўкрока.

А куды папрэш супраць натуральнага ходу падзей? Таму, зразумела, раз'юшыўся Георгій Канстанцінавіч, калі ўпершыню публічна пачуў пра сябе ад авантурнага выскачкі як пра кіраўніка "старой фармацыі". Нават сцёр гэтага разумніка ў пыл, хоць за ім і сур'ёзныя на тых часах людзі стаялі. Аднак тэндэнцыя паглыблялася, мерканне фарміравалася, чуткі пра магчымую адстаўку пашыраліся.

Увобмірг вырвалі Георгія Канстанцінавіча з наменклатурнай абоймы, як гаспадыня варанае яйка выхоплівае з кіпеню пад халодную ваду. І самае подлае, што вырашылася гэта падчас гіпертанічнага крызу, з якім і паляжаў усяго два тыдні. А перад гэтым шмат гадоў ніводнага разу ў адпачынку не быў…

Знешне, вядома, усё прыстойна: і рэгаліі, і кватэра ў элітным доме, і персанальная пенсія, і прэзідыумы, і білеты на любыя мерапрыемствы. Але як пуста адразу стала!

Наведвалі спачатку Георгія Канстанцінавіча былыя калегі з серадняччкоў. Ён адразу — ветліва, а потым не стрымаецца і выкажацца: ты, маўляў, ніхто і завуць цябе ніяк. Каму патрэбна пыніжацца, тым больш перад былым аўтарытэтным чалавекам? Мы да цябе — з усёй павагай і разуменнем, а ты… Вось гэтага "разумення", у якім схавалася спачуванне, Георгій Канстанцінавіч і цярпець не мог. Карацей, перасталі хадзіць-дакучаць.

Публічныя мерапрыемствы, куды запрашалі як ганаровага жыхара горада, спачатку наведваў, а потым надакучыла — не хацеў быць вясельным генералам. Бачыў ён такіх, якія, каб змякчыць падзенне, пасля адстаўкі і грамадскія арганізацыі ўзначальвалі, і ў палітыку лезлі. А некаторыя дзівакі пачыналі аматарскія вершыкі пісаць або на дачным участку моркву акучваць. Ставіўся Георгій Канстанцінавіч да іх без пагарды, аднак самому такім стаць гонар не дазваляў.

Час ішоў. Прачнецца звычайна Георгій Канстанцінавіч у дрэнным настроі і не ў лепшым стане. Сняданак на стале, усё свежанькае, усё — па дыеце. Зіркне на Кацярыну Паўлаўну і моўчкі сядзе за стол. Калупне грэчку і адсуне: "Гэта на машынным масле ці на гудроне?" Кусне бутэрброд з вяндлінай і зноў на талерку пакладзе: "Колькі можна людзей гэтай хіміяй геннамадыфікаванай нашпігоўваць?" Паходзіць-паходзіць па кватэры, вернецца, сербане чаю: "Прасіў жа гарачым падаваць!"

Накіне плашч, надзене капялюш, возьме ў рукі кіёчак з металічным стрыжнем унутры — і дзвярыма ляпне.

Кіёчак, які ён прыкупіў адразу пасля адстаўкі і жартам называў кульбай, шчыра кажучы, Георгію Канстанцінавічу для хадзьбы і не патрэбен быў. Ногі пакуль нармальна ішлі і галава не кружылася. А каб бачылі паскуднікі, што ён хоць і не пры той моцы, што раней, а пабіць, калі што, здолее. Неяк адзін нахабнік аўтамабіль прыпаркаваў перад самым носам, гаспадар жыцця! І толькі ад таго, што абыходзіць іншамарку трэба, злосць ускіпела. А яшчэ і лужына збоку, хоць вяртайся. Палкай — па заднім шкле ды па паваротніках! Пішы, збірай сведкаў, падавай у суд! Так усё нічым скончылася: і Савет ветэранаў заступіўся, і суд уважыў — правалакіцілі, а валакіту на сябе ўзялі.

…Кацярына Паўлаўна, пакуль муж па горадзе гуляе, прыбярэ ў кухні, на базар і ў магазін сходзіць, газеты з паштовай скрыні возьме. Не злавалася яна і не крыўдзілася — разумела і шкадавала. Хоць шкадобы, зразумела, не выказвала нават позіркам — не стрымаўся б Георгій Канстанцінавіч і не дараваў бы ніколі.

А ён вернецца ў кватэру, пачытае газеты і пачынае расказваць, што ў горадзе не так. Ужо як аднадумцу. А нешта можа і пахваліць, усё ж гаспадарскае паняцце пры ім. Жонка ніколі не спрачаецца, а пагаджаецца не дэманстратыўна. Бо ведае, што муж не любіць ні амбіцыйных спрачальнікаў, ні бесхрыбетных ківальнікаў.

Так і жылі, пакуль не наблізілася ўрачыстая дата — сярэбранае вяселле. Георгій Канстанцінавіч на той час разменяў восьмы дзясятак, і Кацярына Паўлаўна стала пенсіянеркай па ўзросце. Гасцей навошта збіраць, ды і няма нікога даўно: сябры і родзічы (і ягоныя, і жонкі) аддаліліся, калі ён яшчэ кіраваў горадам. Георгій Канстанцінавіч быў у лагодным настроі і спытаў, які патрэбны падарунак, каб падзея запомнілася.

Вось тут Кацярына Паўлаўна рожкі і высунула: хачу, кажа, каб у нас у доме кацяня жыло. Па жыццёвых мерках пытанне плёвае, каб не прынцыпы Георгія Канстанцінавіча: недалюбліваў ён жывёлін, тым больш такіх бескарысных, як каты. Аднак з узростам самыя суровыя людзі лягчэй ідуць на кампраміс. Падумаў ён, што і з дзецьмі ў іх не склалася з-за яго службы і што асаблівай ласкі Кацярына Паўлаўна ад яго не бачыла, і што не ўсё ж ёй самой падпарадкоўвацца — павінен нехта ў штаце і ў яе быць… Ды і словам сваім адкату даваць не прывык. Карацей, даў слабінку.

З'явілася ў кватэры кацяня, дакладней, сіямская котачка, якую Кацярына Паўлаўна назвала Мурачкай.

Нічога асаблівага ў жыцці не змянілася, толькі да прэтэнзій Георгія Канстанцінавіча дадалася яшчэ адна тэма. І Мурачку інакш як Істотай не называў. Хоць інтанацыі былі рознымі ў залежнасці ад настрою. І эпітэты часам дадаваў: магла быць Істота і нікчэмнай, і Божай.

Калі Кацярына Паўлаўна патрапіла ў бальніцу, давялося карміць котку і прыбіраць за ёй. Пры гэтым Георгій Канстанцінавіч увесь час бурчаў, а то і пакрыкваў на Мурачку, затым доўга і дбайна мыў рукі з мылам.

Наведаў ён жонку ў бальніцы. За жыццё ржавага цвіка не забіў, а тут скарыстаў правы: пакралі яе ў асобную палату і ўрача прызначылі, якога яна захацела.

Прайшло яшчэ гадоў дзесяць, і адышла Кацярына Паўлаўна ў лепшы свет. Але і гэта злаўчылася зрабіць так, каб муж паспеў прывыкнуць і прыстасавацца. Пакуль у бальніцах ляжала, ён сабе нешта і купляў, і варыў. Нават мыць бялізну — замочваць, а пасля паласкаць — навучыўся. І прыбіраў у кватэры сам, бо лічыў усіх дамработніц патэнцыяльнымі зладзейкамі і рэальнымі інфарматарамі. Хоць і красці асабліва не было чаго, а інфармаваць — тым больш.

Калі было зразумела, што зваротны адлік пайшоў на дні, і жонка знаходзілася дома пад прыглядам сядзелкі, былой актрысы, Георгій Канстанцінавіч прымасціўся на краёчак ложка, узяў Кацярыну Паўлаўну за руку і сказаў:

— А я ж цябе калісьці за адну-адзіную ўсмешку пакахаў, Кацечка. Помніш, калі з камісіяй аўтаматычную лінію на заводзе пнеўмапрываду прымалі? А потым я больш ні разу такой усмешкі ў цябе не бачыў…

— За гэту? — Яна ўсміхнулася сухімі вуснамі, вочы яе гарэзна бліснулі і адразу ж сарамліва апусціліся ўправа і ўніз. — Я перад люстэркам рэпеціравала — вельмі замуж за цябе хацела, Жора…

Георгій Канстанцінавіч таксама ўсміхнуўся і заківаў.

— І па імені ты мяне амаль ніколі не называла.

— Ты быў мой самы галоўны чалавек. А добрым ты рабіўся толькі п'яненькі…

Георгій Канстанцінавіч хацеў папрасіць за ўсё прабачэння, ды горла нешта перацяла, а адкашліванне падалося недарэчным, як хуліганскі свіст. Ён паспешна пацiскаў худзенькую халодную далоньку жонкі і выйшаў.

На пахаванні Кацярыны Паўлаўны ён стаяў з каменным тварам. Не сказаў ні слова, не пусціў ні слязінкі.

Без Кацярыны Паўлаўны котка, якая па сваім веку таксама была немаладой, стала капрызнай, нахабнай і патрабавальнай. Георгій Канстанцінавіч адносна лёгка трываў гэта ўдзень, бо самакрытычна ўспамінаў уласнае раздражненне супраць белага свету і анёльскі характар жонкі, якую яму некалі падарылі пасада і лёс.

А вось калі Істота ўздымала рэзкае агіднае выццё сярод ночы, крохкі сон імгненна абсыпаўся аскепкамі, на твары і грудзях выступаў пот, а зношанае сэрца пачынала не толькі ўзмоцнена біцца, а яшчэ і булькатаць і як бы пераварочвацца. Тут розум дапамагчы не мог!

Георгій Канстанцінавіч напачатку сыкаў, а затым крычаў Істоце, каб тая замоўкла. Праз мінуту выццё зноў узнаўлялася — ён стукаў кульбай па шафе. Пасля ўсё ж даводзілася ўставаць і заганяць котку за батарэю або пад канапу.

Калі Істота нарэшце спалохана супакойвалася, ён ішоў на кухню і браў з халадзільніка лекі для сэрца, якое жыло сваім клопатным жыццём: то амаль спынялася, то пачынала адбіваць паскораны рытм, то перапампоўвала кроў так, што чулася булькатанне. Гэта непакоіла толькі на рэфлексійным узроўні — свядомасць нічога не мела супраць смерці.

Георгій Канстанцінавіч даўно прывык да енкаў Істоты і нават з гумарам асацыяваў іх з колішнімі "накачкамі", пад якія трапляў сам і якія рабіў іншым.

Канечне, былі і спакойныя ночы. Пасля адной з такіх начэй Істота не выйшла да сняданння. Гаспадар пасля клапатлівых пошукаў знайшоў яе пад канапай мёртвай. Ён чуў, што апошнім часам увайшлі ў моду магільнікі хатніх жывёл, аднак лічыў гэта забаўкай, якая ўсё ж прыносіла даход гораду.

З пэўнай доляй агіды ён абкруціў газетай нечакана доўгае і цвёрдае цела стварэння, з якім пражыў амаль пятнаццаць гадоў, затым увапхнуў у вялікі гаспадарчы пакет. У смеццепровад рашыў не выкідваць, а занёс да кантэйнераў. Доўга чытаў надпісы "Метал", "Шкло", "Пластык", "Харчовыя адкіды", "Анучы", "Папера"… Не прыдумаў нічога лепшага, як пакласці пакет з коткай паміж кантэйнерамі.

А ў наступную ноч памёр сам. Істота не падняла гаспадара, каб той выпіў сярод ночы лекі, як рабіў гэта апошнія гады, і сэрца бездапаможна ўсхліпнула апошні раз і спынілася.

Алена ДРАПКО

**Мудрасць, паводле назіранняў гэтага чалавека, — здольнасць захаваць сябе па жыцці ад разбурэння. Маштабы разважанняў яго тлумачаць, чаму Віктар Аслюк, беларускі рэжысёр дакументальнага кіно, не з ліку тых, каго ведаюць у вузкім тутэйшым коле — яго фільмы вядомыя ва ўсім свеце. У чым яго сакрэт? Мабыць, у ім самім: у адносінах да жыцця, у замілаванасці простымі адкрытымі прасторамі, драўлянай хатай, у шчырай зацікаўленасці чалавекам, яго надзеямі і драмамі, у жаданні сказаць пра важнае проста.**

# З адчуваннем культурнага коду



**— Віктар, над чым вы цяпер працуеце? Што здымаеце?**

— Цяпер модна казаць, калі нешта здымаеш, — "праект". Гэта 26-хвілінны фільм пра даўняга майго знаёмага Мікалая Тарасюка. Чалавеку ўжо амаль 80 гадоў. Ён жыве ў Пружанскім раёне і вядомы як народны майстар. Вырабляе лялечныя кампазіцыі, галоўныя сюжэты якіх — жыццё традыцыйнай даваеннай вёскі. Такая вёска перастала існаваць гадоў пяцьдзясят таму. На той час ён быў малы, але памятае яе, і для яго гэта важна. Лялечныя кампазіцыі — асноўная праца, якой ён займаўся сорак гадоў, і цяпер нешта робіць. Цікавы чалавек. У мяне захоўваліся некаторыя матэрыялы, знаёмства з ім. Час ішоў, але не было магчымасці дазняць чалавека. І вось за кошт студыі заканчваю гэты фільм. Дасць бог, буду здымаць яшчэ ў кастрычніку. І к канцу года фільм будзе. Для мяне ён важны. Ёсць некалькі тэм, праца над якімі цягнецца дастаткова доўга. Я падумаў, што іх трэба закончыць, не трэба марудзіць, бо ўсё вельмі хутка знікае, асабліва калі гэта людзі ў сталым узросце. Гэта і ёсць адна з такіх тэм — "драўляны народ" Мікалая Тарасюка.

**— Вясковая тэма гучыць у шэрагу вашых фільмаў. З чым звязаны зварот да яе?**

— Гэта найбольш вядомыя мае фільмы. Калі палічыць, колькі я зрабіў фільмаў на іншыя тэмы, то іх не менш. Пяцьдзясят на пяцьдзясят, дакладна. Іншая справа, чаму я за гэта бяруся? Чаму яны больш вядомыя? Ёсць некалькі прычын акрамя ўнутранага сентыменту да вёскі. Калі бачыш праявы вечнага і нязменнага, то хочацца да гэтага датыкнуцца. Яшчэ адна прычына — тое, што здымкі вясковых людзей даюць больш камфортныя ўмовы працы. Не патрэбна ніякіх спецыяльных дазволаў, ніхто не дапытваецца: хто вы, што вы. Там жыццё ідзе іншым цыклам, яно больш даступнае. Больш магчымасцей для разглядвання. І многія дакументалісты любяць здымаць менавіта вёску, а не горад. Некаторыя кажуць, што калі знікне традыцыйнае жыццё, не папсаванае сучаснай цывілізацыяй, то знікнуць усе сюжэты. Гэта вельмі блізка да праўды. Майму сэрцу больш міла драўляная хата, трава, лес, адкрытая прастора. Абсалютна першасныя рэчы.

**— Неяк вы сказалі: "Я не ўмею рабіць фільмы для гледача, я раблю іх для сябе". Ваша пазіцыя змянілася?**

— Вы ўспомнілі "леташні снег", я даўно гэта казаў. Гэтая фраза, з аднаго боку, страх: маўляў, тое, што ты робіш, не прызнаюць, не зразумеюць. А з другога боку, прынцып, што ніколі не трэба патрафляць гледачу. Асабліва ў дакументальным кіно. Для таго, каб мець смеласць так заяўляць, трэба быць на пэўным узроўні. Гэта праблема: хто ацэньвае фільм, як ацэньвае? Ёсць розныя фільмы. Тыя, якія глядзяць усе, — камерцыйнае кіно. Ёсць стужкі, якія глядзяць нямногія, альбо такія, якіх ніхто не бачыць. Самыя лепшыя фільмы заўсёды рабіліся ў сегменце, не накіраваным на камерцыю. У іх паказана сапраўднае жыццё, сапраўдныя драмы, чалавечыя спадзяванні, чалавечы тупік, адчуванне смяротнасці, непазбежнасці часу… Старыя ісціны. Іх паўтараць можна і трэба, без спадзяванняў, задумаецца нехта ці не.

**— У вашых фільмах ёсць вельмі важная рэч — ваша стаўленне да герояў. Што ляжыць у яго аснове?**

— Справа ў тым, што існуюць розныя падыходы да героя ў дакументальным кіно. Адзін з іх такі: рэжысёр просіць дазволу быць побач, а потым пры мантажы ў фільме падкрэслівае дыстанцыю паміж камерай і героем. Быццам назірае збоку і стараецца быць максімальна незаўважным. З гэтага выводзіцца формула: аўтар павінен быць абсалютна нейтральным. Немагчымасць блізка падысці да чалавека была маёй праблемай, а хацелася дабіцца таго, каб герой быў максімальна раскрыты і меў кантакт не толькі са мной, але і з гледачом. Для гэтага патрэбен толькі час і зацікаўленасць чалавекам. Я прытрымліваюся формулы, што аўтар не павінен быць абыякавы. Ён праз сябе павінен выказваць нейкую сваю эмоцыю.

**— Як вы адносіцеся да крытыкі?**

— Я помню крытычныя матэрыялы, якія ў асноўным выходзілі нават не ў Беларусі, а за мяжой. Не заўсёды згаджаўся з аўтарамі. Але я думаў: пра большасць жа зусім нічога не пішуць. Самая горшая крытыка — гэта калі пра цябе пішуць добра, але пры тым паказваюць абсалютнае неразуменне, а хваляць за такое, што лепей маўчалі б. Але я магу сказаць, што спецыяльна пра сябе матэрыялы не шукаю.

**— Наколькі важная для вас ацэнка з боку блізкіх вам людзей?**

— Стаўлюся да гэтага нейтральна. Я нікому нічога не паказваю, пакуль праца не даведзена да канца. Ёсць людзі, якія на мяне ўплываюць. Калі яны скажуць, што гэта дрэнна, то стараюся нешта перарабіць. Пачынаю думаць, якім жа чынам, і раблю, пакуль не зразумею: зрабіў што мог. Калі адчуваю, што з гэтым матэрыялам больш нічога не зраблю, кідаю. На мяне цяжка паўплываць. Я разумею ўсе абмежаванні, якія ёсць у мяне на сённяшні дзень, і тыя праблемы, якія мушу вырашаць, ці застацца ў прафесіі, ці заняцца нечым іншым.

**— Як вы ацэньваеце патэнцыял маладых рэжысёраў?**

— Перспектыва заўсёды ёсць, калі ёсць людзі. Для таго, каб узнікла ідэя нейкага руху, трэба бачыць, куды ісці. Патрэбна існаванне ідэі на ўзроўні нацыі. Таму што ў кіно, пры ўсёй яго інтэрнацыянальнасці, павінны адчувацца культурныя коды. Гавораць: мы — маленькая краіна. Не маленькая. Нас дастаткова, каб сказаць нешта сабе, а тым самым свету. Калі будзе ідэя: "Мы робім беларускае кіно", то будзе і нацыянальнае беларускае кіно. На сённяшні момант такія задачы не ставяцца, а толькі недзе прагаворваюцца.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Заўтра, у Міжнародны дзень музыкі, у Мінску ўрачыста адкрыецца VI міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Распачне гэтую дэкаду класічнага мастацтва не традыцыйная імпрэза ў філарманічнай зале, а святочнае шоу... пад купалам Беларускага дзяржаўнага цырка. Лепшыя артысты папулярнага відовішчнага жанру прычыняцца да канцэртнай праграмы, удзел у якой возьмуць маэстра Юрый Башмет і Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі на чале з яго мастацкім кіраўніком Аляксандрам Анісімавым. Гучаць будзе музыка Г. Берліёза і П. Чайкоўскага.

Шаснаццаты раз прайшоў у Брэсце міжнародны тэатральны фестываль "Белая Вежа". Творчыя калектывы з 12 краін (Арменіі, Германіі, Ізраіля, Расіі, Таджыкістана ды інш.) паказалі спектаклі, сугучныя тэме, якая стала дэвізам фэсту: "Час кахаць!" Беларусь прадстаўлялі 8 калектываў. Адзін з іх — Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага, які паказаў пастаноўку "Эдып" паводле п'есы А. Мінчуковай, — атрымаў Гран-пры "Белай Вежы" ў намінацыі "За лепшы спектакль малых формаў". Харкаўскі дзяржаўны ўкраінскі акадэмічны тэатр імя Т. Шаўчэнкі (Украіна) адзначаны "За паслядоўнасць рэжысёрскага эксперыменту", "Унія Тэатр Невагодны" з Варшавы (Польшча) — "За філасофскую неверагоднасць тэатральнай мовы".

Як вядома, "Анімаёўка" — не толькі свята мультыплікацыйнага кіно, але і творчае спаборніцтва сярод яго ствральнікаў. Вось і сёлета ў межах гэтага міжнароднага фестывалю анімацыйных фільмаў, які ладзіцца ў Магілёве, адбыўся конкурсны паказ. Гран-пры "Анімаёўкі-2011" рашэннем журы дастаўся стужцы "Кінематограф" польскага рэжысёра Томека Брагінскага. Работа беларускага аніматара Уладзіміра Пяткевіча "Курка Раба" заваявала Прыз глядацкіх сімпатый. А ў конкурсе мульцікаў, намаляваных дзецьмі (новы праект "Анімаёўкі"), перамог фільм "Дзіўныя хлопчыкі", створаны на мінскай студыі дзіцячай анімацыі "Мы ёсць!".

Выстаўка "Вечаровая гармонія", што на працягу месяца праходзіла ў Мінску, успрымалася прыхільнікамі творчасці народнага мастака Беларусі Гаўрылы Вашчанкі як адкрыццё. Бо яна сталася першай персанальнай выстаўкай карыфея айчыннага жывапісу ў якасці тонкага, пранікнёнага майстра акварэлі. Экспазіцыя, назву якой дала адна з работ, разгарнулася ў Гарадской мастацкай галерэі твораў Леаніда Шчамялёва — таксама народнага мастака Беларусі, чые палотны на гэты час выправіліся са свайго мінскага дома "пагасціваць" у Гомель. Адметна, што там, у сёлетняй культурнай сталіцы, персанальную выстаўку Леаніда Шчамялёва прыняла імянная Карцінная галерэя Гаўрылы Вашчанкі.

Прэм'еру мюзікла для дзяцей і дарослых "Чарадзейная лямпа Аладзіна" Марка Самойлава пакажа ў нядзелю раніцай Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр. Рэжысёр-пастаноўшчык новага спектакля — Сусана Цырук, музычны кіраўнік — Юрый Галяс, музычную рэдакцыю і аранжыроўку зрабіў Ігар Бычкоў, хормайстар — Святлана Пятрова. З імі поруч працавалі харэограф Алена Дзмітрыева-Лаўрыновіч, сцэнограф Любоў Сідзельнікава, мастак па касцюмах Таццяна Каралёва (Расія)... Ролі персанажаў гэтай казачнай гісторыі выконваюць Кацярына Дзегцярова, Дзяніс Нямцоў, Алег Прохараў, Ганна Бяляева, многія іншыя артысты тэатра.

Яўген СІНІЧЭНКА

# Іншы погляд

**Да 21 кастрычніка ў сталічнай бібліятэцы імя Францішка Багушэвіча праходзіць выстаўка стэрэафотаздымкаў "Іншы погляд 3D", сярод якіх прадстаўлены работы майстра аб'ёмнай фатаграфіі Максіма Пермінава.**

Майстар, які меў на мэце перадаць гледачу рэальнасць у трох вымярэннях з дапамогай такой, здавалася б, звыклай для чалавечага вока фатаграфіі, гэтай мэты дасягнуў: здымкі ўзрушваюць глыбінёй адлюстраванай прасторы, а таксама незвычайным эфектам прысутнасці. Бо фатаграфія, у традыцыйным разуменні, уяўляе сабой нейкі захаваны момант рэальнасці, які адлюстроўваецца на плоскасці і перадае гэтую рэальнасць у лініях, толькі нагадваючы пра аб'ём. І для перадачы гэтага ўяўнага аб'ёму выкарыстоўваюцца цені, святло, кантрасты. А на стэрэафотаздымках аб'екты прадстаўлены ў трохмернай прасторы, і для чалавечага вока гэта больш звыкла, чым проста двухмерная плоскасць. Таму такія здымкі дзівяць сваёй глыбінёй і перадачай найдрабнейшых дэталяў.

На выстаўцы экспануюцца работы Максіма Пермінава ў пэўнай тэматыцы: беларуская культура, архітэктура, гісторыя беларускага народа — усё гэта аўтар здолеў прадставіць на невялікай колькасці фотаздымкаў. І адлюстраваць багацце нашай зямлі праз фотавыявы, зробленыя надзвычай па-майстэрску, пранікліва звычайнасцю сродкаў перадачы рэальнасці.

Праўда, у работах такога кшталту ёсць і свае мінусы: на здымках практычна адсутнічае колеравая гама. Амаль усе фатаграфіі прадстаўленыя ў храматычных танах, і толькі некалькі здымкаў радуюць гледачоў фарбамі. Але ўсё-ткі каларыту нашай з вамі культуры такая эстэтыка дадала нават пэўны глянец. Ад выстаўкі зыходзілі павевы айчыннай гісторыі, узнікала жаданне з'ехаць з шумнага і пыльнага горада ў аддаленыя куткі нашай Радзімы, каб атрымаць асалоду ад спакою і цішыні беларускай прыроды.

На вернісажы гучалі народныя беларускія песні з выкарыстаннем акустычных музычных прылад. У адкрыцці выстаўкі ўдзельнічаў таксама Юрый Жыгамонт, артыст і вядучы тэлепраграмы "Новыя падарожжы дылетанта". Панаваў народны каларыт, і ўся імпрэза разгортвалася ў атмасферы вясковага жыцця, рухаваю і напоўненую бабулінымі апаведамі.

# На крылах «Жаваронachкаў»



Вікторыя ПЯТКЕВІЧ

**Удзельнікі ўзорнага ансамбля народнай песні "Жаваронaчкі" Стаўбцоўскай дзіцячай школы мастацтваў уразілі сваёй творчасцю не адно конкурснае журы. Іх звонкія пералівістыя галасы, дзіцячая непасрэднасць і пры тым — прафесійны ўзровень выканання беларускага фальклору заварожваюць, вяртаюць ад гэтак званай маскультуры да самых вытокаў нашых: дзявочых спеваў на вячорках, жаночых — падчас цяжкай працы ў полі, абрадавых — на народных гуляннях.**

## Ад Стоўбцаў да Вільнюса

Ансамбль "Жаваронaчкі" (мастацкі кіраўнік Людміла Канаплянікава-Доўнар) у 2004 годзе стаў лаўрэатам міжнароднага фестывалю "Залатая пчолка", які праходзіць у горадзе Клімавічы. Літаральна праз год — новая музычная вяршыня: Гран-пры міжнароднага фестывалю дзіцячай творчасці "Балтыйская муза" ў Вільнюсе. "Жаваронaчкаў" прыкмецілі і адзначылі Грандам-прэміяй спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Узнагарод у ансамбля багата. Самыя дарагія і памятныя з іх упрыгожваюць кабінет, дзе праходзяць заняткі, рэпетыцыі калектыву. Ускосна яны пацвярджаюць, што народная песня жыве і будзе жыць дзякуючы нястомным творчым крылам "Жаваронaчкаў".

*— Мы ездзім па ўсёй Беларусі, — расказвае Людміла Канаплянікава-Доўнар. — Удзельнічаем у конкурсах, святочных канцэртах. Напрыклад, нас запрашалі выступаць на рэспубліканскім фестывалі-кірмашы працаўнікоў вёскі "Дажынкі", у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, на Мінскім маторным заводзе... Бывае, што за дзень выходзім на сцэну некалькі разоў. На Стаўбцоўшчыне штогод ладзіцца Тыдзень музыкі. У гэты час мы актыўна наведваем дзіцячыя садкі, школы і дорым нашым юным слухачам песні нашых продкаў.*

## Галасістыя? Значыць, да іх!

Каб заахвоціць дзетак, абудзіць іх цікавасць да народнай песні і сабраць такі калектыў, Людміла Канаплянікава-Доўнар пабывала ва ўсіх школах Стаўбцоўшчыны.

*— Сёй-той паставіўся тады да маёй ідэі насцярожана, — успамінае Людміла Пятроўна. — Маўляў, гэта ўжо не модна. Але ўсё ж знайшліся сярод сучасных школьнікаў вельмі цікавыя ды таленавітыя, уладальнікі звонкіх непаўторных галасоў. Недарма ў калектыву сугучнае яго творчасці імя: "Жаваронaчкі". На ўсе лады "спявае" наша праца.*

На базе ансамбля створаны фальклорны клас. Яго навучэнцы праз пяць-сем гадоў (у залежнасці ад узросту) атрымліваюць дыплом выпускніка дзіцячай школы мастацтваў і маюць права паступаць у профільныя каледжы ці ўніверсітэт.

За амаль дзесяць гадоў плённага жыцця "Жаваронaчкаў" у гэтай спеўнай сям'і ўзгадвалася і "стала на крыло" некалькі пакаленняў моладзі. Самыя першыя ўдзельнікі — ужо студэнты ВНУ. На іх месца прыйшла галасістая маладая змена.

## Сугучнасць

На адной з рэпетыцый назірала, з якой адказнасцю ставяцца да заняткаў удзельнікі калектыву. Уся ўвага — на кіраўніка.

*— Тройчы на тыдзень мы спяваем па групах, ладзім таксама індывідуальныя заняткі, — кажа Людміла Пятроўна. — Каб дасягнуць майстэрства, рэпеціруем па вечарах, у выхадныя дні. Асабліва напружана працуем перад выступленнямі. А выступаць даводзіцца часта.*

Сцэнічнае суладдзе "Жаваронaчкаў" сведчыць пра сапраўды грунтоўную працу. Правільнае дыханне, распрацоўка голасу, уменне "ўзяць" патрэбную ноту і слухаць адно аднаго... Многія песні ў рэпертуары вылучаюцца рознатанальнасцю, таму важна дамагчыся, каб ніводны гук не парушыў гармонію галасоў.

Ад выступлення дзяцей-"жаваронaчкаў" раптам павеяла вясной, цеплынёй бабуліных рук і ўспамінаў пра яе маладосць... Няма межаў у шырокай народнай песні, якая ідзе з душы. Яна гучыць пад скокі і вершы, акапэльна або з музычным суправаджэннем.

*— Дзякую выкладчыкам школы мастацтваў, якія дапамагаюць зрабіць выступленні ансамбля больш яркімі і прыгожымі, — адзначае яго кіраўнік. — Юлія Бохан займаецца харэаграфічнай часткай. За правільным вымаўленнем, інтанацыяй сочыць Антаніна Бондарава. Прафесійна працуюць з калектывам канцэртмайстры-баяністы Ягор Дырда, Дзмітрый Слесарчык і Артур Лапкоўскі.*

## Як у сям'і

"Жаваронaчкі" — гэта яшчэ і надзвычай добрая атмасфера. Кожны ўрок — сустрэча з творчасцю, з сябрамі і аднадумцамі. Салістка ансамбля Юлія Жук прызнаецца, што знайшла тут сяброў і ўлюбёны занятак.

А Лізавета Гаўрыленка, якую прывяла сюды мама, расказвае:

*— Займаюся ўжо другі год. Напачатку мне было вельмі цяжка спяваць на сцэне, перад слухачамі. Але паступова пачала атрымліваць задавальненне ад спеваў, хоць перад кожным выступленнем усё адно хвалююся.*

Звонкія дзявочыя сапрана аздабляе голас Аляксандра Зяньковіча. У наступным годзе хлопец скончыць фальклорны клас, а ўжо сёлета атрымае дыплом акардэаніста. Аляксандр упэўнены: "Часу на ўсе заняткі хапае, калі ёсць жаданне".

*— Дзяцей заўжды вучу: "У нашай сям'і я — за маму, канцэртмайстар — за тату", — усміхаецца Людміла Пятроўна. — Падтрымліваю сувязь з бацькамі кожнага вучня. Разам нам удаецца вырашаць усе праблемы.*

Спакон веку добразычлівасць, памяркоўнасць, працавітасць і, вядома, песеннасць былі рысамі натуры беларусаў, вызначальнымі для абрадавых традыцый і побыту нашага народа. Гэтая каштоўная спаконвечная спадчына, услаўленая чыстымі дзіцячымі галасамі "Жаваронaчкаў", жыве сярод нас і сёння.

# Лепшае ад Мельпамены

Лана ІВАНОВА

**Пачатак новага сезона ў мастацкім жыцці сталіцы адметны не толькі прэм'ерамі, але і творчымі візітамі сусветна знакамітых гасцей. Вось і гэтай восенню наша публіка ў чаканні гасцей Тэатральнага тыдня з "Белгазпрамбанкам". Аднак замест ужо традыцыйнага свята сцэнічнага мастацтва нам прапануюць... сем цудаў свету. "Сем краін — сем цудаў": такое вобразнае тлумачэнне атрымала канцэпцыя новага Міжнароднага форуму тэатральнага мастацтва "Тэарт", які пройдзе ў Мінску з 7 па 26 кастрычніка.**




Яго арганізатары — зусім яшчэ малады Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў, створаны Міністэрствам культуры Беларусі ў снежні 2010 года, і ААТ "Белгазпрамбанк" — ладзяць паказ унікальных спектакляў, пастаўленых рэжысёрамі сямі краін.

"Тэарт" не мае патрэбы ў дадатковай рэкламе. Яго афіша гаворыць сама за сябе. Адкрые форум "Дзядзька Ваня" ("Які сочыць за жанчынай, якая сама сябе забівае") паводле А. Чэхава ў пастаноўцы Даніэля Веранэзе з Аргенціны. Карэйскі тэатр "Play Factory Mabangzen" пазнаёміць нас са спектаклем "Кілбэт" — самабытным, "карэізаваным" прачытаннем шэкспіраўскага "Макбэта". Балет "Дафніс і Хлоя" прывязуць у Мінск артысты Нацыянальнага харэаграфічнага цэнтра Грэнобля (Францыя). На форуме будзе прадстаўлена рэжысёрская творчасць Оскараса Каршуноваса (Літва), Алвіса Херманіса (Латвія). Расіяне пакажуць работы двух тэатральных калектываў з Санкт-Пецярбурга....

На афішы — 14 назваў. Роўна палова — спектаклі чатырох калектываў з Польшчы, прытым як дадатковая праграма форуму дэкларуюцца Дні Люблінскага тэатра ў Мінску (27 — 29 кастрычніка). Паказ у шыкоўным міжнародным кантэксце сямі лепшых польскіх спектакляў з'яўляецца складнікам грандыёзнай праграмы "I, CULTURE", якой адзначае Польшча сваё сёлетняе старшынства ў Еўрасаюзе. Беларусы ўбачаць работу аднаго з найпапулярных маладых еўрапейскіх тэатраў "ТР Варшава" — спектакль "У нас усё добра" драматурга Дануты Маслоўскай і рэжысёра Гжэгажа Яжыны, дзе адну з роляў выконвае... 97-гадовая актрыса. Адкрыццём для нашай публікі будзе і пластычная імпрэза "Невідушчыя" польскага тэатра "КТО"...

Для нашых прыхільнікаў Мельпамены рыхтуе столькі сюрпрызаў!



# Аркестр чатырох

Станіслаў ЛУКА,
фота Леаніда Лейкі

Штогод юныя музыкі з Беларусі, Польшчы, Украіны і Эстоніі выпраўляюцца ў творчае турнэ па родных краінах у складзе міжнароднага маладзёжнага духавога аркестра "Версалінка". Сёлета яны наведалі Карэліцкі раён, у вёсцы Варонча выступілі з канцэртам.

У рэпертуары духавога аркестра — класічная музыка, творы сучасных аўтараў, а таксама аранжыроўкі вядомых публіцы песень савецкага перыяду. Як зазначыў адзін з арганізатараў творчага турнэ, старшыня Карэліцкай раённай арганізацыі Саюза палякаў на Беларусі Іосіф Улан, праект "Версалінка" заснаваны ў 2004 годзе, тады ён называўся "Версаль Падляскі". З 2006-га "лакаматывам" праекта стаў цэнтр "Кузня" з Беласточчыны. Яшчэ адзін аўтар і каардынатар праекта Томаш Чарнецкі нагадаў, што ў кожнай краіне, прадстаўнікі якой уваходзяць у склад аркестра, адбываецца шэраг канцэртаў — графік у юных артыстаў, трэба зазначыць, вельмі насычаны.

Сёлета ў аркестры іграюць 40 музыкаў і танцуюць 12 дзяўчынак. Беларусь у цяперашнім калектыве прадстаўляюць навучэнцы Карэліцкай дзіцячай школы мастацтваў, дырэктарам якой доўгі час быў Іосіф Улан, і Цырынскай ДМШ гэтага ж раёна. Аркестр кожны год змяняе свой склад, а ўдзельнікі знаёмяцца літаральна на першай рэпетыцыі. У музыкаў, якія раней нават не сустракаліся, размаўляюць на розных мовах, прыкладна толькі тыдзень, каб стаць сапраўдным аркестрам і, што называецца, сыграцца. Так што мовай для зносін становіцца музыка, якая — вось канкрэтны прыклад — яднае народы і краіны.

Вальдэмар Барусевіч, дырыжор Ломжынскага духавога аркестра (Польшча), які ў гэтым годзе ўвайшоў у склад калектыву, адзначыў, што праект, несумненна, "спрыяе нашаму супрацоўніцтву, дзелавой актыўнасці і беларуска-польска-эстонска-ўкраінскай інтэграцыі".

Канцэрт міжнароднага аркестра "Версалінка" паводле традыцыі заканчваецца пад бясконцыя апладысменты гледачоў прыгожым і ўрачыстым шэсцем музыкаў з адначасовым выкананнем папуры з вядомых мелодый, выступленнем мажарэтак і ўзняццем сцягоў чатырох краін — велічна і патрыятычна.

***На здымку: на Карэліцкай зямлі — сцягі краін, паяднаных музыкай.***

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

30 верасня 2011 г.

# Адукацыя: схаваны скарб

**Бібліятэка… З'ява, якая існуе ў жыцці грамадства на працягу тысячагоддзяў. Але ці разумеем мы яе так, як належыць, і якой яна павінна быць, каб адпавядаць сённяшняму часу і імкліваму рытму жыцця сучаснага чалавека? Пра ролю бібліятэк у грамадстве, пра іх інфармацыйныя тэхналогіі і культурныя каштоўнасці распавядае дырэктар Фундаментальнай бібліятэкі БДУ Пётр ЛАПО.**



**Пётр ЛАПО**

У гэтым годзе наша бібліятэка разам з універсітэтам святкуе свой 90-гадовы юбілей. Тое, што яна належыць да вядучай вышэйшай установы краіны і на працягу больш як 40 гадоў з'яўляецца метадычным цэнтрам сеткі бібліятэк ВНУ Беларусі, патрабуе ад яе супрацоўнікаў пастаяннага суаднясення з рэальнасцю сваіх поглядаў на месца і ролю бібліятэкі ў разнастайнай дзейнасці ВНУ, а таксама на шляхі эфектыўнага супрацоўніцтва і кааперацыі як унутры сеткі бібліятэк сістэмы вышэйшай адукацыі, так і з бібліятэкамі, якія належаць да іншых ведамстваў. Калі даць вельмі кароткую і абагульняючую характарыстыку тэндэнцый, якія існуюць сёння ў бібліятэчнай дзейнасці, то можна адзначыць наступнае. Аб'ём электронных інфармацыйных рэсурсаў у аб'ёме агульнага фонду, да якога маюць доступ карыстальнікі бібліятэкі, пастаянна павялічваецца. А ў некаторых выпадках аб'ёмы друкаваных і электронных дакументаў, даступных у бібліятэцы, параўнаны. Напрыклад, фонд друкаваных дакументаў ФБ БДУ налічвае каля 2 млн. экз., а электронных, большасць якіх размешчана ў даступных праз Інтэрнэт базах дадзеных навуковай і адукацыйнай інфармацыі, на якія штогод падпісваецца бібліятэка, складае каля 20900 паўнатэкставых часопісаў і газет, 1900000 дысертацый і 2500000 аўтарэфератаў.

Далей. Адна з самых актуальных задач беларускіх ВНУ сёння — гэта стварэнне і насычэнне сваіх уласных электронных бібліятэк (ЭБ), у якіх перш за ўсё змешчаны навуковыя працы супрацоўнікаў ВНУ, адукацыйныя матэрыялы, матэрыялы канферэнцый і навуковых часопісаў пры ВНУ і іншае. Зразумела, што ў стварэнні ЭБ ВНУ бяруць удзел не толькі бібліятэкары, але і шырокае кола супрацоўнікаў самых розных структурных падраздзяленняў ВНУ: кафедры, факультэты, выдавецтва, рэктарат і безумоўна, IT-спецыялісты. Стварэнне ЭБ і прадастаўленне адкрытага доступу да яе, як кажуць, кантэнту, — вельмі значная сёння справа для ВНУ, таму што існуе такая сусветная сістэма ранжыравання ВНУ, як вэбметрыкс (**http://www.webometrics.info**), у якой значная ўвага надаецца стварэнню ВНУ і даступнаму праз Інтэрнэт адукацыйнаму і навуковаму інфармацыйнаму рэсурсу.

Калі казаць пра папяровыя кнігі, то сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі таксама вельмі значна на іх паўплывалі. За мяжой бібліятэкі камплектуюцца электроннымі і аўдыякнігамі, прадастаўляюць сваім зарэгістраваным карыстальнікам магчымасць спампаваць іх з сайта бібліятэкі праз Інтэрнэт і прачытаць (ці праслухаць) на сваіх так званых гаджэтах (gadgets).

Таксама трэба адзначыць такую тэндэнцыю, як выкарыстанне ў бібліятэках інтэрнэт-тэхналогій для інфармавання карыстальнікаў пра паслугі і рэсурсы і прадастаўлення ім паслуг, створаных на аснове выкарыстання сучасных інфармацыйных тэхналогій. Прыкметай часу з'яўляецца таксама ўжыванне бізнес-тэрміналогіі (паслуга, карыстальнік, рынак, маркетынг і іншыя) у дачыненні да дзейнасці бібліятэк, хаця колькі гадоў таму самі платныя паслугі лічыліся для бібліятэчнай дзейнасці чымсьці недапушчальным.

Такім чынам, відавочна, што сучасныя тэхналогіі адыгрываюць вельмі значную ролю ў развіцці сучаснай бібліятэкі і вызначаюць узровень яе інфармацыйна-бібліятэчных паслуг, а сама бібліятэка робіць усялякія намаганні, каб стаць тэхналагічна адмысловым інфармацыйным цэнтрам.

> *«З аднаго боку, бібліятэка ўсё болей атаясамлівае сябе з бізнесам, маркетынгам, рынкам паслуг, з выкананнем планавых паказчыкаў аказання платных паслуг, як гэта ўжо ўвайшло ў практыку публічных і вясковых бібліятэк Беларусі, ці з выкананнем паказчыкаў экспарту інфармацыйных прадуктаў і паслуг, як гэта ўвайшло ў практыку рэспубліканскіх бібліятэк. З іншага боку, бібліятэка ў грамадстве спрадвеку мела культурна-асветніцкае прызначэнне.*

У той жа час бібліятэка — гэта культурна-асветніцкая ўстанова, і ў адпаведнасці з дзеючым законам "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь" фонд кожнай бібліятэкі з'яўляецца часткай Бібліятэчнага фонду Рэспублікі Беларусь, які ўваходзіць у склад культурных каштоўнасцей нашай краіны. І зразумела, што асноўная дзейнасць кожнай бібліятэкі сёння звязана з яе фондам — бібліятэка яго камплектуе, апісвае, захоўвае, інфармуе пра яго і забяспечвае доступ да яго з мэтай, як запісана ў дзеючым законе "Аб бібліятэчнай справе ў Рэспубліцы Беларусь", "задавальнення інфармацыйных, культурных, навуковых і іншых патрэбнасцей карыстальнікаў бібліятэкі".

Мы супрацоўнічаем з такімі структурнымі падраздзяленнямі ўніверсітэта, як, напрыклад, упраўленне выхаваўчай работы з моладдзю, упраўленне культуры, студгарадок, камітэты грамадскіх арганізацый, дэканаты, кафедры, а таксама з рознымі дзяржаўнымі ўстановамі і грамадскімі аб'яднаннямі ў галіне культуры, напрыклад, з рэдакцыямі выдавецтваў, Саюзам пісьменнікаў Беларусі, тэатрамі, музеямі і г.д. У сваёй асветніцкай рабоце са студэнтамі бібліятэка выкарыстоўвае такія формы, як літаратурна-мастацкія і літаратурна-музычныя вечары, інтэлектуальныя гульні, конкурсы, сустрэчы з паэтамі, пісьменнікамі, творчай і навуковай інтэлігенцыяй, прэзентацыі новых кніг, бібліяграфічныя і літаратуразнаўчыя агляды і інш. У бібліятэцы ёсць аддзел рэдкай і каштоўнай кнігі, дзе мы праводзім экскурсіі для студэнтаў і знаёмім іх з культурнай кніжнай спадчынай.

За апошнія два гады каля 30 бібліятэк ВНУ Беларусі, у тым ліку і ФБ БДУ, прайшлі сертыфікацыю на адпаведнасць сваёй сістэмы менеджменту якасці патрабаванням СТБ ISO 9001—2009.

Можна адзначыць, што дзейнасць сучаснай бібліятэкі вельмі разнастайная, і бібліятэкары робяць усё магчымае, каб іх праца адпавядала патрабаванням часу. А ён ставіць перад намі новыя пытанні і праблемы. Напрыклад, ёсць відавочная супярэчлівасць паміж тым, што, з аднаго боку, бібліятэка ўсё болей атаясамлівае сябе з бізнесам, маркетынгам, рынкам паслуг, з выкананнем планавых паказчыкаў аказання платных паслуг, як гэта ўжо ўвайшло ў практыку публічных і вясковых бібліятэк Беларусі, ці з выкананнем паказчыкаў экспарту інфармацыйных прадуктаў і паслуг, як гэта ўвайшло ў практыку рэспубліканскіх бібліятэк. З іншага боку, бібліятэка ў грамадстве спрадвеку мела культурна-асветніцкае прызначэнне. Працэсы агульнай інфарматызацыі ў грамадстве зрабілі інфармацыйную дзейнасць бібліятэк прыярытэтнай. Каб быць нават не паспяховай, а проста выглядаць прыстойна на рынку інфармацыйных паслуг, бібліятэка павінна прыцягваць IT-спецыялістаў, якія ў камерцыйных кампаніях за прыкладна такую ж працу атрымаюць шмат больш грошай. Больш таго, многія студэнты IT-спецыяльнасцей падчас вучобы на старшых курсах працуюць у IT-кампаніях. Відавочна, што прывабіць прафесійнага IT-спецыяліста да бібліятэчнай дзейнасці вельмі складана.

Таксама трэба адзначыць, што сёння ў глабальнай інфармацыйнай сетцы Інтэрнэт размешчана інфармацыя ў выглядзе тэксту, аўдыя- і відэазапісаў у разы большая, чым ва ўсёй сусветнай бібліятэчнай прасторы, а інфармацыйна-пошукавымі інтэрнэт-механізмамі накшталт Google насельніцтва планеты карыстаецца значна часцей, чым электроннымі каталогамі бібліятэк. Сучасная моладзь праводзіць больш часу за камп'ютарам, у так званых сацыяльных сетках, чым у чытальных залах бібліятэк. Калісьці бібліятэкі былі галоўным месцам трансляцыі ідэй і эмоцый праз змешчаную ў іх фондах літаратуру, а сёння бібліятэкары ўсё болей размаўляюць пра тэхналогіі, базы дадзеных, дакументы і г.д., а больш уплывовымі цэнтрамі трансляцыі ідэй і эмоцый сталі кінематограф,

> *«…прафесія бібліятэкара патрабуе не проста спецыяльнай падрыхтоўкі, але сапраўднай страсці, бязмежнай адданасці сваёй выдатнай справе, патрабуе добрай волі і гатоўнасці дапамагчы кожнаму, хто імкнецца да навучання».*

тэлебачанне, сацыяльныя сеткі. Сёння кожны, хто мае доступ да глабальнай сеткі Інтэрнэт і жаданне стаць аўтарам якога-небудзь опуса, мае магчымасць зрабіць яго даступным для сусветнай чытацкай аўдыторыі. Бібліятэкі таксама прысутнічаюць у сацыяльных сетках, іх супрацоўнікі ствараюць свае асабістыя блогі — у выніку павялічваецца колькасць віртуальных наведвальнікаў бібліятэк. Гэта ўсё добра, але складваецца ўражанне, што грамадства жыве ў сацыяльных сетках сваімі праблемамі, а бібліятэкі і бібліятэкары — сваімі.

На мой погляд, цяпер наступіў, як кажуць, "момант ісціны", калі бібліятэкарам трэба пераасэнсаваць сваю дзейнасць. Калісьці Андрэ Маруа ў сваім артыкуле "Бібліятэка" напісаў: "…прафесія бібліятэкара патрабуе не проста спецыяльнай падрыхтоўкі, але сапраўднай страсці, бязмежнай адданасці сваёй выдатнай справе, патрабуе добрай волі і гатоўнасці дапамагчы кожнаму, хто імкнецца да навучання".

Увасабляючы місію ФБ БДУ як чалавекаўтваральную дзейнасць, мы распрацавалі стратэгічны план развіцця бібліятэкі на 2011—2015 гг., у якім паспрабавалі ўлічыць усе акалічнасці, якія ўплываюць на фарміраванне асобы студэнта. Бібліятэка павінна не толькі задавальняць патрэбу студэнта ў неабходнай яму інфармацыі, але і садзейнічаць фарміраванню яго эстэтычнага густу і духоўных якасцей. Таму ў бібліятэцы кожная дэталь функцыянальная. Каб дзейнасць была паспяховай, трэба ўлічваць і яе месцазнаходжанне, і дызайн яе памяшканняў, і аснашчэнне мэбляю, камп'ютарнай і размнажальнай тэхнікай, сістэмамі кандыцыяніравання, асвятлення і забеспячэння адкрытага доступу карыстальнікаў бібліятэкі да яе фонду ў друкаваным і электронным фармаце, і добры стан самога фонду, і прафесіяналізм, чалавечыя якасці персаналу. Калі хто скажа, што бібліятэка цяпер не запатрабавана так, як раней, то, хутчэй за ўсё, такая бібліятэка не адпавядае сучасным патрабаванням.

Працягваючы традыцыі ўніверсітэцкай адукацыі, мы ставімся да сваіх студэнтаў як будучай эліты беларускага грамадства, якая пасля заканчэння БДУ будзе здольнай паспяхова вырашаць самыя розныя пытанні, а таксама садзейнічаць паступоваму развіццю беларускага грамадства і "пачэснаму яго пасагу" паміж іншымі народамі. Калі ўніверсітэты ў XIX ст. бачылі сваёй задачай фарміраванне ў выпускніках ідэй джэнтльмена, то мы, бібліятэкары БДУ, хацелі б бачыць у сваіх студэнтах і выпускніках такія сфармуляваныя пецярбургскім прафесарам А. В. Сакаловым якасці інтэлігента, як адукаванасць і кніжную культуру; крэатыўнасць; альтруістычнае, этычнае самавызначэнне і ўсведамленне грамадскага абавязку, камунікацыйнай талерантнасці і глыбокай пашаны перад Культурай. На наш погляд, менавіта яны будуць надзейнай базай для таго, каб "навучыцца пазнаваць; навучыцца рабіць; навучыцца жыць разам і, такім чынам, пазбегнуць будучых пагроз (фінансавых, экалагічных і іншых крызісаў, узброеных канфліктаў і тэрарызму) для чалавецтва з боку самога чалавецтва". Менавіта такія якасці асобы чалавека былі сфармуляваны Жакам Дэлорам у дакладзе міжнароднай камісіі ЮНЕСКА па адукацыі для XXI стагоддзя "Адукацыя: схаваны скарб".

***На здымку:** дырэктар Фундаментальнай бібліятэкі БДУ Пётр Лапо.*

# Шляхам знакамітага земляка

## Рэгіянальная кніжніца ў новым фармаце

Алена БЯРЭЗІНА,
фота аўтара

**Дырэктар Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева Галіна Слесарэнка ў 1998 годзе стала лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва, у 2008 годзе ёй была абʼяўлена Падзяка Прэзідэнта, а 25 студзеня 2011 года распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі за выдатны ўнёсак у сацыяльна-эканамічнае развіццё нашай краіны ўстаноўлена персанальная надбаўка да заработнай платы. Такую высокую ацэнку кіраўніка дзяржавы Галіна Міхайлаўна атрымала за распрацоўку канцэпцыі ўстановы новага тыпу — бібліятэкі як сацыякультурнага цэнтра.**



"Бібліятэка як сацыяльны інстытут, які назапашвае, захоўвае, сістэматызуе і перадае шырокаму колу людзей інфармацыю, з цягам часу развіваецца і трансфармуецца, — лічыць Галіна Міхайлаўна. — Барысаўская бібліятэка выбрала шлях сацыякультурнага цэнтра, на базе якога рэалізуецца шэраг праектаў".

Што гэта за праекты?

### Шляхам знакамітага земляка

У 2008 годзе бібліятэцы было прысвоена імя І. Х. Каладзеева — вядомага барысаўскага бібліяфіла, мецэната, прыхільніка гісторыі вайны 1812 года, які сабраў найбуйнейшую ў Еўропе калекцыю літаратуры адпаведнай тэматыкі і зрабіў шмат дзеля ўвекавечання памяці воінаў, што загінулі на Бярэзіне. Супрацоўнікамі залы беларусікі і краязнаўства вядуцца далейшыя даследаванні жыцця, дзейнасці Івана Хрысанфавіча, яго ролі ў развіцці Барысава. Ідучы шляхам знакамітага земляка, пачалі збіраць сваю калекцыю кніг па вайне 1812 года, якая налічвае ўжо больш як 400 экземпляраў. Ёсць сярод іх рарытэтнае выданне на французскай мове, набытае на аўкцыёне ў Парыжы сябрамі бібліятэкі. З 2009 года ў бібліятэцы штогод праходзяць Міжнародныя Каладзееўскія чытанні, у якіх прымаюць удзел вучоныя-гісторыкі з Беларусі, Расіі, Францыі. Вялікія планы ў бібліятэкі да 200-годдзя бітвы на Бярэзіне, якое будзе адзначацца ў 2012 годзе.

### Духоўнасць і здаровы лад жыцця

Работа бібліятэкі Барысава ў сферы духоўнага асветніцтва высока ацэнена Беларускай праваслаўнай царквой — у 2011 годзе Галіне Слесарэнцы Мітрапалітам Філарэтам, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі ўручаны медаль Святой Прападобнай Еўфрасінні Полацкай.

— У 2003 годзе па блаславенні Уладыкі стварылі філіял — бібліятэку праваслаўнага чытання "для духоўнай карысці грамадзянам старажытнага града", — расказвае Галіна Міхайлаўна. — Прайшоў час, і мы зразумелі, што філіял трэба рэарганізаваць, пашырыўшы яго магчымасці. Справу падтрымаў Барысаўскі райвыканкам. Так узнікла ідэя духоўна-асветніцкага цэнтра, які і быў адкрыты ў 2008 годзе падчас урачыстасцей з нагоды Дня беларускага пісьменства.

У цэнтры сабраны багаты матэрыял пра станаўленне духоўнасці і пісьменства ў Беларусі. Сёння яго кніжны фонд налічвае каля 9 тысяч экземпляраў, — дарэчы, частку кніг падарыў сам Уладыка.

Штодня тут праходзяць лекцыі, сустрэчы святароў з барысаўчанамі, працуе нядзельная школа для ваеннаслужачых. І трэба бачыць вочы маладых салдат, калі бібліятэкар Святлана Ярцава, якая вучыцца ў Маскоўскім Свята-Ціханаўскім гуманітарным універсітэце па спецыяльнасці "Тэалогія", адкрывае перад імі аспекты духоўнага жыцця! Створаны жаночы клуб "Славянка", які абʼядноўвае жанчын на традыцыях праваслаўя, а таксама дзіцячае культурна-спартыўнае грамадскае абʼяднанне "Гарызонт". 120 хлопчыкаў і дзяўчынак гуляюць у праваслаўным міні-футбольным клубе, і ўсе як адзін вядуць здаровы лад жыцця: у "Гарызонце" прынята падпісваць своеасаблівую дамову пра адмаўленне ад шкодных звычак.

— Цяпер у Беларусі рэалізуецца Дзяржаўная праграма па развіцці культуры ў 2011—2015 гадах, — рэзюмуе Г. Слесарэнка. — У рамках яе на тэрыторыі Барысаўскага рэгіёна мы запускаем новы праект — "Бібліятэка — цэнтр духоўна-маральнага развіцця і сацыякультурнай рэабілітацыі асобы".

### Лепшыя мастацкія зʼявы — у «Зʼяве»

Напрыканцы 1990-х цэнтральная гарадская бібліятэка Барысава адкрыла выставачную залу, узяўшы на сябе яшчэ адну функцыю: абʼядноўваць вакол адзінага цэнтра творчую інтэлігенцыю.

— Ідэя атрымала настолькі паспяховае развіццё, што мы хутка перараслі фармат выставачнай залы, — распавядае Галіна Міхайлаўна. — Нядаўна на яе базе была адкрыта мастацкая галерэя "Зʼява". Цяпер у нас штогод праходзяць дзясяткі выстаў айчынных і замежных майстроў. Нашы мастацтвазнаўцы стараюцца запрашаць у Барысаў вядомых мастакоў, каб мясцовы глядач змог пазнаёміцца з самымі рознымі напрамкамі жывапісу. Да прыкладу, у красавіку адбылася выстаўка сучаснай беларускай графікі, а ў маі да нас прывезла свае работы студыя ваенных мастакоў. Дарэчы, выставачны графік нават на 2012 год ужо распісаны — гэта сведчыць пра аўтарытэт галерэі. З мінулагодніх паказаў наведвальнікам асабліва запомнілася выстаўка нашага земляка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі У. Шкарубы, а таксама выстаўка, прысвечаная памяці другога нашага славутага земляка — скульптара А. Анікейчыка. Спадабаліся і работы, прывезеныя з Зембіна, — іх падарыла гораду французская мастачка беларускага паходжання Надзея Лежэ. Мастацкая галерэя "Зʼява" цесна супрацоўнічае з пасольствамі Францыі, ЗША, Ізраіля ды іншых краін.

### «Не спыняцца на дасягнутым»

Такі адзін з галоўных жыццёвых прынцыпаў Галіны Слесарэнкі і калектыву, які яна ўзначальвае. Сёлета атрымаюць далейшае развіццё ўсе творчыя праекты, у тым ліку "Мясцовая ўлада, бібліятэка, насельніцтва", "Бібліятэка — мемарыяльны цэнтр" ды іншыя. Пачаў рэалізоўвацца новы актуальны праект — "Бібліятэка як інфармацыйны цэнтр гісторыка-культурнага турызму". Падпісана пагадненне з аграсядзібай "Бівак" пра сумесную распрацоўку тэматыкі вайны 1812 года і прадастаўленне краязнаўча-турыстычных паслуг. А пакуль што госці Барысава могуць наведаць разгорнуты ў самой бібліятэцы выставачны комплекс "Бібліяглобус" і такім чынам пазнаёміцца са славутасцямі Барысаўшчыны і Міншчыны. Бібліятэцы ёсць чым зацікавіць нават тых, хто прызвычаіўся даследаваць свет, не адыходзячы ад кампʼютара: тут створаны свой віртуальны музей.

***На здымку: Г. Слесарэнка ў духоўна-асветніцкім цэнтры бібліятэкі.***

# Тэрыторыя творчасці



**У Лунінецкай раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэме прайшоў агляд-конкурс пад назвай "Бібліятэка — тэрыторыя творчасці".**

Таццяна КАРПУКОВІЧ

Па выніках агляду-конкурсу ў актавай зале цэнтральнай раённай бібліятэкі была арганізавана вялікая маляўнічая выстаўка дэкаратыўна-прыкладной творчасці, на якой былі прадстаўлены шматлікія вырабы з самых разнастайных матэрыялаў: драва, паперы, тканіны, бісеру, пластыку, цеста і нават з макароны. І ўсё гэтае хараство зроблена рукамі бібліятэкараў і чытачоў. Конкурс выявіў незвычайную фантазію і выдатнае майстэрства ўдзельнікаў.

Пры падвядзенні вынікаў улічваліся арыгінальнасць і мастацка-эстэтычны ўзровень вырабаў; выкарыстанне творчых вырабаў у інтэрʼеры бібліятэкі і мастацкім аздабленні кніжна-ілюстраваных выставак; сувязь прадстаўленага матэрыялу з папулярызацыяй літаратуры.

Сярод бібліятэкараў дыпломамі і граматамі за арганізацыю творчых клубаў і за выкарыстанне прадметаў дэкаратыўна-прыкладной творчасці ў інтэрʼеры бібліятэкі ўзнагароджаны А. Радзюк (цэнтральная дзіцячая бібліятэка), Л. Цімашэй (Лунінская сельская бібліятэка), Г. Кановіч (Міжлеская сельская бібліятэка), Т. Трэсцін (Перуноўская сельская бібліятэка), увесь калектыў Мікашэвіцкай гарадской бібліятэкі. Сярод чытачоў лепшымі прызнаны работы В. Цішанінава, А. Каспаровіч (цэнтральная раённая бібліятэка), М. Трушко (Чэрабасаўская сельская бібліятэка), А. Наварыч (Вялуцкая сельская бібліятэка). За арыгінальныя вырабы ў намінацыі "Бібліятэкар — творчая асоба" адзначаны Т. Давідовіч (Мікашэвіцкая дзіцячая бібліятэка), С. Бірыла (Рэдзігераўская сельская бібліятэка), Л. Карповіч (Дрэбская сельская бібліятэка). А самым творчым бібліятэкарам аднадушна прызнана дырэктар РЦБС Н. Радзіяновіч — ініцыятар конкурсу і аўтар "макароннай фантазіі".

Мы ведаем, чым відовішчней, ярчэй і арыгінальней будзе наш падыход да працы, тым больш чытачоў прыйдуць да нас яшчэ і яшчэ раз. Вось і атрымліваецца, што кругагляд бібліятэкара павінен быць бясконцы, а творчая фантазія — невычэрпная.

# З «Вясёлкай» разам

Дар'я ШОЦІК

**Вядомы аргенцінскі празаік, паэт і публіцыст Хорхе Луіс Борхес сказаў: "І ўбачыў я рай падобны да бібліятэкі". Такім раем для дзяцей і падлеткаў стала Мінская дзіцячая бібліятэка № 6 імя Васіля Віткі. Загадчык яе — Тамара Патук. Гэта адна з найстарэйшых скарбніц у цэнтралізаванай сістэме дзіцячых бібліятэк, якая пачала працу ў лістападзе 1967 года.**

Тут прыкладна 5400 чытачоў, 38000 наведванняў у год. Мастак Уладзімір Жук намаляваў на акне будынка Васю Вясёлкіна, таго самага, якога прыдумаў яшчэ Васіль Вітка, беларускі казачнік. Імя знакамітага беларускага паэта, класіка дзіцячай літаратуры прысвоілі кніжніцы ў гэтым годзе.

Загадчык сектара бібліятэкі Зінаіда Драбеня расказвае: "Доўга супрацоўнічалі з рэдакцыяй часопіса "Вясёлка", яго галоўным рэдактарам Уладзімірам Ліпскім. Праводзілі самыя розныя мерапрыемствы, акцыі. Выклікала цікавасць акцыя "Чараўнік з краіны маленства" — да 100-годдзя нараджэння В. Віткі. Заўважнымі сталіся цыклы мерапрыемстваў "У дзядулі Васіля вельмі чулая душа" — чытанні ўслых, "Свята духоўнасці В. Віткі" — сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі (У. Ліпскім, М. Маляўкам, М. Чарняўскім), "Ушануем добрага казачніка" — урачыстае свята, прысвечанае прысваенню бібліятэцы імя В. Віткі.

Бібліятэка вядзе працу з дзецьмі і падлеткамі. Адна з праграм, па якіх працуе бібліятэка — "Тут сэрцу дзіцячаму цёпла", — накіравана на прываблíванне дзяцей да чытання. Таму супрацоўнічаем з аддзелам культуры Адміністрацыі Маскоўскага раёна, Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры, музеямі Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, з выдавецтвамі "Мастацкая літаратура" і "Літаратура і Мастацтва". Другая праграма — "Бібліятэка — цэнтр адраджэння нацыянальнай культуры, літаратуры, народных традыцый і абрадаў рэгіёнаў абслугоўвання". У рэалізацыі праграмы "За здаровы лад жыцця" дапамога ідзе з розных бакоў, у тым ліку з Рэспубліканскага цэнтра барацьбы са СНІДам".

— Нашых чытачоў, — зазначае Зінаіда Уладзіміраўна падчас вандроўкі па бібліятэцы, — акрамя паліц з рознакаляровымі кнігамі і часопісамі прывабліваe яшчэ і лялечны тэатр "Пацешка", першай лялькай якога была жабка. Яна і па сённяшні дзень застаецца нашым талісманам. Лялек у нас каля трыццаці...

Сёння дзіцячая бібліятэка № 6 прапануе дзецям і падлеткам усё самае лепшае. Чытальная зала, перыёдыка, мультымедыйная зала, дзе ёсць камп'ютары з выхадам у Інтэрнэт, — усё гэта новыя магчымасці апошніх гадоў. Маецца электронная база дадзеных — "Я вяду бацькоў гуляць па горадзе Мінску", "Вайна ў памяці мінскіх вуліц", "Зберажы сябе для жыцця", "Вяртанне да вытокаў" і "Хойнікі".

У бібліятэцы ёсць філіял музея часопіса "Вясёлка", у ім знаходзіцца першы нумар часопіса, які выйшаў у красавіку 1957 года. "Вясёлка наша мілая, малюем сонца ўсход, малюем хмары дзіўныя і кветак карагод" — гэтыя радкі, напісаныя Э. Агняцвет, размешчаны на сцяне каля карты "Вясёлка". Маюцца і фотаздымкі рэдактараў, якія ўзначальвалі часопіс — заснавальнік Васіль Вітка, Еўдакія Лось, Анатоль Грачанікаў, Уладзімір Ліпскі. На ўрачыстым адкрыцці музея і прысваенні бібліятэцы ганаровага імя Васіля Віткі сваякі перадалі ў музей яго рэчы. Акрамя гэтага маюцца рукапісы пісьменніка: "Хто памагае сонцу", "Зямля ў патроне".

Дзіцячая бібліятэка № 6 імя Васіля Віткі запрашае дзяцей і падлеткаў здзейсніць падарожжа па краіне кніг і чытання, абавязкова наведаць філіял музея часопіса "Вясёлка", прыняць удзел у самых розных мерапрыемствах, убачыць лялечны тэатр "Пацешка" і ўсёй вясёлай, шчаслівай сям'ёй прыйсці па новыя выданні.




# «Бярозка» пад нумарам 1000

Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ

**"Бярозка" пад ганаровым, тысячным нумарам, увабраўшы ў сябе водар верасня, размясціла апавяданні і вершы на школьную тэму. Ну, і, вядома, свае традыцыйныя рубрыкі: музычны "Дынамік", выяўленчы "Вернісаж", "Беларуская міфалогія".**

Паэт Рагнед Малахоўскі, які ўзначальвае часопіс, у сваім урачыстым звароце ўзгадвае легендарных аўтараў з гісторыі выдання: у "Бярозцы" працавалі Уладзімір Дубоўка, Алесь Якімовіч, Кастусь Кірэенка, Васіль Зуёнак, Анатоль Грачанікаў, Вячаслаў Адамчык. А друкаваліся тут такія славутыя асобы, як Максім Танк, Кузьма Чорны, Янка Маўр, Іван Шамякін, Пімен Панчанка, Васіль Быкаў ды іншыя.

У рубрыцы "Проза" працягваюцца сустрэчы з авечкай Адэляй — "Лёс маіх валёнкаў" (казка Наталлі Бучынскай).

Рускі празаік Мікалай Грэбнеў падараваў беларускаму чытачу апавяданне "Цімошка". А Хведар Жычка, якога ўжо няма з намі, пісьменнік ваеннага пакалення ўваскрос у сучасным і сёння "школьным" апавяданні "Настаўніца". Галіна Пшонік з чарговай мудрай казкай працягвае сваю рубрыку і зноў прапаноўвае: "Прачытай малодшаму".

Творчасць Валянціна Лукшы прадстаўлена паэтычнай падборкай "Як нялёгка веды здабываць…" Рубрыка "Класіка" знаёміць тынэйджараў з паэтам Міхасём Стральцовым. Ну, а "зялёнае" пакаленне творцаў прадстаўлена на гэты раз вершамі ўдзельнікаў літаратурнага аб'яднання прыхільнікаў паэзіі "Верасок" Ганцавіцкага раённага цэнтра дзіцячай і юнацкай творчасці.

Рубрыка "Надзённае" распавядае пра навіны новага навучальнага года: змены ў Кодэксе аб адукацыі, увядзенне нетбукаў і рыдараў у вучэбны працэс, новыя іспыты і канчатковае замацаванне новых правілаў арфаграфіі.

Чарговы творчы конкурс "Бярозкі" — "Энергія нашай будучыні" — падштурхоўвае юных празаікаў, паэтаў, журналістаў рэалізоўваць і развіваць свой талент.

Надзвычай цікавай і яркай атрымалася падборка публіцыстычных тэкстаў. У інтэрв'ю са скульптарам Канстанцінам Дударавым і тэхнолагам Віктарам Шаўцовым "Стальная спадчына" Марына Весялуха разбіраецца з інтарсам да сярэднявечных даспехаў, што распаўсюдзіўся ў дваццаць першым стагоддзі. "Тэатральны этыкет: арыентаванне на мясцовасці" — гумарны расповед Алены Мальчэўскай пра тое, што варта і чаго не варта рабіць у тэатры.

Таксама чытайце ў "Бярозцы" пра беларускую эстрадную спявачку Алёну Ланскую, фестываль сучаснай гітарнай музыкі "Грыфаманія" і тое, як старажытнае і працаёмкае мастацтва дыванаткацтва спасцігаюць беларускія школьнікі.

# Паспяховыя людзі

Алег АНАНЬЕЎ

**Сёння чалавецтва сутыкнулася з праблемай, пра якую даўно папярэджвалі сацыёлагі: зніжэнне цікавасці да чытання. Так, у любой прафесіі не абысціся без ведаў, без новых інфармацыйных тэхналогій, таму падручнікі не страцілі сваёй актуальнасці. Але мастацкай кнізе даводзіцца змагацца за аўдыторыю з тэлебачаннем, кіно, Інтэрнэтам.**

"Як зрабіць чытанне патрэбай?", "Чаму сышла дзіцячая і юнацкая класіка, якія кнігі прыйшлі ёй на змену?", "Ці можа Інтэрнэт зацікавіць чытаннем?", "Ці існуюць дзейсныя методыкі фарміравання каштоўнасных адносін да чытання?" Гэтыя актуальныя праблемы рэгулярна выносяцца на семінары і канферэнцыі, усхвалявана абмяркоўваюцца супрацоўнікамі бібліятэк.

Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкай імя У. І. Леніна набыты пэўны вопыт папулярызацыі кнігі і чытання.

І тут асабліва важна цікавасць да кнігі выхаваць з самага ранняга ўзросту. Пра гэта мы гаварылі з супрацоўнікамі аддзела абслугоўвання чытачоў 1—5 класаў і дашкольнікаў ў дні святкавання 20-гадовага юбілею клуба сяброў кнігі "Чамучкі".

Гэты клуб вядзе сваю гісторыю з 1991 года — таго самага, калі канчаткова стала ясна, што разам з традыцыйнымі метадамі працы неабходна выкарыстоўваць і наватарскія.

"Прывабіць школьніка да чытання азначае вырашыць пытанні занятасці вольнага часу, — распавядае загадчыца аддзела Надзея Мельнікава. — Перш за ўсё, мы ўлічваем псіхалагічныя асаблівасці пэўнага школьнага ўзросту: ад 6 да 12 гадоў".

Каб адбылося знаёмства навучэнцаў з кнігай, неабходная ўніверсальная форма, якая аб'ядноўвае рознаўзроставых дзяцей. Яны з задавальненнем удзельнічаюць ў віктарынах, турнірах, літаратурных падарожжах. Кожны падлетак можа праявіць свае здольнасці, пашырыць кругагляд праз гульню, праз святочны прадстаўленні, тэатралізаваныя пастаноўкі твораў класікаў.

У бібліятэцы нарадзілася і атрымала развіццё ідэя "Тэатра кнігі". Гэта сваёго роду пераклад літаратурнага тэксту на асаблівую сцэнічную мову. Робіцца для таго, каб з глядзельнай залы падлетак прыйшоў пасля ў залу чытальную.

Як распавядае галоўны бібліятэкар Валянціна Лук'янава, якая з'яўляецца кіраўніком клуба "Чамучкі", такая "тэатралізацыя" кнігі не з'яўляецца дакладным паўторам арыгінала. Абавязкова застаецца нейкая недаказанасць, якая падштурхоўвае гледачоў да чытання кнігі. Да таго ж, пераўвасабленне ў літаратурныя персанажы вельмі падабаецца дзецям, развівае іх творчыя здольнасці, фантазію".

У ролі акцёраў выступаюць бібліятэкары і навучэнцы. Захоплена і з вялікай адказнасцю хлопчыкі і дзяўчынкі ўдзельнічаюць у інсцэніроўках па старонках любімых кніг А. Ліндгрэн, Х. К. Андэрсена, Э. Успенскага, М. Носава, В. Драгунскага, П. Міську...

Традыцыйнымі сталі тэатралізаваныя паказы: "Наваго́дняя казка", "Кніжкіны імяніны", "8 Сакавіка", "Свята восені", "Кветкавы кірмаш"...

Бібліятэка мае вялікі вопыт узаемадзеяння з рознымі арганізацыямі. Заняткі клуба гарманічна дапаўняюць выступленні творчых калектываў, з якімі ўсталяваліся сяброўскія адносіны. Гэта вакальныя студыі, Дом дзіцячай творчасці, абласная філармонія. Наваго́днія спектаклі ў выкананні "чамучак" і пры ўдзеле артыста абласной філармоніі У. І. Юрлова карыстаюцца вялікай папулярнасцю як у дзяцей, так і ў бацькоў.

"Заўсёды рады бачыць ў бібліятэцы разам з дзецьмі бацькоў, — распавядае бібліятэкар Вольга Стацэнка. — Сёння сем'і прыходзяць у бібліятэку не толькі па кнігі, яны ідуць сюды, каб знайсці падказку, атрымаць параду ці проста пагутарыць".

Сродкам папулярызацыі кнігі сталі і новыя інфармацыйныя тэхналогіі. Тут шырока выкарыстоўваюцца электронныя рэсурсы, сустрэчы суправаджаюцца музыкай, праглядам відэаматэрыялаў. Так, пры знаёмстве з кнігамі Эдуарда Успенскага хлопчыкі і дзяўчынкі здзейснілі віртуальнае падарожжа ў госці да пісьменніка і даведаліся пра шлях стварэння любімых кніг; адправіліся разам з Бурацінам да яго італьянскага брата Пінокіа; адказалі на пытанні медыявіктарыны па казках Андэрсена ад Оле-Лукойе...

Якія б тэхналогіі ні з'яўляліся, як бы ні краналі нас праблемы крызісу, а чытанне на любых носьбітах — неабходны элемент развіцця ўдумлівага чалавека. Гэта ўнікальны працэс, здольны зрабіць з чалавека асобу, якая ўмее адчуваць, суперажываць, думаць...

Актыў клуба "Чамучкі" складаюць трыццаць юных чытачоў. Склад клуба з года ў год абнаўляецца... Знамянальнай падзеяй стала вераснёўская сустрэча-бенефіс "Тут кожны чытае і кожны марыць...". Адзначыць 20-годдзе клуба сабраліся пасталелыя "чамучкі", якія прыйшлі разам са сваімі дзецьмі...

На юбілейнай сустрэчы былыя "чамучкі" падзяліліся цёплымі ўспамінамі пра сустрэчы ў сценах бібліятэкі. Андрэй Савосцін вучыцца ў Гомельскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце, Раіса Ціханава — у Гомельскім дзяржуніверсітэце імя Ф. Скарыны. Марына Карпусь, музычны кіраўнік дашкольнай установы № 149 г. Гомеля, паведаміла, што яе дзеці — заўсёднікі клуба — упэўнена асвойваюць прастору дарослага жыцця: Андрэй вучыцца ў рачным вучылішчы, Вольга — студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.

Актывістка клуба Лідзія Грыцкова, педагог па прафесіі, рэгулярна наведвае бібліятэку разам са сваімі ўнукамі Ягорам і Віцем. Шмат душэўных слоў у падтрымку клуба выказала і выкладчык Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны Людміла Мажаева, якая разам са сваёй дачкой Насцяй удзельнічае ў розных інтэлектуальных акцыях бібліятэкі.

Хтосьці лічыць, што "чытаць — гэта модна!" Іншыя перакананы: "Чалавек, які чытае, — гэта чалавек паспяховы", "Чытач — чалавек культурны". І ў тым, і ў іншым выпадку разумееш: бібліятэка перастала быць проста месцам кніжных сховішчаў. У яе сценах нараджаюцца цікавыя праекты па папулярызацыі кнігі і чытання.

Першы крок

# Гэта наша нацыянальная рыса

**Сваім першым досведам ад наведвання бібліятэк дзеліцца акадэмік Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ:**

Я ў школу пайшоў у 1944 годзе. Мне тады яшчэ не споўнілася 7 гадоў, бракавала некалькі месяцаў. Але не хацеў адставаць ад сяброў — хлопцаў, якія былі трохі старэйшымі за мяне. І я папрасіўся ў школу. Было нялёгка, бо школа раней не працавала, і назбіралася вельмі шмат дзяцей, якія не вучыліся, хоць па ўзросце трэба было. Дык у класе было, можа, чалавек 60 — вельмі шмат.

У бібліятэку я пайшоў, як толькі навучыўся чытаць. Зразумела, у школьную, таму што сваёй не было. Прызнаюся, што першая кніга, якую я ўзяў у рукі, была "Хаціна дзядзькі Тома" Гарыет Бічэр-Стоў — на рускай мове. Яе мне далі хрысціяне-баптысты, якія жылі ў нашай вёсцы. Гэта кніга якраз адпавядала мяккаму евангельскаму духу гэтага адгалінавання хрысціянства. Яна, па-мойму, нават была адаптаваная. Пры гэтым я чытаў уголас, каб пачулі ўсе хатнія, баба з дзедам — яны прасілі чытаць і вельмі перажывалі за герояў. Потым трапіў да мяне зборнік апавяданняў. Нават помню сюжэт аднаго з іх. Жанчына вяртаецца дадому і бачыць, што ў хаце нехта ёсць. Яна зразумела, што гэта злодзей ці бандыт. Устрывожаная, пачала маліцца. І столькі малілася, што бандзюга памякчэў, вылез са схowішча і сказаў, што паверыў у Бога… Рэлігійная літаратура неяк больш трапляла ў рукі. А яшчэ ў 1944 годзе праз нашу вёску прайшлі каўпакаўцы. Іх вёў генерал Пятро Вяршыгара. Яны забралі ў дзеда кабылу, а замест яе далі кнігу. Гэта была "Вясёлка" Ванды Васілеўскай.



Далей — болей. У школьнай бібліятэцы былі беларускія часопісы, можна было знайсці творы беларускіх аўтараў, нашых класікаў: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Лынькова, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Петруся Броўкі. Асабліва напісаныя ў час вайны. Яны такія пранікнёныя! У школе я захапіўся кнігамі па геалогіі. Быў такі геолаг — акадэмік Уладзімір Обручаў, аўтар "Зямлі Саннікава". І ў выніку я вырашыў стаць геолагам. Нават паступаў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт на геолагагеаграфічны факультэт.

Цяпер у мяне дома шмат кніг. Усё запар не чытаю. Нешта перачытваю. Але заўважыў цікавую асаблівасць: калі чалавек пастарэў, ён ужо накапіў столькі матэрыялу, столькі жыццёвага вопыту, што можа думаць над тым, што мае з накопленага. Мажліва, у гэтым нямёмка прызнавацца, але пісьменніка цяжка нечым здзівіць. Хаця кніга для мяне заўсёды была чымсці святым, я не мог кнігу кінуць, парваць. Такія сакральныя адносіны, такая павага! Я думаю, што гэта наша нацыянальная рыса, якая ідзе ад тых брацкіх школ сярэдняевечных, дзе вучылі грамаце. Яны захоўвалі нашу нацыянальную ідэнтыфікацыю: нашу веру, нашы погляды, адносіны да навакольнага свету, нас саміх.

# У госці да навасёлаў

Марта ХУДАЛЕЙ

**У Гатаўскую сельскую бібліятэку, што ў Гленскім раёне, я завітала суботнім ранкам, але, нягледзячы на такі час, тут было ўжо шмат наведвальнікаў. У прасторным, утульным будынку зручна размясціліся і дарослыя, і зусім яшчэ маленькія чытачы. Але так было не заўжды… Літаральна год таму супрацоўнікі бібліятэкі і наведвальнікі былі вымушаны туліцца ў невялічкім закутку ў пад'ездзе жылога дома. Пра тое, як змянілася жыццё пасля пераезду ў новы будынак, расказвае загадчык бібліятэкі Іна Урбан.**

— Мы з нецярпеннем чакалі гэтага моманту. У старым будынку было мала месца, прыйдзе некалькі чалавек — і бібліятэка перапоўнена. Цяпер сітуацыя значна змянілася. Маем магчымасць арганізаваць сустрэчу з пісьменнікамі, проста пагутарыць у прыемнай атмасферы з самымі актыўнымі чытачамі і пры гэтым быць упэўненымі, што месца хопіць усім. Не магу сказаць, што раней гэтага не было: праводзілі і сустрэчы, і мерапрыемствы, але размах, колькасць удзельнікаў была значна меншай.

**— Бясспрэчна, і працы цяпер у вас стала больш…**

— Больш, але гэта цудоўна. Цяпер у нас ёсць асобны пакой, дзе можна арганізоўваць разнастайныя гурткі. Працуем па розных праграмах: гэта прафілактыка наркаманіі і СНІДу, прапаганда здаровага ладу жыцця. Вядзецца работа з падлеткамі і дзецьмі з праблемных сем'яў. Я нярэдка запрашаю гэтых дзяцей у бібліятэку, мы размаўляем на розныя тэмы, тым больш што для гэтага ёсць усе ўмовы.

**— Напэўна, нялёгка прыцягнуць у бібліятэку "цяжкіх" падлеткаў, знайсці да іх ключык?**

— Так, часам гэта бывае нялёгка, але магчыма. І ведаеце, што дзіўна? Калі з кожным з гэтых дзяцей размаўляць, яны пачынаюць раскрывацца. Яны задаюць пытанні, якія іх цікавяць, мы падбіраем неабходную літаратуру, шукаем адказы. Такім падлеткам часам неабходна проста цёплая чалавечая размова ва ўтульнай атмасферы. Я рада, калі атрымліваецца чымсці дапамагчы, няхай гэта дапамога будзе невялікая і падлетак у мяне прабудзе усяго гадзіну, але, магчыма, нешта дрэннае пройдзе міма яго.

**— Іна Аляксандраўна, помніцца, калі бібліятэка размяшчалася ў старым будынку, рэдкаю была магчымасць нешта пачытаць у самой бібліятэцы.**

— Так, тады было цяжкавата, цяпер ёсць чытальная зала, мы заўсёды рады бачыць у ёй нашых чытачоў. Разам з тым, па-ранейшаму носім літаратуру дадому тым, для каго гэта неабходна: пенсіянерам, людзям з абмежаванымі магчымасцямі. Прыемна, што людзі цікавяцца літаратурай нават у век высокіх тэхналогій і Інтэрнэта, і хочацца верыць, што так будзе яшчэ на працягу многіх гадоў.

# За подпісам маці Тэрэзы

Валянціна ШЧАКАЧЫХІНА, метадыст ЦГБ імя А. І. Герцэна

**У Гомелі пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. І. Герцэна адкрыўся Музей аўтографа. Ён стаў своеасаблівым падарункам гораду ў яго 869-ы дзень нараджэння.**

Бібліятэкары цягам многіх гадоў беражліва захоўвалі кнігі з дарчымі надпісамі аўтараў, большую частку якіх складалі творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. У апошнія некалькі гадоў калекцыя значна папоўнілася аўтографамі знаных людзей, якія ўпісалі свае імёны ў гісторыю горада над Сожам.

У экспазіцыі прадстаўлены аўтографы ганаровых грамадзян, ветэранаў, гасцей горада, афіцыйных асоб, дзеячаў навукі, вядомых артыстаў і музыкантаў, прызёраў алімпійскіх гульняў. Частка экспанатаў паступіла ў музей у межах праекта "Гомель — культурная сталіца Беларусі і СНД 2011 года", шмат падарылі бібліятэцы гамяльчане.

Сёння ў сістэматызаванай калекцыі аўтографаў вядомых людзей налічваецца больш як 600 экспанатаў. Сярод іх наведвальнікі бібліятэкі змогуць убачыць аўтографы Архіепіскапа Гомельскага і Жлобінскага Арыстарха, кардынала Казіміра Свёнтака, маці Тэрэзы, маршала Сямёна Будзённага, касманаўтаў Юрыя Гагарына, Германа Цітова, Георгія Грэчкі, дзеячаў культуры і мастацтва — кінарэжысёра Кшыштафа Занусі, Уладзіміра Мулявіна, Ігара Лучанка, Юрыя Антонава, Аркадзя Арканава, Алега Басілашвілі, Юрыя Башмета і інш.

Самы вялікі раздзел экспазіцыі складае літаратурны аўтограф. Сярод экспанатаў можна ўбачыць кнігі з дарчымі надпісамі вядомых беларускіх і расійскіх пісьменнікаў: Івана Шамякіна, Васіля Быкава, Івана Сяркова, малодшага брата Якуба Коласа Іосіфа Міцкевіча, Аляксея Дударава, Аляксандра Салжаніцына, Яўгена Еўтушэнкі, Юрыя Нагібіна.

Супрацоўнікі бібліятэкі распрацавалі электронную базу даных, у якой сабралі інфармацыю па гісторыі аўтографаў.

Нягледзячы на тое, што многія ўстановы культуры калекцыяніруюць аўтографы, аналагаў такога музея ў Беларусі няма.

Штрых-код

## Што будзе

**З 26 верасня па 9 кастрычніка** ў Шчучынскай цэнтральнай раённай бібліятэцы праходзяць тыдні спагадлівых адносін "Пачуць адно аднаго", прымеркаваныя да Дня пажылых людзей. Мэта мерапрыемства — аказаць падтрымку пажылым і адзінокім людзям.

**1 кастрычніка** Полацкая гарадская бібліятэка-філіял № 8 прэзентуе літаратурна-музычную кампазіцыю "Асенняга лісця і вершаў букет".

**1 кастрычніка** Астравецкая цэнтральная раённая бібліятэка запросіць на сустрэчу з былымі бібліятэчнымі работнікамі "Людзі пажылыя — душы маладыя".

**1 кастрычніка** работнікі Варнянскай сельскай бібліятэкі і сельскага дома культуры плануюць правесці агеньчык "Цяпло нашых сэрцаў — вашым пражытым гадам". У праграме — аповед пра заслужаных людзей вёскі, канцэртныя нумары.

**1 кастрычніка** Лошская бібліятэка-клуб Астравецкага раёна арганізуе вячоркі "Хай восень жыцця будзе залатой". У мерапрыемстве возьмуць удзел народны хор "Світанак" Варнянскага сельскага дома культуры і калектыў "Польскае рэха" Астравецкага раённага аддзялення Саюза палякаў на Беларусі.

**2 кастрычніка** ў чытальнай зале Пінскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Я. Янішчыц адбудзецца пасяджэнне аматарскага аб'яднання "Надзея" на тэму "Пара залатая ў прыродзе і ў жыцці…" (да Дня пажылых людзей).

**5 кастрычніка** ў аддзеле абслугоўвання і інфармацыі Навагрудскай цэнтральнай раённай бібліятэкі ўвазе наведвальнікаў будзе прапанавана гістарычная замалёўка "Незабыўны Незабытоўскі", прысвечаная 370-годдзю з дня нараджэння мемуарыста, філосафа, гісторыка.

**6 кастрычніка** ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага адбудзецца ўрачыстае адкрыццё арганізаванай сумесна з музеем Максіма Багдановіча выстаўкі "Музычны свет Максіма Багдановіча".

**6 кастрычніка** Лепельская цэнтральная раённая бібліятэка прэзентуе выстаўку-партрэт да Дня Маці: "Малая радзіма — вялікая любоў. Лёс жанчын-лепяльчанак".

**9 і 12 кастрычніка** адпаведна ў Малатковіцкай сельскай бібліятэцы Пінскага раёна і Астрынскай гарпасялковай бібліятэцы Шчучынскага раёна адбудуцца літаратурна-музычныя кампазіцыі "Маці, імя тваё нясу як святыню".

**13 кастрычніка** Новалукомльская гарадская бібліятэка (Чашніцкі раён) арганізуе літаратурна-музычную кампазіцыю "Усе мы жывём пад мамінымі зоркамі".

**14 кастрычніка** да Дня Маці супрацоўнікі Міхалішкаўскай сельскай бібліятэкі (Астравецкая ЦБС) і сельскі дом культуры правядуць агеньчык "І слова маці будзе жыць" для шматдзетных маці і іх дзяцей.

**15—16 кастрычніка** ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага пройдзе навуковая канферэнцыя "Род Валовічаў у гісторыі і культуры ВКЛ у XV—XVIII стст.", падчас якой будуць абмеркаваны гісторыя, лёсы знакамітых асоб, геральдыка знанага роду.

**16 кастрычніка** бібліятэкары Лагішынскай гарпасялковай бібліятэкі Пінскага раёна запрашаюць наведаць выстаўку кніг-юбіляраў 2011 года "Знаёмцеся: залаты фонд літаратуры для вас".

**18 кастрычніка** Браслаўская цэнтральная раённая бібліятэка правядзіць семінар бібліятэчных работнікаў "Пошук эфектыўных форм у працы з падрастаючым пакаленнем".

**19 кастрычніка** ў гонар 90-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта, заслужанага работніка культуры Беларусі Івана Муравейкі Лідская гарадская дзіцячая бібліятэка правядзе літаратурнае падарожжа па кнізе пісьменніка "Куды ні пойдзеш — цуды знойдзеш". Дапоўніць мерапрыемства кніжная выстаўка "І. Муравейка — дзецям".

**З 20 па 31 кастрычніка** ў бібліятэках Пінскага раёна будзе праводзіцца раённы агляд-конкурс аматарскіх аб'яднанняў "Бібліятэка — тэрыторыя захапленняў".

**25 кастрычніка** Віцебская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна прапануе чытачам літаратурны калейдаскоп "Куфэрак казак".

**26 кастрычніка** Браслаўская цэнтральная раённая бібліятэка правядзіць відэапрэзентацыю "Я хацеў бы сустрэцца з вамі" — да 120-годдзя Максіма Багдановіча.

**27 кастрычніка** ў аддзеле па абслугоўванні дзіцячага чытача Навагрудскай цэнтральнай раённай бібліятэкі пройдзе завочнае падарожжа "Турыстычны маршрут: Навагрудак — Шчорсы — Любча". Цікавыя мясціны Навагрудчыны (Замкавая гара, старыя будынкі і архітэктурныя помнікі горада Навагрудка, замак на беразе Нёмана ў Любчы, фальварак Мураванка і гаспадарчыя пабудовы, якія належалі магнацкаму роду Храптовічаў у Шчорсах) пазнаёмяць прысутных з найбагацейшай гісторыяй краю.

# «Гліняным звонам» Івянец склікае майстроў

**Калі задумацца, то керамічнае мастацтва адыгрывае надзвычай важную ролю ў гісторыі айчыннай культуры. Менавіта па асаблівасцях керамічных знаходак, выяўленых падчас раскопак, мы размяжоўваем культурныя перыяды старажытнасці, даведваемся пра тыя этнасы, што калісьці насялялі тутэйшыя землі. Таму адраджаць і развіваць традыцыі ганчарства — гэта адзін з напрамкаў захавання нацыянальнай самабытнасці нашага народа, фарміравання культурнага ўнёску беларусаў у скарбонку сусветнай культуры.**



**Алесь СУХАДОЛАЎ, фота аўтара**

Свята-конкурс майстроў ганчарства "Гліняны звон" у шосты раз сабрала рамеснікаў з усёй Мінскай вобласці. Каля сямідзесяці ўдзельнікаў прадставілі адзінаццаць раёнаў. Ужо трэці раз свята праходзіць у Івянцы (пасля фэстаў 1998 і 2008 гг.), што невыпадкова. Гэтаму паселішчу наканавана было стаць мястэчкам ганчароў, бо навакольная зямля хавала пад сабой вялікія запасы гліны. Сапраўдным цэнтрам керамічнага мастацтва Івянец апынуўся ў XIX — пач. XX ст. Пасля Другой сусветнай вайны, калі згаслі многія асяродкі ганчарнага рамяства па ўсёй Беларусі, дасведчаныя івянецкія майстры захавалі традыцыю. У 1955-м яны аб'ядналіся ў арцель, а ў 60-х гг. тут ужо дзейнічала фабрыка мастацкай керамікі і вышыўкі. Сённяшнія таленавітыя майстры гуртуюцца вакол мясцовага цэнтра рамёстваў. Яны здолелі адрадзіць цудоўнае мастацтва фляндраванай керамікі, што заключаецца ў аздабленні ганчарных вырабаў адмысловымі каляровымі малюнкамі і ўзорамі.

VI свята-конкурс "Гліняны звон" праходзіла на базе ўжо згаданага Цэнтра рамёстваў Івянецкага музея традыцыйнай культуры. Асноўнай часткай святкавання стаўся пленэр керамістаў Міншчыны. Майстэрні на адкрытым паветры цудоўна ўпісаліся ў асяроддзе сядзібна-паркавага комплексу пач. XX ст., а рэшткі цаглянага дома Пятра Драгунцова надалі падзеі запамінальнага рамантычнага каларыт. Нават дзеці з ліку юных удзельнікаў пленэру падхапілі гэты genius loci і адлюстравалі ў сваіх работах. Так, сямігадовая Валерыя Крычко з Любанскага раёна зляпіла дробную кампазіцыю "Мае ўражанні пра Івянец", дзе дзіцячая фантазія ўбачыла казачны замак з вежамі і конніка-ваяра.

Безумоўна, самае пачэснае месца сярод канкурсантаў займалі вытворцы гліпянага посуду, што за ганчарным кругам дэманстравалі сваё ўменне і прыцягвалі асноўную ўвагу гледачоў. Традыцыйна гэта мужчынскі занятак, аднак і жанчыны да яго не менш здатныя, што паказала Наталля Сідэрчык з Вілейкі. У фэсце прынялі ўдзел івянецкія ганчары Алег Капуста, Анатоль Высоцкі, Яўген Серафімовіч, Валерый Лапа, Уладзімір Зялёнка. Лагойскі раён прадстаўляў Мікалай Стрэльчанка, Дзяржынскі — Андрэй Шабар. Майстры выраблялі традыцыйныя глякі, гаршкі, вазы, а таксама мініяцюрны посуд, каб паказаць сваё мастацтва. Былі прадэманстраваны і больш экзатычныя вырабы. Сярод створанага на пленэры посуду вылучаўся гаршчок… з пукатымі абрысамі кавуна. Малады майстар А. Шабар выраблае афрыканскія барабаны, папулярныя сярод творчай моладзі: джамбей і малы "гаваркі" барабан уду. Шкада, што ніхто не прадставіў японскую кераміку. Хацелася б пабачыць беларускае раку — злепленыя ўручную, без выкарыстання ганчарнага круга, кубкі для традыцыйнай чайнай цырымоніі, што адлюстроўваюць грубаватую і разам з тым глыбока філасофскую эстэтыку дзэн-будызму.

Акрамя посуду і музычных інструментаў на свяце было прадстаўлена багата т.зв. малой пластыкі. На жаль, не адраджаецца належным чынам мастацтва глінянай цацкі, інтарэсы сённяшніх керамістаў больш скіраваны ў бок разнастайнай дэкаратыўнай мініяцюры. Прыемнае выключэнне склала творчасць маладога кераміста Сяргея Новікава, які прадстаўляў Мінскі раён. Ён паказаў цудоўныя фігуркі гліняных рыцараў, што стылістычна апелююць да традыцыйнай беларускай цацкі "коннік", але



іх вобразнае рашэнне больш сучаснае і можа разглядацца ў ключы шырока развітай сёння культуры "фэнтэзі". І, што вельмі важна, вырабы С. Новікава не губляюць сувязь з народнай творчасцю, з яе светлай, наіўнай эстэтыкай і сімвалічнай моваю узораў ды арнаментаў. У сваёй аснове яны застаюцца традыцыйнымі цацкамі-свістулькамі.

Запомнілася творчасць дзяўчат-керамістаў Ірыны Пятровіч і Таццяны Ракіцкай з в. Замасточча Мінскага раёна. І. Пятровіч стварыла дэкаратыўную вазу "Купальскі карагод", што выяўлена ў выглядзе ствала дрэва, які акаляюць аб'ёмныя фігуры дзяўчыны і хлопца. Майстар цудоўна ўвасобіла дынаміку руху і пластыку танца, што ўзнаўляе чароўную атмасферу народнага свята. Таццяна Дастанка з Любані прадставіла статуэтку "Жыццё пражыў я не дарма", дзе ў камічным, лялечным ключы вылепіла вялізнага бацьку з непрапарцыянальна малымі дачкой і сынам на каленях. Жыццё віравала вакол стэнда заслужанага аматарскага калектыву студыі "Скарбонка" пад кіраўніцтвам Мікалая Пратасені з Салігорска. Увагу наведвальнікаў прываблівала таксама шыкоўная выстаўка творчых здабыткаў гуртка, дзе дэманстраваліся яркія, расфарбаваныя і пакрытыя палівай вырабы.

Наогул, трэба адзначыць, што разам з творамі, вырабленымі падчас фэсту, канкурсанты дэманстравалі папярэдне падрыхтаваныя работы. Гэта дазваляла гасцям свята азнаёміцца і з працэсам вытворчасці ганчарных вырабаў, і з шырокімі магчымасцямі аздаблення і іх далейшай апрацоўкі. Была тут прадстаўлена і каляровая паліваная, і трывалая чорназадымленая кераміка. Магчыма, не перашкодзіла б дадаць у праграму свята правядзенне майстар-класаў, каб даць магчымасць наведвальнікам непасрэдна дакрануцца да таямніц рамяства, на сваё рукі адчуць характар гліны.

Яшчэ адной істотнай асаблівасцю свята-конкурса быў удзел нароўні з майстрамі дзяцей і юных навучэнцаў. Такі шлях найбольш дзейсны ў справе адраджэння традыцыі. Моладзь не толькі прыцягвалася да ганчарнай справы, атрымлівала магчымасць набірацца вопыту ў сталых майстроў, але і сама цудоўным чынам уплывала на дарослых калег. Гэтак адбывалася таму, што дзіцячай творчасці ўласцівы смелая фантазія і адкрыты погляд на свет. І, трэба сказаць, вучнёўскія работы ў гэтым сэнсе нямала прыцягвалі ўвагу. Спадабаўся мне твор аднаго з выхаванцаў студыі "Скарбонка". На ім была вылеплена пара дабрадушных мядзведзяў, а паміж імі — мужычок з балалайкай, які чамусьці знаходзіўся ў палёце. Непасрэднасць душы юных майстроў зараджае дарослых чыстай творчай энергіяй, дапамагае трымацца ў тонусе.

Упэўнены, што такія фэсты, як "Гліняны звон" у Івянцы, актывізуюць культурнае жыццё ў правінцыі, хаця і ў сталіцы яны не менш запатрабаваныя. Бо яны як з'явы самабытныя маюць свой турыстычны і нават маркетынгавы патэнцыял: спрыяюць наладжванню этнаграфічнага і экалагічнага турызму, да таго ж аўтэнтычныя вырабы беларускай керамікі могуць разглядацца як каштоўны экспартны тавар.

***На здымках: Таццяна Ракіцкая і яе работа "Стары млын"; івянецкі ганчар за ганчарным кругам.***

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## З глыбінкі

# Першы кліп музыкантаў

Яскравым прыкладам здольнасцей пакалення *next* стала з'яўленне таленавітай барысаўскай групы "Sun Road-21". Творчасць маладых музыкантаў, якія запісваюць свой першы альбом, не пакінула абыякавымі мясцовых тэлевізійшчыкаў. Прадстаўнікі тэлеканалаў "СВЕТ-ТВ" і "СКИФ" аб'ядналіся, каб зрабіць для іх першае прафесійнае відэа на песню "Смяюцца ўсе".

Яўген Лыткін, вядомы барысаўчанам як вядучы музычна-забаўляльных праграм мясцовага тэлебачання, выступіў рэжысёрам і сцэнарыстам відэа. Максім Малахаў, студэнт акадэміі мастацтваў, раней заўважаны ў праекце "Кінапланета", стаў аператарам-пастаноўшчыкам.

Два здымачныя дні праходзілі ў Мінску. Сярод аб'ектаў, што патрапілі ў кадр, аказаліся дах аднаго з шматпавярховых дамоў, кватэра і нават клуб тайскага боксу "Чынук", дзе падчас здымкаў трэніраваліся не толькі звычайныя спартсмены, але і чэмпіёны свету. Не абышлося без казусаў. Бас-гітарыст групы забыўся свой інструмент у аўтобусе, а магнітафон, які мусіў прайграваць песню, перыядычна даваў збоі. На другі дзень здымаліся масавыя сцэны і танцы на вуліцы. Тут удзельнічалі ўсе, хто жадаў. Так, сталіся задзейнічаны прадстаўнікі розных культур і нацыянальнасцей, нават дзяўчаты-кітаянкі і афраамерыканец. У апошнюю чаргу паводле сцэнарыя былі зняты гэтак званыя "сцэны сямейнага жыцця".

Галоўная задача, паводле слоў прадзюсара групы Андрэя Казлоўскага, — каб кліп выклікаў у гледачоў станоўчыя эмоцыі. І сапраўды: увечары першага здымачнага дня прыпеў "Смяюцца ўсе" напявала ўжо ўся здымачная брыгада. Выпадковыя прахожыя падхоплівалі матыў і ўсміхаліся ў адказ.

**Іван СЯМЁНАЎ, г. Барысаў**

# І алеем, і акварэллю...

У горадзе Орша, у мемарыяльным музеі Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава адкрылася выстаўка работ Наталлі Суславай. Цяпер побач з экспанатамі суровага ваеннага часу знаходзяцца яркія і жыццярадасныя карціны аршанскай мастачкі.

Творчасць Наталлі рознабаковая: яна піша алеем і акварэллю, робіць надзвычай прыгожыя манатыпіі і фотаздымкі беларускай прыроды, ставарае гліняныя, скураныя, лазовыя скрыначкі, скарбонкі, сумачкі. Гэтыя часам простыя, а часам і вельмі мудрагелістыя малюнкі, прыгожыя маленькія рэчы, зробленыя стараннымі рукамі мастачкі, фотаздымкі знаёмых пейзажаў, на якія мы часта не звяртаем увагі, спяшаючыся на работу ці дадому, — пакінулі добрыя ўражанні ў наведвальнікаў музея. Варта толькі паглядзець у кнігу водгукаў: "Наталля! Дзякуй, што вы ёсць і што вы дорыце радасць нам!", "Вельмі-вельмі-вельмі спадабалася!"

Будзем спадзявацца, што і майстэрства, і натхненне Наталлі хопіць яшчэ не на адну выстаўку.

**Марыя ГАЛУБЦОВА, г. Орша**

## Афарызм

*Не будзь гарматным мясам для чужых капрызаў.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2848
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 29.09.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4673
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686